# pARTisan

**Заснавальнік:** Артур Клінаў

**Рэдакцыйная рада:** Валянцін Акудовіч, Алесь Анціпенка, Ігар Бабкоў, Лявон Вольскі, Сяргей Дубавец, Валянціна Кісялёва, Сяргей Харэўскі, Вольга Шпарага

**Галоўны рэдактар:** Артур Клінаў

**Адказны рэдактар:** Лія Кісялёва

**Рэдактар нумару:** Таня Арцімовіч

**Карэктура:** Лія Кісялёва

**Пераклад на ангельскую мову:** Вольга Бубіч, Марына Рахлей, Сьвятлана Соўсь, Марыя Яшчанка

**Дызайн і вёрстка:** Мак Разанаў @ МаскRyazanov's FakeVintage & DesignStudio

**Фатаграфіі ©** Бісмарк, Аляксандар Веледзімовіч, Жанна Гладко, Уладзь Грамовіч, Алеся Жыткевіч, Яўген Канаплёў-Лейдзік, Міхаіл Лешчанка, Аляксей Навумчык, Мак Разанаў, Аляксандра Салдатава, Вольга Сасноўская, Сяргей Шабохін, Яўген Шадко, Аліна Швядкова, Юра Шуст, Bazinato, ToBee Queer, 34mag.net

**Адрас:** вул. Чарвякова 18-63
220068 Менск, Беларусь

**E-mail:** arturklinau@gmail.com

**На вокладцы:** Жанна Гладко. З праекту «Inciting Force». 2014

**The Founder and Editor-in-Chief:** Artur Klinau

**The Editor:** Lija Kisialova

**The editor of the issue:** Tania Arcimovič

**The Belarusian editors:** Lija Kisialova, Lida Naliuka

**The Translator:** Volha Bubič, Maryna Rakhlei, Sviatlana Sous, Maryja Jaščanka

**Design:** МаскRyazanov's FakeVintage & DesignStudio

**Cover:** Zhanna Gladko. «Inciting Force» project. 2014




**The Eurozine network's member (since 2014)**



eurozine

# ГЕНЭРАЦЫЯ НУЛЬ
# GENERATION ZERO

№ 28

Аляксей Барысёнак, Вольга Сасноўская

# «СТОМЛЕНАСЬЦЬ МАТЭРЫЯЛУ»: БІЯПАЛІТЫЧНАЕ ВЫМЯРЭНЬНЕ СЬВЯТА

Пэрсанальны праект Юры Шуста «Рэквіем па Новым годзе» (Галерэя «Ў», Менск, студзень 2014)

У сярэдзіне сьнежня 2014 году ў Беларусі ўспыхнула спажывецкая ліхаманка, аднак яе падштурхнула не традыцыйная переднавагодняя здабыча падарункаў і прадуктаў для сьвяточнага стала. Яе выклікала рэха вайны на ўсходзе Ўкраіны й анэксіі Крыму — падзеньне расейскай валюты (як наступства ўвядзеньня эўрапейскіх санкцыяў супраць Расеі), а сьледам і беларускага рубля, а таксама жорсткія захады з боку беларускай дзяржавы ў дачыненьні да дробнага мясцовага прадпрымальніцтва (напрыклад, закрыцьцё на пэўны час найбуйнейшых інтэрнэт-крамаў і гандлёвых цэнтраў). Гэты працэс актуалізаваў калектыўную памяць пра эканамічны крызыс і дэвальвацыю 2011 году. Не чакаючы каляпсу эканомікі Беларусі, якая збольшага функцыянуе за кошт уліваньняў расейскага капіталу, беларускае насельніцтва матэрыялізавала свае фінансы ў рознага кшталту тавары, ліхаманкава набываючы іх, альбо пераводзіла грошы ў замежную валюту.

Структурная цыклічнасьць крызысу — адзін з паняткаў, якімі часта яшчэ з часоў Маркса характарызуецца глябальная капіталістычная эканоміка, дзе няма роўнай працягласьці паміж момантамі заняпаду, а ён у розных формах уплецены ў тканіну эканамічнага ладу. Падобную схему можна назіраць і ў беларускім кантэксьце. Да панятку цыклічнасьці ў больш шырокім сэнсе зьвярнуўся год таму й мастак **Юра Шуст у праекце «Рэквіем па Новым годзе»**. Але ліхаманкавы фон апошніх падзеяў актуалізаваў шэраг вылучаных тады мастаком тэмаў, паказваючы, як цыкль замыкаецца на сабе. Таму зварот да матэрыялу гэтай выставы зноў становіцца актуальным. Так, адна з ключавых канцэпцыяў, на якой будуецца выказваньне Шуста, **— цыклічнае разуменьне часу ў апазыцыі да лінеарнасьці.** Больш падрабязна пра гэты фэномэн піша гісторык і антраполяг Глеб Гневашоў, адзначаючы той факт, што ў межах цыклічнага часу пачатак супадае з канцом, то бок гэта бясконцы кругавы рух. Тады як лінейны час — гэта «***незваротны працэс зьмены актуальнага стану***», які мае на ўвазе панятак будучыні як ніколі раней не перажыванага досьведу, а таксама наяўнасьць пачатку й канца (сьвету).

У пэрспэктыве цыклічнага ўспрыманьня часу падобныя ідэі актуальныя менавіта зараз, увесну 2015 году.

***

Экспазыцыя выставы «Рэквіем па Новым годзе» ўлучае набор аб'ектаў, аб'яднаных у шматслаёвую мастацкую інсталяцыю — эмпатычную прастору, цэльнасьць якой забясьпечваецца трывожнай музыкай і чырвона-зялёным сьвятлом. У той жа час аб'екты Шуста самадастатковыя й могуць быць выстаўленыя ў розных камбінацыях (што й адбылося пазьней: адзін з аб'ектаў аўтаномна эспанаваўся на калектыўнай выставе «OFFSIDE», прысьвечанай спорту). Працуючы са знакамі беларускай штодзённасьці, Юра Шуст канцэнтруе ў адным аб'екце некаторую напружанасьць, канфлікт, нерэалізаваную патэнцыю. (Лепшым прыкладам, мабыць, можна назваць ягоную працу для вокладкі каталёгу выставы сучаснага беларускага мастацтва ў Вільні «Opening the Door? Belarusian Art Today» — тут форма брыльянту новай нацыянальнай бібліятэкі была зьмешчаная на падстаўцы глёбусу.)

Выстава Юры Шуста нападае на тыя нешматлікія прасторы камфорту, якія засталіся ў сучаснага беларуса, — калі зьнясільвальная штодзённасьць расступаецца перад экстатычным калектыўным перажываньнем сьвята.



Новы год зьяўляецца найбольш натуралізаванай практыкай масавай эмпатыі, знаходзячыся пры гэтым за рамкамі канкрэтных ідэалёгій і рэлігіяў. Гэтае сьвята ня мае відавочнай палітычнай афарбоўкі (яно адзначаецца ў большасьці дзяржаваў) ці ідэалягічных канатацыяў (у адрозьненьне ад савецкай спадчыны — 8 сакавіка, Дня Кастрычніцкай рэвалюцыі — альбо такіх ужо сучасных сьвятаў беларускай дзяржаўнасьці, як Дзень незалежнасьці 3 ліпеня). Мабыць, у сацыякультурнай прасторы Беларусі, дзе рэлігійны дыскурс не адыгрывае вялікай ролі, Новы год азначае сабой кульмінацыйны пункт, што суправаджаецца спэцыфічнымі рытуаламі, якія тычацца як прыватнага (упрыгожваньне дамоў, кулінарныя практыкі, сустрэча са сваякамі й сябрамі), так і грамадзкага жыцьця (масавыя сьвяткаваньні на вуліцы, салют, тэлевізійны зварот прэзыдэнта).

«***Натуральнасьць — [...] гэта алібі, якім прыкрываецца грамадзкая большасьць***», і Юра Шуст трапляе ў адну зь ейных болевых кропак і «***выяўляе пад такой натуральнасьцю закон***»[1]. Шуст вылучае ключавыя ідэалягічныя зьвязкі ў тканіне натуралізаванага сьвята. Акрамя рэлігійных дыскурсаў (паганскага й хрысьціянскага), сюды ўлучаецца індустрыя спажываньня й накладваюцца ідэалягічныя фільтры сучаснага палітычнага ўяўнага: урачыстая прамова прэзыдэнта на мяжы 00:00 і дзяржаўны гімн сьледам за боем курантаў, а таксама сьвяточная трансфармацыя гарадзкой прасторы. Такім чынам, найбольш важнымі тэмамі выставы «Рэквіем па Новым годзе» сталіся сувязь сьвяткаваньня з цыклічным часам (1) і крытыка кансьюмэрызму й біяпалітыкі, што месьцяцца ў рытуальных практыках ідэалёгіі (2).

Юра Шуст. Экспазыцыя выставы «Рэквіем па Новым годзе». Менск, 2014
Jura Shust. Exposition of the exhibition «Requiem about New Year». Minsk, 2014

1

# ЦЫКЛІЧНАСЬЦЬ

Сьвята Новага году ўяўляецца як нешта незвычайнае, нештодзённае, новае, аднак, як у любой традыцыі, паўтаральнасьць і прадказальнасьць — ягоная неад'емная частка. З аднаго боку, ягоная прысутнасьць структуруе каляндарны час і не дазваляе патануць у штодзённасьці. Аднак паступова задавальненьне ад чаканьня й прадчуваньня сьвята, інтэнсіўнасьць ягонага перажываньня зьніжаюцца, вычэрпваюцца — магчыма, з прычыны сутыкненьня жаданьня незвычайнага й паўтору рытуалу.

Зь іншага боку, рытуал сьвяткаваньня, хутчэй, рэпрэсіўны: ён не спантанны, а замацаваны ў календары й рэглямэнтаваны як сацыяльная практыка.

Гэты канфлікт паміж навізной-незвычайнасьцю й паўтаральнасьцю-рэглямэнтацыяй іранічна адлюстраваны ў гадавой падборцы савецкіх часопісаў «Новый мир» за 1984 год[2], прадстаўленых у выстаўнай прасторы. Цэнтральны аб'ект выставы — немаркаваны канкрэтным рытуалам рытуальны ёрш, які ўбірае ў сябе атрыбуцыю сьмерці (праз пахавальны вянок) і жыцьця (праз навагоднія ўпрыгожаньні). Жалобная араторыя рэквіему наўпрост адсылае да разьвітаньня зь мёртвым. Тым самым Шуст падкрэсьлівае непарыўную сувязь марнаваньня й папаўненьня, жыцьця й сьмерці, якая, аднак, выцясьняецца з матрыцы цыклічнага часу й застаецца дэнатуралізаванай і адхіленай.

**Філіп Ар'ес** вылучае некалькі этапаў трансфармацыі стаўленьня да сьмерці ў заходнеэўрапейскай культуры. Ён сьцьвярджае, што ў XX стагодзьдзі разьвіваецца страх перад сьмерцю й дыскурсам пра яе. Гэты этап Ар'ес называе «***сьмерць перавернутая***», калі яна адмаўляецца, хаваецца, становіцца вельмі інтымнаю справай, а мёртвае цела й ягоная фізіялёгія выклікаюць агіду[3]. Хвароба й сьмерць выцясьняюцца са сфэры штодзённасьці ў сфэру мэдыцыны. Працяглае, калектыўнае й дэманстратыўнае аплакваньне перастае практыкавацца. Жыцьцё й сьмерць уключаюцца ў біяпалітычную зацікаўленасьць дзяржаваў. Сучасны капіталістычны й неалібэральны парадак, які культывуе шчасьце, маладосьць і імгненнасьць-інтэнсіўнасьць перажываньня кожнага моманту, прымушае наогул забыцца пра сьмерць. Мёртвыя, на думку **Ж. Бадрыяра**, зьяўляюцца першымі, каго выключаюць: «***Аднак ёсьць яшчэ адзін акт выключэньня, які адбыўся раней за ўсе іншыя й быў больш радыкальны, чым выключэньне вар'ятаў, дзяцей і ніжэйшых расаў, які папярэднічаў ім і служыў для іх узорам, які наогул ляжыць у аснове ўсёй "рацыянальнасьці" нашай культуры: гэта выключэньне мёртвых і сьмерці***»[4]. Рытуальны ёрш ня толькі зводзіць у адно пачатак і канец (усё-такі традыцыя выкарыстоўваць галіны елкі як на пахаваньні, так і ў сьвяткаваньні Новага года існуе даўно), але й агаляе вытворчую й спажывецкую частку рытуалу сьмерці й пачатку.

Лінейны час перагукаецца з ідэалёгіяй прагрэсу й мадэрнізацыі, а таксама эканамічнага росту сучаснага капіталізму, а значыць — з рэжымамі падпарадкаваньня й эксплёатацыі (рэсурсаў і працоўных) і нарошчваньня капіталу (з спадарожным павелічэньнем разрыву паміж багатымі й беднымі). Цыклічны час падкрэсьлівае непарыўнасьць чалавека й асяродзьдзя, дазваляе зразумець чалавечае функцыянаваньне й спосабы ўбудоўваньня ў яго. У гэтай пэрспэктыве канцэпцыя цыклічнага часу падтрымліваецца крытыкай капіталізму, які ёсьць сыстэмаю эксплёатацыі прыродных рэсурсаў і, адпаведна, непасрэднай прычынай зьмены клімату. Рэпрэсіўны рэжым індустрыяльнай і адміністрацыйнай вытворчасьці дробніць штодзённасьць і рэглямэнтуе працоўны (напрыклад, 5-дзёнка) і вольны час (выходныя), які патрабуецца для аднаўленьня сілаў. Такім чынам рэжым імкнецца ліквідаваць «час нерацыянальнай растраты», што ўпісваецца ў тэзыс Л. Альтусэра пра аднаўленьне вытворчай сілы[5]. (Што тычыцца Беларусі, у гэтую лёгіку ўбудаваныя дыскусіі пра шкоду дармаедаў і ўзьнікненьне адпаведных законаў.)

Аднак у сьвятле сучасных — постфардысцкіх — умоваў вытворчасьці, а менавіта ў сувязі з павелічэньнем ролі нематэрыяльнай, прэкарнай працы, зьмяняецца й дыспазыцыя свабоднага й працоўнага часу. З аднаго боку, мяжа паміж працай і вольным часам размываецца празь нерэглямэнтаваныя працоўныя гадзіны й месцы (фрыланс), а таксама праз выкарыстаньне элемэнтаў забавы ў сучасных працоўных зносінах (карпаратыўная культура з своеасаблівымі рытуаламі, фэномэн «крэатыўнага клясу»). Зь іншага боку, вольны час капіталізуецца, улучаючыся ў індустрыю спажываньня й забавы, — і нават набывае рэпрэсіўны характар: ад цябе патрабуюць, каб ты весяліўся, атрымліваў задавальненьне. Такія трансфармацыі культуры апісваюцца ў тэрмінах падзейнага капіталізму (eventcapitalism), які дробніць карнавальнасьць, напаўняючы ёю штодзённасьць, а сьвятам — саму структуру працы. Можна нават параўнаць сучасны позьнекапіталістычны амаль рэлігійны культ працы на знос, працы, якая ніколі не заканчваецца й дзе індывід адчужаецца ад сябе дзеля «містычнага саюзу з абстрактным патокам глябальнага капіталу»[6], з сучасным модусам забавы, экстатычнага зьнясіленьня, наркатычнага адлучэньня ад рэальнасьці й сябе, «party till you drop». Неабходна разумець важнасьць новых пагрозаў, якія тоіць у сабе постфардысцкі рэжым працы з усімі праблемамі прэкарызацыі й няўстойлівасьці й пазьбягаць іх рамантызацыі. Аднак бясспрэчна важнымі застаюцца **анархісцкая радасьць адмовы ад працы, уцёкі ад дысцыпліны, якая прайграецца ў цыклічнай структуры часу** («*Ад працоўнай этыкі да не-працоўнай эстэтыкі*»[7]). Неабходна драбіць час працы й вольнага часу, зыходзячы са сваіх інтарэсаў і сіл, па-бартаўску знаходзіць працу ў самім адпачынку («***Трэба ня проста на працягу працоўнага дня мець на ўвазе вячэрнія задавальненьні (гэта й ёсьць банальнае), але й наадварот, каб зь вячэрняй асалоды ў рэшце рэшт нараджалася жаданьне дачакацца заўтрашняга дня й зноў прыняцца за працу***»[8]).

Традыцыя сьвяткаваньня Новага году ў Савецкім Саюзе захоўвала ў сабе элемэнт карнавальнасьці, дыскурсіўна зьвязанай з чаканьнем цуду, казкай, сьціраньнем межаў і зьменай сацыяльных пазыцыяў.

**Эрык Хобсбаўм** вызначае вынаходзтва традыцыі як «***набор практык, якія звычайна кіруюцца адкрыта альбо вызначаюцца маўклівa прынятымі правіламі рытуальнай або сымбалічнай прыроды, што імкнецца ўкараніць пэўныя каштоўнасьці й нормы паводзінаў з дапамогай паўтарэньня, якое аўтаматычна фармуе***

***кантынуальнасьць з... прыдатным гістарычным мінулым***»[9]. Асноватворны элемэнт карнавалізацыі, паводле Бахціна, — гэта сьмех, высьмейваньне як улады, так і сябе. Карнавалізацыя структурна важная для ўлады, бо дазваляе аслабіць сацыяльнае напружаньне, пакінуць за дужкамі эканамічныя й палітычныя цяжкасьці, што асабліва актуальна ў гэтым годзе для беларускага кантэксту ў сьвятле эканамічнага крызысу. Бахцін, вывучаючы культуру Сярэднявечча праз творчасьць Франсуа Рабле, характарызуе карнавал як асаблівую сацыяльную практыку, дзе перакульваюцца бінарныя апазыцыі: жыцьцё й сьмерць, мужчынскае й жаночае, суб'ект і аб'ект улады[10]. Але калі ў сярэднявечнай культуры карнавал быў зонай выпадзеньня з сацыяльных структураў і прыпыненьня ўладных зносінаў, то сёньняшні постындустрыяльны капіталізм, у які ўключаныя сучасныя сьвяты, утрымлівае ў сваім ядры адрозьненьне, багацьце й разнастайнасьць адначасова.

2

## РЫТУАЛЬНЫЯ ПРАКТЫКІ ІДЭАЛЁГІІ

Адным з важных аб'ектаў экспазыцыі, які наўпрост не стасуецца з тэмай Новага году, але крышталізуе дачыненьні ўлады, што працуюць у сучаснай Беларусі, зьяўляецца readymade-аб'ект **— кубак пераможцы, які складаецца з двух целаў барцоў, што перакідваюць адзін аднаго праз сьцягно**. Шуст дадае падстаўку для другой фігуры й такім чынам замацоўвае ўзаемадачыненьні пастаяннай барацьбы. На якой бы падстаўцы ні стаяў кубак, адзін са змагароў заўсёды аказваецца пераможаным. Такім чынам, у дадзеным аб'екце Шуст рэпрэзэнтуе ідэалёгію дамінанты, калі паноўны дыскурс улады падпарадкоўвае й маргіналізуе любыя адхіленьні ад магістральнай лініі.

Афіцыйная культура (як і палітыка) манапалізуе права на публічнае выказваньне й ягоную інтэрпрэтацыю й выключае «мінарытарныя» дыскурсы, выцясьняючы іх з інстытуцыйнай матрыцы.

Аб'ект робіць бачнымі апазыцыю й канфлікт, але замацоўвае немагчымасьць разнастайнасьці выказваньняў. У той жа час аб'ект адсылае да спорту — яшчэ адной натуралізаванай, упадабанай уладай практыкі. Паколькі беларуская дзяржаўная ідэалёгія пераважна будуецца на перамозе ў Другой сусьветнай вайне як ключавой для нацыі падзеі й не грунтуецца на пераемнасьці й нацыянальнай гісторыі (Б. Андэрсан), як гэта характэрна для стандартнага фармату нацыянальнай дзяржавы, то спорт зьяўляецца вельмі зручным інструмэнтам вытворчасьці калектыўнага цела па-за ідэалёгіямі. Спартовыя практыкі ідавочна спаяныя з прагматычнымі інтарэсамі ўлады: будаўніцтва спартовых палацаў, асабістая зацікаўленасьць прэзыдэнта ў спорце, ідэалягізацыя правядзеньня Чэмпіянату сьвету па хакеі ў 2014 годзе ў Менску, уганараваньне спартоўцаў узнагародамі героя Беларусі. **Панятак нацыянальнага гонару зьвязваецца са спартовымі дасягненьнямі**, аднак спорт галоўным чынам прыпісаны да прафэсійнай сфэры. Паказьнік «спартовай нацыі» чыста бюракратычны — гэта колькасьць створаных і кантраляваных дзяржавай спартовых пляцовак і заваяваных мэдалёў. Спорт тут магчымы толькі ў дыскурсе прафэсіяналізму; дасягненьні й спаборніцтвы як актыўнасьць, арганізаваная дзяржаваю й падкантрольная ёй, лякалізаваныя ў адмысловых прасторах і вымяраюцца колькасным паказьнікам, які ўспрымаецца ня пэўным жывым целам, празь ягонае перажываньне, а на афіцыйным узроўні. У цэлым спорт таксама ёсьць адным з ключавых вузлоў замацаваньня дысцыпліны, кантролю над целам і ўпісваньня яго ва ўладныя дачыненьні.




Рэглямэнтацыя разнастайных сьвяточных рытуалаў — ад асабістых (дні народзінаў, вясельлі, пахаваньне) да калектыўных (рэлігійныя й дзяржаўныя сьвяты) — упісваецца ў пэўны біяпалітычны парадак, зьвязаны з канкрэтнай гістарычнай канфігурацыяй, уласьцівай пэўнай краіне. **Мішэль Фуко** разважае пра біяпалітыку як пра структуру ўпісаньня й рэгуляваньня формаў жыцьця (або сьмерці) у даміноўным дыскурсе ўлады. Гэта зьвязана з трансфармацыяй структуры кіраваньня лібэральнымі грамадзтвамі й зьменай фокусу зь фіксаванага капіталу на жывы капітал — гэта значыць узнаўленьне рабочай сілы (рэгуляцыя нараджальнасьці, кантроль над насельніцтвам, міграцыяй, аховай здароўя, гігіенай і г. д.). Фуко пазначае гэта як **пераход ад «прымусіць памерці або дазволіць жыць» да «прымусіць жыць або дазволіць памерці»**[11]. Рытуал сьвяткаваньня Новага году ўключае набор практык, якія зьвязаныя са структурай адпачынку й працы і, такім чынам, зьяўляюцца часткай біяпалітычнага парадку. Біяпалітыка суб'ектывуе людзей у якасьці насельніцтва й рэглямэнтуе іхнае жыцьцё сацыяльнымі прыладамі, зьвязанымі з нараджэньнем, рэпрадукцыйнымі тэхналёгіямі, аховай здароўя, гігіенай і г. д.

Такім чынам, біяпалітыка адсылае не да самога моманту сьвяткаваньня (гэта зьвязана з рознымі сьвецкімі й рэлігійнымі сьвятамі), але да набору сацыяльных практык, якімі структуруецца сьвята. Карнавальнасьць, упісаная ў біяпалітычны парадак, робіць сьвята рацыянальнай прыладай, якая прадукуе вытворчую сілу. Элемэнты карнавальнасьці: прыбіраньне, упрыгожваньне, закупы, чысьціня й бруд, лімінальны стан, — нівэлююцца да жаданьня запоўніць працоўны час пасьля выходных або вакацыяў. Новы год робіць відавочнай рыторыку дыскурсіўных сетак, у якіх фармулюецца біяпалітычны парадак. Напрыклад, у сьвяточных прамовах прэзыдэнта, дзе адбываюцца маніпуляцыі зь «я» й «мы», эксплёатуюцца вобразы сямейнасьці — такім чынам улада прабіраецца ў самае сэрца інтымных узаемадачыненьняў[12].

Юра Шуст. Экспазыцыя выставы «Рэквіем па Новым годзе». Менск, 2014
Jura Shust. Exposition of the exhibition «Requiem about New Year». Minsk, 2014

Стол з шампанскім, накрытым магільнай плітой (яшчэ адзін аб'ект інсталяцыі Шуста), адсылае да некалькіх сацыяльных практык. Па-першае, шампанскае — традыцыйны сымбаль сучаснага сьвяткаваньня Новага году. Па-другое, алькаголь (зрэшты, часьцей віно, чым шампанскае) — звыклы атрыбут адкрыцьця выставы. І сам характар гэтых падзеяў, і стан ап'яненьня бы зьяўляюцца сродкамі разьняволеньня й умоўнага выхаду за межы штодзённасьці. Але пліта, якая накрыла келіхі, паказвае немагчымасьць гэтага стану. Разам з тым варта прыгадаць, што ў Беларусі вытворчасьць і спажываньне алькаголю кантралююцца дзяржавай, яна ж атрымлівае й прыбытак ад яго продажу. Алькаголь — гэта легітымная, кантраляваная весялосьць, карысны для сыстэмы сродак зьняцьця сацыяльнага напружаньня, у тым ліку спосаб фармаваньня прасторы сьвята, якое ставарае бачнасьць пэўнай сфэры свабоды.

Экспазыцыя выставы ўвогуле адметная складанасьцю й шматзначнасьцю аб'ектаў, відавочных сымбаляў, здольных пры гэтым выразна й дакладна камунікаваць з публікай без патэрналісцкага суправаджальнага аўтарскага тэксту, які апэлюе да агульнай культурнай базы. Такая самастойнасьць важная ў кантэксьце беларускай культурнай і палітычнай прасторы, прасякнутай самацэнзурай, няўпэўненасьцю й самакалянізацыяй, зьвязанымі са страхам заявіць пра сваю пазыцыю й самастойна выказваць меркаваньні, што асабліва прыкметна ў сыстэме адукацыі, пабудаванай на існаваньні правільнага адказу. З аднаго боку, экспазыцыя ставіць пад сумнеў натуралізаваныя практыкі й традыцыі. Зь іншага — чырвона-зялёнае сьвятло, якое запаланяе прастору выставы, **часткова блякуе свабоду інтэрпрэтацыяў і сэнсаў**, як і магільная пліта, што накрывае келіхі.

Усюдыпранікальнае сьвятло маніфэстуе непазьбежнасьць — немагчымасьць выхаду за рамкі сыстэмы, — агаляючы такім чынам сфабрыкаванасьць міту пра Новы год як пра мажлівасьць пераадолець межы штодзённасьці, пэрыяд лімінальнасьці, часовай адмовы ад сацыяльных нормаў, пазыцыяў і дачыненьняў.

Надпіс «Будучыня» на сьцяне — шрыфтам, які звычайна выкарыстоўваецца ў мэдыя як адсылка да «беларускасьці», — таксама артыкулюе праблематычнасьць канструкту будучыні. Будучыня нерэальная, нябачная, неадчувальная, недасяжная. Вэрбалізацыя й матэрыялізацыя ў форме надпісу — гэта спроба ўхапіць яе й зафіксаваць. У лінеарнай канцэпцыі часу будучыня — гэта досьвед, які мы яшчэ ніколі не перажывалі. Але што гэтая сацыяльная, палітычная й эканамічная рэальнасьць можа прапанаваць у якасьці будучыні, акрамя бясконцага паўтарэньня інтэнсіўнага перажываньня сучаснасьці й адмаўленьня сьмерці? Адзін з аб'ектаў экспазыцыі — ланцуг у форме гірлянды — адсылае да адваротнага боку сьвяткаваньня — да структураў панаваньня й камэрцыйнай індустрыі, якая правакуе жаданьне спажываць. У выпадку Беларусі аўтарытарны рэжым не дазваляе сабе драбіць і тым самым губляць кантроль над калектыўным целам **— Сьвята цэнтруецца вакол афіцыйных датаў і Новага году**. Такім чынам, сьвята, якое павінна зьмяшчаць у сабе анархісцкую карнавальную практыку, сталася структурнай часткаю біяпалітычнага парадку, г. зн. кантролю ўлады над жыцьцём насельніцтва.

Нібыта мэталу, які, манатонна працуючы ў мэханізьме, хутка зношваецца, калектыўнаму целу неабходны іншы рытм, штуршок, які здыме сацыяльную стомленасьць і нанова спрадукуе вытворчую сілу.

[1] Барт Р. Ролан Барт о Ролане Барте. М.: ООО «Ад Маргинем Пресс», 2012. С. 133.

[2] Адсылае да антыўтопіі «1984» Дж. Оруэла.

[3] Арьес Ф. Человек перед лицом смерти. М., 1992. С. 351.

[4] Бодрийяр Ж. Символический обмен и смерть. М.: «Добросвет», 2000. С. 173.

[5] Альтюссер Л. Идеология и идеологические аппараты государства (заметки для исследования): http://magazines.russ.ru/nz/2011/3/al3.html

[6] Campagna F. Listento Britney Spears — work is the new religion: http://www.theguardian.com/commentisfree/2013/oct/07/britney-spears-bitch-work-religion

[7] Бананно А. Вооруженная радость // Бананно А. На ножах со всем существующим. Рига: «Умопомрачительный самиздат», 2006.

[8] Барт Р. Ролан Барт о Ролане Барте. М.: ООО «АдМаргинем Пресс», 2012. С. 159.

[9] Hobsbawm E. Introduction: Inventing Traditions in The Invention of Tradition (Hobsbawm E.; Ranger T., eds). Cambridge: Cambridge University Press, 1985. P. 1.

[10] Бахтин М. Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и Ренессанса. М.: «Художественная литература», 1990.

[11] Фуко М. Нужно защищать общество. СПб.: Наука, 2005. С. 255.

[12] У прамове 2004 году Аляксандар Лукашэнка падкрэсьліў: «У мяне ёсьць унікальная магчымасьць сустрэцца з вамі, калі вы сабраліся за сьвяточным сталом у коле самых блізкіх вам людзей. Гэтае прэзыдэнцкае паўнамоцтва нідзе не прапісанае, але для мяне яно — адно з самых прыемных і адказных».

Марыя Яшчанка

# АНТОН САРОКІН: ФОРМЫ ЦІШЫНІ ЯК ФОРМЫ НОВАЙ САЦЫЯЛЬНАСЬЦІ

*Калі мы дастаем мікрафон і націскаем на кнопку ЗАПІСУ, мы вырабляем астаткавасьць. Мы чуем далей за неабходнасьць. Гэтая астаткавасьць зьяўляецца мэдыюмам міжсуб'ектыўнасьці. Гэта маніфэстацыя даверу, каб некаторы час ня ведаць сваё «патрабаваньне». Давер у працэсе, давер — гэта й ёсьць працэс.*

Ultra-red accosiation[1]

Уцягнутасьць у прастору гукаў — натуральны стан чалавека. Гэтая ўцягнутасьць, якая рэалізуецца пасіўна й на якой звычайна мы не факусуемся, патрабуе, аднак, адмысловай увагі ў мастацтве, мэдыюмам якога ёсьць ГУК. Гук, ВЫХАПЛЕНЫ з рэальнасьці, захаваны ў памяці, гук, які вандруе па сьвядомасьці й выліваецца ў новыя формы пачуцьцяў, насталгіі, прадчуваньня; альбо гук У РЭАЛЬНАСЬЦІ — як частка сьвету, частка ягоных машынаў, мэханізмаў і дэманаў, якія ствараюць ПРАСТОРУ ГУКУ. Асяродак гуку, у сваю чаргу, — гэта ўмова разьвіцьця й руху грамадства, гэта своеасаблівая структурнасьць, альбо фактычнасьць, у глыбіні якой зараджаецца будучыня.

## ШТО ВЫ ЧУЕЦЕ Ў ЦІШЫНІ?

Менавіта такое пытаньне, што заблытвае сваёй супярэчлівасьцю: «Ці можна чуць у цішыні?» — узьнікае пры звароце да праекту беларускага **саўнд-мастака Антона Сарокіна «Беларусь 4'33. Формы цішыні»**[2], што ўпершыню быў прадстаўлены ў межах выставы «Прадчуваньне вайны» ў Чэскім культурным цэнтры ў Бэрліне ўвосень 2014 году. Назва праекту й працягласьць кожнага аўдыётрэку — 4 хвіліны й 33 сэкунды — адсылае да працы Джона Кейджа, які яшчэ ў сярэдзіне XX стагодзьдзя падрыхтаваў пустую партытуру для выкананьня чатырох хвілінаў і трыццаці трох сэкундаў цішыні (відаць, можа выконвацца любой колькасьцю музыкаў — sic!), тым самым пашырыўшы разуменьне таго, што такое «музыка» й «музычнае». У межах выставы, якая разгортвалася вакол ідэі вайны (як у беларускім гістарычным мінулым, так і ў сучасным грамадзкім дыскурсе), разуменьне «цішыні» набыло палітычны характар. То бок цішыня тут перш за ўсё сталася грамадзка значнай, але яна п(е)ражываецца кожным паасобку — цішыня параноіка й бунтара, цішыня сумленьня й думкі, у тым ліку й цішыня маўклівай ваяўнічасьці. Праз прызму гуку Антон Сарокін зьвярнуўся да рэальных палітычных падзеяў: жорсткага здушэньня пратэстаў на плошчы Незалежнасьці ў Менску ў 2010 годзе («Цішыня 0»), асуджэньня двух чалавек за тэракт у менскім мэтро ў 2011-м («Цішыня 1»), уціску грамадзянскіх правоў у Беларусі («Цішыня 2»). У гэтых аўдыёпрацах мастак перадусім сьведчыць, але адначасова й разьбірае мэханізмы гвалту й іхны ўплыў на сьвядомасьць людзей (так, напрыклад, гук міліцыянскіх ботаў — гэта ня толькі фактычная фізычная небясьпека, але й заселены ў сьвядомасьці страх).

Гукавыя маніпуляцыі над запісамі рэальных палітычных падзеяў утвараюць новыя сэнсы. Так, «Цішыня 1» створаная на падставе запісаў судовага паседжаньня па справе тэракту ў менскім мэтро, падчас якога пазьней асуджаныя на сьмяротнае пакараньне Дзьмітры Канавалаў і Ўладзіслаў Кавалёў адказваюць на стандартныя справаводныя пытаньні. У гэтай працы мікрагукі звычайна не заўважаюцца, на першы плян выходзяць гукі фотаўспышак, друкавальных машынак, цягніку ў мэтро. Самі ж словы — пытаньні й адказы падчас суда — выконваюць другарадную ролю (хоць звычайна першае, што мы чуем і распазнаем у штодзённым жыцьці, — гэта менавіта гаворка). Апытанка прадстаўніка ўлады паўтараецца двойчы, а адказаў падсудных практычна не чуваць. Такім чынам, машына правасудзьдзя працуе аднабакова й забясьпечваецца шматлікімі мэханізмамі абструкцыі. Абстрактныя гукі й перашкоды становяцца больш гучнымі й у рэшце рэшт ператвараюцца ў цэласны расповед. Шум узмацняецца, а потым рэзка абрываецца, **пакідаючы ў вушах слухача пульсоўную цішыню: гэта разьвязка,** зьдзяйсьненьне сьмяротнага прысуду альбо канчатковая адмова ад удзелу ў цырку правасудзьдзя. (Падобная сытуацыя паказаная ў фільме «Левіяфан» Андрэя Зьвягінцава, дзе абсурднасьць судовага пасяджэньня перадаецца з дапамогай прамовы судзьдзі, сказанай на незвычайнай хуткасьці, — здаецца, гэта немагчыма ні вымавіць, ні зразумець.) Шум ахоплівае й запаўняе гэты пастановачны спэктакаль, у якім выказваньні залішнія, улічваючы той факт, што ўсе рашэньні ўжо прынятыя.

Рух цягніку, парывы ветру й цішыня — гэта ўсё, што замяняе развагі.

## ПРА ШТО НАМ ~~НЯ (?)~~ ВАРТА МАЎЧАЦЬ?

Зьвязваньне гукавай рэальнасьці й рэчаіснасьці сацыяльнага сьвету падобным чынам працуе й у іншым праекце Антона Сарокіна **«Пашпарт аб'екту»[3]**, падрыхтаваным адмыслова для выставы «OFFSIDE», якая адбылася ў галерэі «Ў» у Менску ў траўні 2014 году, падчас Чэмпіянату сьвету па хакеі. У гэтым праекце ідэя маніпуляваньня запісанымі гукамі набывае больш мэлядычную форму: гук ляза ад канька, які сьлізгаціць па лёдзе, рытм працы на будаўнічых пляцоўках, вакальны фрагмэнт, які аказваецца словамі прэзыдэнта (з прычыны аддаленасьці гуку й шматразовага рэха спачатку складана разабраць гэтую прамову). Гэта прыклад **«канкрэтнай музыкі»[4]**, якая складаецца зь



Анро. У вышуку. Палатно, алей. 2013
Anro. Wanted. Oil on canvas. 2013

пераўтвораных і апрацаваных гукаў навакольнага асяродзьдзя. Праз настойлівасьць, зь якой суровая рэальнасьць набывае небясьпечна музычны характар, такая акуратная фіксацыя гукаў навакольля нагадвае моманты зь фільму Ларса фон Трыера «Танцорка ў цемры»[5].

Сама назва «Пашпарт аб'екту» ўзьнікла з алюзіі на шыльды на будаўнічых пляцоўках, колькасьць якіх рэзка памножылася ў Менску перад чэмпіянатам. Менавіта ў гэтай гукавой рэальнасьці — будаўнічага шуму, зь якога вырасталі кварталы, што зьмянілі ўспрыманьне гораду, — і нарадзілася выказваньне Антона Сарокіна пра хакейнае «сьвята». Паскарэньне будаўнічых тэмпаў знайшло адлюстраваньне ў выглядзе рытмаў, якія паказваюць на «будаўнічы прагрэс»[6] у сталіцы й рэгіёнах, — прагрэс, што апраўдваецца на палітычным узроўні ідэямі прыярытэтаў



разьвіцьця сацыяльнай сфэры, але ў сапраўднасьці хавае рэальныя мэты: дэманстрацыю ўлады, адзяржаўленьне спорту й, верагодна, атрыманьне даходаў непасрэдна ўцягнутымі ў будаўніцтва бакамі. Грамадзкасьць задаецца іншымі пытаньнямі: **што будзе, калі чэмпіянат скончыцца, для каго будуюцца гэтыя лядовыя палацы? За чые рэсурсы? І ці няма іншых, больш важных прыярытэтаў разьвіцьця сацыяльнай сфэры? Так, вырастаюць новыя раёны, і Менск зьмяняе сваё аблічча, але на карысьць каго?** Гэтыя пытаньні адсылаюць да антыўтопіі «Катлаван» Андрэя Платонава, у якой расказваецца пра павелічэньне тэмпаў будаўнічых працаў у 1930-я:

*— Не убывают ли люди в чувстве своей жизни, когда прибывают постройки? — не решался верить Вощев. — Дом человек построит, а сам расстроится. Кто жить тогда будет? — сомневался Вощев на ходу.*

Наўрад ці прыцягненьне шматлікіх рэсурсаў прывяло да значных станоўчых зьменаў гарадзкога асяродзьдзя Менску. Хутчэй за ўсё, гэтыя рэсурсы пераразьмеркаваліся на карысьць нявызначанага (?) кола асобаў. «Пашпарт аб'екту», такім чынам, *абстрактна* й *музычна* крытыкуе спартовае мерапрыемства зь ягонымі атрыбутамі — коўзанкамі, будоўлямі, сьвяточнымі ўпрыгажэньнямі ў выглядзе «зубраў з клюшкамі», а таксама ўяўнымі свабодай і гасьціннасьцю нацыі (згадайма, напрыклад, часовае «зьняцьце забароны» на ўжываньне алькаголю ў грамадзкіх месцах альбо спрашчэньне візавага рэжыму, якія, аднак, ня зьменшылі бюракратызм і ціск сыстэмы «паліцэйскай» дзяржавы).

## ХТО СТВАРАЕ НАШ ГОРАД?

Тэма зьменлівага гораду выяўляецца й **у праекце «Біт Менску»**[7], які быў створаны Антонам Сарокіным і Аляксеем Навумчыкам у 2013 годзе. Гэты праект складаецца з аўдыёміксаў і фотаздымкаў, зьвязаных з падзеямі на Плошчы ў 2010 годзе, у менскім мэтро й штодзённым жыцьцём знакавага для сталіцы кінатэатру «Перамога». Кожны мікс дакладна прывязаны да пэўнай кропкі на мапе Менску. У гэтых працах мастакі аддаліліся ад адкрытай дакумэнтальнасьці й выразных часавых абмежаваньняў рэпрэзэнтацыі. Гукі месцаў паходзяць з рэальных знакавых падзеяў, і таму перш за ўсё маюць значэньне для жыхароў гораду, якія могуць распазнаць асобныя моманты менавіта ГЭТАЙ гукавой рэальнасьці.

Аб'ектыўнасьць рэпрэзэнтацыі месцаў, выбраных у горадзе, аднак, не зьяўляецца самамэтай. Ключавым момантам гэтых працаў, хутчэй, ёсьць вызначэньне *«пачуцьця / адчуваньня месца»*, досьвед якога ў сфэры гукавай рэальнасьці апісаў П'ер Шэфэр, увёўшы тэрмін «soundmark» («гукавы арыентыр»), аналягічны ангельскаму «landmark» («арыентыр у прасторы»). Шэфэр вызначае soundmark як **гук, на які грамадзтва зьвяртае ўвагу, а такі «заўважаны» соцыюмам гук заслугоўвае фіксацыі, захаваньня, архівацыі**. Такім чынам, сярод задачаў праекту «Біт Менску» — захаваньне й распаўсюд «гукавых арыентыраў» і тым самым вызначэньне тых сацыяльна-палітычных умоваў, у якіх знаходзіцца беларускае грамадзтва. Фрагмэнты зь «Біту Менску» маніпулююць нашай гукавой памяцьцю, дастаюць зь мінулага знаёмыя эмоцыі, зьвязаныя зь месцамі, пераапрацаванымі ў праекце (адсылка да «пачуцьця / адчуваньня» месца), і такім чынам матывуюць нас памятаць знакавыя для нас і гісторыі нашага гораду прасторы й падзеі.

Ідэя таго, што акустычны асяродак ёсьць умоваю разьвіцьця грамадзтва й узаемадачыненьняў унутры яго[8], таксама распрацаваная Шэфэрам яшчэ ў 1950-х. Імкненьне пачуць навакольле, настроіцца на ягоныя гукі, што існуюць бесьперапынна ў якасьці звыклага фону, а таму незаўважныя, становіцца сацыяльна значным дзеяньнем. Павелічэньне ўзроўню гуку некаторых фрагмэнтаў у працах Сарокіна дае нам магчымасьць пановаму іх пачуць, асэнсаваць і такім чынам заняць актыўную пазыцыю ў дачыненьні да ўмоваў сацыяльнай прасторы.

Акрамя гукаў, зьвязаных з канкрэтнымі падзеямі й месцамі («soundmarks»), Антон Сарокін выкарыстоўвае ў «Біце Менску» й музычныя трэкі, незаўважна для слухача міксуючы іх у гукавы паток і паказваючы такім чынам магчымую альтэрнатыву «гучаньня месца». Для стварэньня альтэрнатывы, пра якую ідзе гаворка, выкарыстоўваюцца сучасная электронная альбо клясычная музыка, саўнд-арт, трапікаліі — усё тое, што практычна цалкам адсутнічае ў грамадзкай прасторы Беларусі, у адрозьненьне ад шлягераў 1980–1990-х альбо песень у стылі Еўрабачаньня. У зьвязку з гэтым узьнікае пытаньне: **а ці можа грамадзтва ствараць гучаньне месца (саўндтрэк) самастойна, не трапляючы пад уплыў наўмысных атупленьня й ідэалягізацыі?** Сам панятак грамадзкага (у адрозьненьне ад прыватнага, асабістага) у Беларусі не абавязкова азначае агульнае, у тым ліку й дэмакратычнае, ён, хутчэй, набліжаецца да паняцьця «дзяржаўнага» (таго, што адчужае, стандартызуе, аддаляе). У кантэксьце існаваньня разрыву ва ўзаемадзеяньні грамадзтва й беларускай дзяржавы (калі кожны элемэнт функцыянуе ў сваіх інтарэсах) працы Антона Сарокіна якраз паказваюць магчымасьці грамадзкага стварэньня «месцаў» па-за ўзаемадачыненьнямі з уладай ці насуперак ёй. У гэтым скрыжаваньні ўяўнай духоўнасьці й ідэальнасьці гуку, які можа быць інтэрпрэтаваны як аўтаномны й асабісты, і гуку як матэрыяльнага стану фармаваньня грамадзтва мастаком уздымаецца пытаньне пра тое, ці можа сацыяльная прастора быць запоўненая альтэрнатыўным дыскурсам?

Менавіта ў гэтай прасторы паміж наяўнымі аб’ектыўнымі ўмовамі й індывідуальнай суб’ектыўнасьцю, дзе адбываюцца кантакт і ўзаемаўплыў, могуць нараджацца новыя формы сацыяльнасьці.

## МАГЧЫМА, ГУК НЕ ІСНУЕ?

Гукавыя працы як прадмет мастацтва маюць сваю асаблівасьць — *нематэрыяльнасьць*. Яны створаныя лічбавымі тэхналёгіямі й існуюць у лічбавай прасторы альбо ў інтэрнэце ў выглядзе нулёў і адзінак. Да іх можна зьвярнуцца ў любым месцы й у любы час. Яны не патрабуюць значнай інфраструктуры ні для вытворчасьці (майстэрні), ні для спажываньня (музэю). Гэта датычыцца й працаў Антона Сарокіна. Нягледзячы на тое, што многія ягоныя праекты тэматычна прывязаныя да кантэксту Менску й першапачаткова былі выстаўленыя ў розныя пэрыяды часу й на розных пляцоўках менавіта ў сталіцы, яны таксама паўнапраўна існуюць і ў інтэрнэце.

Новы дэмакратычны момант мастацтва быў вызначаны яшчэ ў 1970-я гады, калі зьявіліся ідэі шырокага распаўсюду й спажываньня культуры масамі. Гэтыя ідэі заснаваныя на збліжэньні мастацтва са штодзённасьцю з дапамогай выкарыстаньня новых тэхналёгіяў. Тое самае адбываецца й цяпер: сучаснае пост-інтэрнэт-мастацтва актыўна змагаецца за вызначэньне сваёй ролі ў грамадзтве, адстойвае свой крытычны патэнцыял і выяўляе характарыстыкі, якія аддзяляюць «масавую» (некрытычную й забаўляльную) культуру й тыя формы, якія зьмяняюць альбо інакш фармулююць «стан рэчаў». У сфэры гукавога мастацтва гэтыя пытаньні асабліва актуальныя: ці зможа яно забясьпечыць прастору крытычнай адлегласьці дзеля таго, каб супрацьстаяць *«сьвету, які працягвае трымаць пісталет каля галоваў людзей»*[9]? **Або яго нематэрыяльнасьць і лёгкасьць прайграваньня й распаўсюду сьведчаць менавіта пра ягонае бясьсільле** (напрыклад, таму што кантэксты, у якіх гэтыя працы могуць быць выкарыстаныя, знаходзяцца па-за сфэраю ўплыву мастака)? Якім чынам нематэрыяльнасьць гукавога мастацтва адбіваецца на разуменьні аўтарскай вытворчасьці, і ці застанецца гэтая вытворчасьць нябачнай і таму няўлічанай?

На гэтыя пытаньні нялёгка знайсьці адказ, але некаторыя з адметнасьцяў нематэрыяльнасьці мастацтва гуку асабліва актуальныя для беларускага культурнага асяродку. Тут, дзе мастак аказваецца амаль цалкам ізаляваным ад грамадзкай сфэры, дзе практычна адсутнічаюць мэханізмы падтрымкі творчых ініцыятываў, ён вырашае сам узяць на сябе адказнасьць і за вытворчасьць, і за распаўсюд сваіх працаў. Той факт, што аўдыёзапісы могуць пашырацца з дапамогай лічбавых выставаў (напрыклад, адначасовае анлайн-«адкрыцьцё» выставы «OFFSIDE» на партале 34mag.net) альбо існаваць на пэрсанальных сайтах мастакоў, забясьпечвае ім уваход у грамадзкі дыскурс (у тым ліку дыскурс барацьбы за тэрыторыю гораду ці музэю).

Гэтая барацьба збольшага й ствараe ўнутраны зьмест працаў, прасякнутых тэмамі рэклямацыі грамадзкай прасторы. Менавіта такія «нематэрыяльныя» працы й могуць знайсьці *ўваход збоку*, ня стукаючыся ў адзіныя зачыненыя дзьверы.

У пэўным сэнсе гукавыя працы зьяўляюцца напамінам пра тое, якія мэханізмы барацьбы даступныя й мэтазгодныя. Такія творы дазваляюць зьявіцца агульнасьці альтэрнатыўнага мысьленьня й дзеяньня, ствараюць магчымасьць існаваньня дыялёгу, які не падтрымліваецца й, такім чынам, не падрываецца інстытуцыямі. Калі яшчэ на пачатку 1990-х гадоў школьная дыскатэка была прастораю фармаваньня альтэрнатыўнай культуры, гэтаксама як быў і застаецца альтэрнатыўны музычны асяродак, то гэтая нематэрыяльнасьць і няпэўнасьць гуку ёсьць неабходнай умовою для стварэньня асяродзьдзя, здольнага аспрэчваць сацыяльныя зьявы й будаваць новыя культурныя формы. Мэдыюм гуку, несумненна, дазваляе ствараць памяць, аддзеленую ад (дзяржаўна-індукаваных) спробаў пабудаваць нацыянальную ідэнтычнасьць, ён фармуе агульнасьць і мысьленьне па-за межамі наяўных (і акупаваных) каналаў і такім чынам заваёўвае прастору, нават калі гэта толькі прастора думкі.

[1] У аўдыёпрацах асацыяцыі мастакоў Ultra-red і ў іхным «Тэзысе пра ваяўнічае гукавае расьсьледаваньне» гаворка ідзе пра аўдыёзапісы калектыўных сходаў-пратэстаў, якія арганізаваныя без загадзя сфармуляваных патрабаваньняў і пазыцыяў, але фармуюць разуменьне неабходных патрабаваньняў «сумесна». Аўдыёзапісы пазьней зьяўляюцца падставай для новых ідэй, фармулёвак і новых дасьледаваньняў. Больш падрабязна: http://www.ultra-red.org/directory.html

[2] З праектамі Антона Сарокіна можна пазнаёміцца на сайце мастака: http://antonsarokin.com

[4] Сумесная з фатографам Аляксеем Навумчыкам мультымэдыйная інсталяцыя.

[5] Гэты тэрмін прыпісваюць францускаму кампазытару й экспэрымэнтатару П’еру Шэфэру, які напрыканцы 1940-х гадоў прапанаваў сабраць асобныя гукі навакольнага асяродзьдзя й ствараць музыку, абапіраючыся на музычныя «атамы».

[6] Маецца на ўвазе песьня Квальды, выкананая Б’ёрк пад гук фабрычных мэханізмаў і машынаў.

Беларусь знаходзіцца на 16-м месцы ў сьвеце па колькасьці лядовых арэнаў на адзінку насельніцтва. Паводле дасьледаваньня Міжнароднай фэдэрацыі хакею, з 2003 году ў Беларусі зьявілася 19 новых падобных аб’ектаў. Іхная агульная колькасьць — 33. У пераліку на колькасьць насельніцтва на адну лядовую арэну прыпадае 320 863 чалавекі: http://naviny.by/rubrics/economic/2014/06/19/ic_news_113_437710/

[7] Быў апублікаваны на партале анлайн-часопісу 34mag.net 19 сьнежня 2013 году, праз тры гады пасьля пратэстаў, якія адбыліся сьледам за перавыбраньнем першага й адзінага з моманту атрыманьня незалежнасьці ў 1991 годзе прэзыдэнта Беларусі.

[8] Як і ўяўленьне пра тое, што музыка, створаная ў пэўны пэрыяд часу, выяўляе працэсы, якія прыпісваюцца гэтаму грамадзтву.

[9] Тэадор Адорна шматслоўна разважае пра палітычную ўцягнутасьць мастацтва ў тэксьце «Commitment» са зборніку «Notes to Literature».

Maria Yashchanka

# ANTON SAROKIN
# FORMS OF SILENCE AS FORMS OF COMMONALITY

*When we take the microphone out of the box and switch it to RECORD, we produce a remainder. We hear beyond need. This remainder is the medium of inter-subjectivity. It is a manifestation of trust to be without demand for a time. Trust in/is the process.*[1]

*Ultra-red*

A human being is naturally immersed in the world of sound. This immersion is passive and usually goes unnoticed, except when it becomes an object of attention in its own right, such as in the art forms that utilise the medium of sound. Sound as used by the artist can be both subjective — becoming attached to personal memory, emotions and meanings; and objective — sounds attached to things in the world, changing with it, creating an external environment of sound. This objective acoustic world (the environment of sound) is the condition of the reproduction of society, the factual material circumstance within which the future is born.

## WHAT CAN YOU HEAR IN SILENCE?

A question — albeit a little strange — «what is the sound of silence?» — arises when one approaches the work of **sound artist Anton Sarokin Belarus 4'33. Forms of silence**[2] exhibited as part of the Apprehension of War project in Berlin. The title and the length of each piece of audio — 4 minutes and 33 seconds — refers to the work of John Cage, who in the middle of the 20th century composed an empty score to *perform four minutes and thirty three seconds of silence*. In the context of an exhibition that revolves around the idea of war (in Belarusian historical past and in its prominence in the public discourse most recently) — the silence that the artist is referring to is socially significant, which is also being internalised and manifested subjectively. The starting point of the audio-works are factual political events, which are looked at through the sometimes overlooked materiality of the sonic: there is the violent crackdown on protests in the Nezaleznasci square in 2010[3], the prosecution of two people the state has proclaimed responsible for the 2011 Minsk metro bombing[4], and on-going attacks on privacy in Belarus. Sarokin is producing an evidence and an account of these events, through engagement and a reworking of the contemporary silence, in its social dimensions and personal consequences. This attentiveness to the aural reality of the contemporary events renders new meanings produced within the work, and by the audience.

To look more closely, in one of the four audio-works the magnification of the micro-sounds, habitually unnoticed or requiring an attuned ear, come to the forefront: *The ambient hum of the underground station; metrodoors closing lead into a court hearing, where only one side of the conversation is heard, accompanied by multiple machinic interferences (typewriters, sounds of lights flashing).* This work is based on the recording of the court hearing of the two men later accused of the metro bombing, Dmitry Konovalov and Vladislav Kovalev, who are responding to the standard legal questions at their trial (of their names, occupation, status etc.). The questions are repeated twice, but the place of the response remains almost entirely silent. It does not seem to be incidental that the machinery of justice is operating one-sidedly, supported by multiple mechanisms of obstruction. The abstract and interfering sounds, which grow into noise, gradually become a single storyline. The noise magnifies and rises, and then **ends abruptly with a pulsing silence in the listener's ears, as a resolutio**n, a final death sentence or a final withdrawal from participation in the circus of justice. The noise covers and overflows the staged spectacle, in which utterances of speech are redundant, given all the decisions had been already taken[5].

Moving trains, gusts of wind and silence — these are what replace the reasoning.

## WHAT WE SHOULD ~~(NOT)~~ BE SILENT ABOUT?

In other works Sarokin also addresses contemporary events, such as in the installation **Passport of the Object** for the exhibition Offside that took place in Y gallery in Minsk during the World Hockey Championship in 2014. The idea of manipulating the recorded sounds in the project takes a more musical form: a subtle melody of the ice-skates sliding on a slick surface, in the rhythm of the construction sites, in a vocal fragment (that of the president's speech multiplied by the echoes into complete indiscernibility). **It is an example of 'music concrete'**[6] composed through arrangement of sounds recorded from natural sources.

The work is entitled *Passport of the Object* as a construction site board, which is a reflection on the growing number of construction sites that the artist observed in the time before the Championship. The work has emerged in the midst of building noise from the new high-rises, which changed the appearance of Minsk and testify to the *building acceleration*. This *building acceleration* was justified at the political level by the priorities of social sphere development. However at a closer look, it appears it aims to disguise the real purposes, such as power manifestation, ideological manipulation, and even the monetary returns for those directly involved. The city-dwellers are logically concerned with other questions: **what will happen once the championship is over, and for whom are the ice-rinks being built? Who pays for them? Or would there be no other more important social sphere development priorities? The buildings are rising, and it cannot be dismissed that Minsk is changing its appearance, but for the benefit of whom?** Platonov's 1930s dystopia of collectivisation and increased tempo construction work reads:

> Man put up a building — and falls apart himself. Who'll be left to live then? — doubted Voshchev, lost in his passing thoughtfulness (p.9)

The mobilisation of resources has hardly lead to positive transformations in the city environment, rather the processes benefited an undefined (?) group of people. Sarokin's work, therefore, offered a critical look at the sport event as a top down celebratory enforcement with its attributes — ice-rinks, building sites, decorations such as aurochs with hockey-sticks — as well as temporary liberation and national hospitality (which in no way undermined the prevailing bureaucracy and the 'police state' functioning).

## WHO MAKES OUR CITY?

An even more explicit attention to the notion of changing landscape in the city is taken in the project **Beat of Minsk**[7], created by Anton Sarokin and Alaksiej Navumčyk (Alexey Naumchik) in 2013. Audio-mixes are published together with a corresponding depiction of a place — Square, Metro, Cinema — referring to particular locations in Minsk as re-imagined by the artists, lacking objective precision and defined time boundaries. When listening to the audio mixes there is a sense of floating in time. For example, in Pieramoha: from the day of the inauguration of the cinema in 1950, to the all-too-familiar purchase of the cinema ticket and a half-tone conversation, to the cinema soundtrack, back into a voice introducing the film, and falling again into *Hiroshima Mon Amour*[8].

If accuracy of representation of each of these places is intentionally forgone, what is prominent in the work is the accuracy of the *feeling of the place*. A relevant term for such feeling is coined by Pierre Schaeffer, who proposed to use the term «soundmark», which is an analogy of «landmark». He defines **«soundmark» as a sound that is noticed and regarded by a community, and therefore deserves to be protected**. The meaning of the project *Beat of Minsk'* can be said to be the capturing, rearrangement and recirculation of the fragments of aural reality; these fragments, in turn, evoke a recognisable feeling or impression, undo the forgetfulness of mind, draw back the moments which seem to be lost. Thinking this way, the importance of the work lies precisely in this record; or, in other words, the production of the evidence of a set of conditions within the society.

The idea that the acoustic environment is the condition of reproduction of the society and the relations within it[9] was also developed by Schaeffer back in the 1950s. Through such an understanding, listening to the environment and getting attuned to the sounds produced as a background becomes a political gesture. The increase in the sound level of some of the aural fragments (however marginal they may seem), as it takes place in the works of Sarokin, eventually renders the possibility of new comprehension, and therefore the creation of an active listener who is capable of producing new conditions of social space.

Additionally, the audio mixes in *Beat of Minsk* bind together the identified soundmarks with music, which was subjectively chosen by the artist and woven into the sound flow. Modern electronic, sound art, tropicalia, and classical music — which is almost entirely absent from the public space (as opposed to the prevalent schlager of 80s , 90s and Eurovision style contemporary pop) — functions as if to point to a possible alternative *sounding of the place*. This raises a question: **can a community endow a public space with a soundtrack of their own (not imposed by an ideological, intentionally debilitating refrain)?** As the very notion of the public (as opposed to private) in Belarus does not necessarily mean shared, common, inclusive, and democratic, but is most certainly close to state owned (alienating, average, repulsive), the artist's work points to the potential of creating the sound of the place, or, the appropriation of the place to function with purposes other than those imposed top-down. In pointing to this intersection of the apparent immateriality and ideal nature of sound that can be interpreted as non-interfering and private, with the sound as a material condition of production of place, the *Beat of Minsk* purposefully inquires if the social space can be filled with an alternative discourse.

It is in this space between the material conditions and the individual subjectivity that friction occurs, and new forms of social organisation can emerge.

## DOES SOUND REALLY EXIST?

As a form of art sound works have a particular feature — immateriality. The works are displayed in a digital format coded in zeros and ones, exhibited on websites, and attended to at a convenient time and place, potentially as a solitary experience, without the need for social infrastructure (either for their creation or reception). This is very much relevant to the works of Anton Sarokin, which emerged in the context of Belarus and then were exhibited here at various points, but also have a separate existence on the internet.

A kind of humanistic view that art will become widely accessible through its fusion with technology and would thus come close to everyday life was an important democratising point in the 1970s. Nowadays, with the emergence of democratic access to new technologies, the discussions of post-internet art continue to be situated around questions of the role of art in society and its critical potential. If the very medium of art is (fleeting) sound, these questions become profoundly important: is the sound art capable of providing space of critical distance so as to resist the *world, which continues to hold a pistol to the heads of human beings*[10]? **Or does sound's immateriality and ease of circulation precisely point to its impotency?** Further, does sound's immateriality underscore the insignificance of the producer's labour, which remains invisible and unaccounted for?

While there cannot be a definite answer to these difficult questions, the feature of immateriality is of particular importance in the Belarusian cultural context. With a situation of near total invisibility for Belarusian artists in the public sphere, and in view of the apparent lack of support mechanisms for art initiatives, artists are determined to take the responsibility to produce and to show their own work. Factual immateriality (or *digitality*) in this situation is a helpful feature, as it permits entering into the public domain irrespective of the obstacles on the way, and the obstacles themselves become the content of the work to a significant extent. In other words, the sound works are a particular reminder of how the struggle can happen — utilising sound's particular fleeting medium. Sarokin's sound art succeeds in producing a commonality of alternative thinking and doing, and facilitates dialogue that is not supported by institutions, and therefore not undermined by them. If, back in the beginning of 90s, the space of a school disco was one of formation for an alternative culture — as also was and remains the alternative music scene — then the immateriality of sound provides an appropriate medium to contest social phenomena and to build new cultural forms. It definitely makes possible the creation of memory decoupled from (state-induced) attempts to build national identity. It forms a commonality outside of existing channels, and thus reclaims space; even if it is only a space in one's thoughts.





Яўген Шадко. З праекту «Структурызацыя». 2013
Jauhien Šadko. From the «Structuration» project. 2013

[1] «Some theses on militant sound investigation, or, listening for a change», see http://inthemiddleofthewhirlwind.wordpress.com/some-theses-on-militant-sound-investigationor-listening-for-a-change/

[2] Further details on Anton Sarokin's projects can be found at http://antonsarokin.com

[3] The protests that followed the re-election of the first and only President of Belarus since its independence in 1991 were violently suppressed. Up to 700 opposition activists, including 7 presidential candidates, were arrested in the post election crackdown.

[4] The explosion in Minsk metro on April, 11th 2011 took the lives of 15 people and was classified as terrorist attack. Two men were executed following their confession. Some believe they were forced to confess. (http://www.bbc.co.uk/news/world-19012541)

[5] A similar situation occurs in Leviathan, a film of 2014 by Andrey Zvyagintsev, where the absurdity of the spectacle of a court hearing is shown through the judge's speech, which is performed at an increased speed (which seems impossible either to utter, or to comprehend)

[6] This term is attributed to Pierre Schaeffer, who in the late 1940s proposed to collect sounds of various objects and compose relying on musical atoms decoupled from their environment

[7] Launched in the online magazine 34mag.net on 19th December 2013, three years after the protests that followed the re-election of the first and only President of Belarus since its independence in 1991

[8] Alain Resnais's film extract which is used in the Pieramoga audiomix

[9] Similar to ideas that music composed in a particular point in time reflects the state of society of its origin

[10] See Theador Adodrno Commitment in Notes to Literature.

## Марына Рахлей

# ПАКАЛЕНЬНЕ «ГАТУНАК SPECIAL»

**Мы — асаблівыя. Называйце нас першым беларускім альбо апошнім савецкім пакаленьнем, але менавіта мы расьлі й станавіліся на ногі адначасова з краінай. У нас няма крыўдаў на «савок», а адказы на ўсе падлеткавыя quo vadis мы шукалі разам з новай дзяржавай. Беларускую мову зноўку прыдумалі для нас. І сёньня мы — новы беларускі наратыў.**

Мы нарадзіліся ў 1980 (плюс-мінус тры гады?), калі Брэжнеў яшчэ варушыў брывамі, перабудова не пачалася, а камунізм працягваў здавацца ўсё бліжэйшым. Савецкі Саюз прыпаў на цудоўнае піянэрскае дзяцінства: мы хадзілі па малако для суседзяў-пэнсіянэраў, рыхтавалі канцэрты, малявалі насьценгазэты, у межах агульнашкольнага сацспаборніцтва зьбіралі макулатуру й мэталалом, у заклад вучылі на памяць «Меднага вершніка». Мы працавалі ў школьным музэі партызанскага супраціву, а раніцамі станавіліся перад школай на зарадку (пад «Modern Talking», дарэчы).

«Дзяніскавы апавяданьні» вучылі нас, што таемнае заўсёды стане відавочным, а брэмэнскія музыкі — што палацаў вабныя скляпеньні не заменяць ніколі свабоды. Нашыя савецкія аднагодкі — гэта бескарысьлівыя й кампанейскія піянэры Аліса Селязьнёва й браты Электронікі.

І ледзьве мы навучыліся чытаць і лічыць, як прыйшоў падлеткавы ўзрост, а зь ім — і развал велізарнай краіны, якая не пасьпела стаць нашай. Гэта выратавала нас ад палітэканоміі, палітінфармацыі й іншых формаў палітычнага замбаваньня. І, магчыма, мы сталі б самым савецкім пакаленьнем, якое настальгуе па дзяцінстве, дзе марозіва па 10 капеек, бібліятэка імя Клары Цэткін і стылёвыя шкляныя бутэлькі малака. Але па-беларуску загаварыў класны кіраўнік. Ягонае расейскае «чяму» рэзала вуха, але мова сама па сабе была вельмі арганічнай. Уроку гісторыі. Цяперашняму часу й асяродзьдзю. Мы прайшлі некалькі падручнікаў гісторыі за год: новыя кніжкі без адзінай карцінкі развальваліся ў руках, затое мы перажывалі ўсё, што ў хаосе нараджалася на нашых вачох.

А на вакацыях? Мы былі ў вёсцы, дзе бабуля зь дзядулем купілі домік, дзе былі сырадой, самаробнае масла, ледзяныя крынічныя рэчкі, а суседзі размаўлялі па-беларуску.

Гэта была нашая прышчэпка беларускасьцю. «Я другой такой страны не знаю» ператварылася ў «я нарадзіўся тут».

Потым, праўда, з краінай вельмі хутка здарыўся Лукашэнка. Але нашае пакаленьне для яго было ўжо страчана. Мы аб'ядноўваліся ў «зьвязы», хадзілі на канцэрты N.R.M. у парк Горкага, чыталі газэту «Имя», былі сябрамі студэнцкага прафсаюзу (тады яшчэ прафсаюзнага прафсаюзу, а не дзяржаўнага) і з аднакурсьнікамі зьбіраліся спачатку на Чарнобыльскі шлях, а потым — на піва. І асабістыя дзёньнікі вялі па-беларуску.

Нашыя малодшыя браты й сёстры, якія фактычна не засьпелі ні СССР, ні беларусізацыю, расьлі больш прагматычнымі — у краіне з магутнай вэртыкальлю, сацыяльнай дзяржавай і моцным душком савецкай настальгіі.

Для нашых бацькоў, праўда, усё было інакш. Савецкі Саюз быў іхнай непарушнай радзімай. Дзяцей яны нараджалі ва ўмовах, набліжаных да сацыялістычных, а гадаваць давялося на абломках імпэрыі. Мова? Нацыянальнай ідэяй сям'ю не накорміш. Першыя выбары прэзыдэнта? Ды й выбіраць няма з каго.

Нашыя бацькі, знаёмыя з пляжамі й турыстычнымі сьцежкамі саюзных рэспублік, вельмі хацелі, каб мы за іх убачылі сьвет. І размаўлялі зь ім на ягонай мове, мове Іўліна Во, Маркеса, Франсуазы Саган альбо Рэмарка. У свае дваццаць мы ехалі за мяжу начнымі аўтобусамі, каталіся па эўрапейскіх краінах аўтаспынам, спалі ў варэльні ў новых сяброў ці ў парках. І хай нашыя аповеды пра Беларусь былі ўсё больш гістарычнымі экскурсамі, нас паважалі за тое, як мы паважалі сваю радзіму, зь якой любоўю чыталі белыя вершы Тацяны Сапач і сьпявалі пра купалінку.

Памятаю, як польскі аўтобус на ўзыходзе сонца пад'ехаў да мяжы Вялікабрытаніі, і ў доўгай чарзе мая «чырванаскурая пашпарціна» (стары замежны пашпарт СССР) выклікала нездаровую цікавасьць. А мяне нічога не бянтэжыла, я была ў згодзе з усімі дэталямі гэтай сытуацыі: з сваім дзяцінствам у позьнесавецкай ідыліі (апошняй у школе зьняла піянэрскі гальштук: занадта быў колер прыгожы), з новай, маёй уласнай краінай, з узыходам сонца. You think you are something better? А я думаю, што размаўляю па-ангельску ня горш за вас.

Маё пакаленьне вярталася з Эўропы й Амэрыкі й бачыла нэасавецкую сыстэму Лукашэнкі інакш, менш фатальна. У рэшце рэшт, быцьцё вызначае сьвядомасьць. А мы бачылі Беларусь, а за ёю — сьвет бязь межаў і бар'ераў. Як кажа Толік у салаўёўскай «Чорнай ружы...», мы — вольныя людзі ў свабоднай краіне.

Вядома, ня ўсё было так бясхмарна й проста. Нялёгка знайсьці сябе, калі шчасьце — у душэўнай раўнавазе, якую ня вымераеш грашыма альбо статусам. Ды й жывеш у Беларусі, а яе як быццам няма. Твая рэальнасьць запаралеленая незразумеламу фантому. Піянэры засталіся, а прыкладаў няма. Быў усялякага кшталту эскапізм у сваю «свабодную краіну». Вельмі шмат музыкі, шмат кніг. Шмат алькаголю. І вельмі шмат алькаголю. Былі аднагодкі, якія паміралі ад перадозу, канчалі самагубствам, тыя, што пайшлі з жыцьця маладымі...

Мы — пакаленьне рамантыкаў. У сваёй большасьці мы ня беглі за доўгім рублём, а сыйшлі з галавой у тое, што любім. Так, не зрабілі кар'еры, ня кінулі паліць і не зьмянілі палітычны лад. Затое мы ў міры з сабой і сваім сумленьнем.

Менавіта таму мы — новы беларускі наратыў. Беларусы, але не партызаны й не маўчуны, хутчэй, цярпімыя, чым талерантныя. Мы адкажам на ганебны ўчынак, абаронім слабога й пастаім за тое, у што верым. Мы маем уласнае меркаваньне й ведаем сабе цану. Так, мы ня лезем у бойку, якую ня зможам выйграць, але ня будзем хадзіць строем і бяздумна выконваць загады.

Малодшыя браты й сёстры цягнуліся за намі, бралі прыклад з нас. Зьяжджалі, вучыліся, вярталіся ці нават не. Галоўнае, што сталі асобамі, людзьмі, якія думаюць, патрыётамі.

Можаце на нас разьлічваць — і ў эвалюцыі Беларусі, і ў рэвалюцыі. Мы — выдатны падмурак, аснова свабоднай краіны для вольных людзей. Надзейныя, адкрытыя, беларускія. Пакаленьне «гатунак special».



Алеся Жыткевіч. Свабода — выбар сумленьня. 2014
Alesia Žytkievič. Freedom is choice's freedom. 2014

Maryna Rakhlei

# GENERATION «HATUNAK SPECIALNY»

**We are really special. View us as the first Belarusian or the last Soviet generation, it was us who matured and found feet at the same time with the new-born country. We have no hard feelings for the Redlands, and looked for answers to all teenage quo vadis with the new government. Belarusian language was reinvented for us.**

**And today, we are a new Belarusian narrative.**

We were born in 1980 (+/- three years?), when Brezhnev was still moving his eyebrows, Perestroika didn't yet begin, and communism was seemingly approaching. The Soviet Union was our blissful pioneer childhood: we did groceries for the retired neighbours, prepared concerts, pencilled school newspapers, competed in all-school challenges in picking up old paper and scrap metal, memorised Pushkin's «The Bronze Horseman» on a bet. We worked at a school museum on partisan resistance, and started our day with gymnastics in front of the school (with «Modern Talking» tunes, by the way).

Popular stories about little Deniska taught us that there is nothing kept secret that will not come to light, and together with a jazz cartoon about Bremen town musicians we sang that *«no arches of tempting palaces can substitute our freedom»*. Our Soviet counterpart was Alisa Seleznyova, a big-eyed pioneer from the future, and brother-robots, altruistic and matey.

Hardly had we learnt to read and count, adolescence broke out, together with the breaking apart of the big country, which didn't yet become ours. It saved us from all kinds of indoctrinating subjects such as political economy or political information. And, perhaps, we would be the most Soviet generation, nostalgic about young years with ice cream for 10 kopeks, libraries named after Clara Zetkin and stylish glass milk bottles. However, our history teacher switched to Belarusian. His Russian grated on the ear, but Belarusian language as such felt natural. In his class, in the new time and environment. We swallowed several history textbooks that year to adjust to the new programme; these books without a single picture were hastily printed and quickly fell apart, but we knew we experienced history being born in chaos before our eyes.

And on vacation? We were out of town where grandparents bought a cottage; here cows were milked, butter was homemade, rivers were ice cold, and neighbours spoke Belarusian.

This was our Belarusian vaccination. Instead of the popular Soviet song line in Russian *«I know of no other such country»* it was rock in Belarusian *«I was born here»*.

Very promptly, however, Lukashenka happened to Belarus. Our generation was already lost for him. We experienced life in a way that later became impossible: we founded our own organisations, went out to rock concerts in public parks, read quality press, joined student unions (real unions, not state controlled as they are now). With the fellow students we went to protests first, and then to grab a beer. And our private diaries were in Belarusian. Our younger brothers and sisters, who actually missed both the USSR and Belarusian renaissance, grew up more pragmatic — in a country with an omnipotent vertical of executive power, in the welfare state with a strong whiff of Soviet nostalgia.

And for our parents, however, it was all different. The Soviet Union was their infrangible motherland. They got kids in what they thought was socialism and had to raise them among the rubble of their empire. Belarusian? National idea can't feed your family. First presidential elections? **There is no one to our fancy anyway.** Our parents knew beaches and hiking trails of only the Soviet republics and wished for us to explore the rest of the world for them and speak its languages, the tongues of Evelyn Waugh, Marquez, Françoise Sagan and Remarque. At nineteen, we went abroad by night buses, hitchhiked through Western Europe, slept in the kitchen of new friends or in parks. Although our tales about Belarus were more historical overviews than contemporary, we were respected for the respect of our homeland, for the love with which we recited white verses in Belarusian and sang folk songs.

I remember as at sunrise a Polish bus arrived to the border of the United Kingdom, and my old Soviet, as poet Mayakovsky called it, red-skinned passport caused an unhealthy interest in that long international queue. I couldn't care less, I was at peace with all the details of this situation: my childhood in the late Soviet idyll (I was the last one at school to part with my bright red pioneer tie, the colour was too cool), my citizenship, my own country, the sunrise. *You think you are something better? And I think my English is as good as yours.*

My generation was returning from Europe and America and viewed the neo-Soviet system of Lukashenka differently, less fatalistic. After all, being determines consciousness, and we saw Belarus, and behind it a world without borders and limits. As Tolik says in one of the films of Vladimir Solovyev in mid-1980s: We are free people in a free country.

But not everything was so rosy and easy, of course. It is hard to define yourself when your happiness is in the balance of mind, which cannot be measured in money or status. Not to forget that the Belarus you live in doesn't really exist; your reality evolves simultaneously with an incomprehensible phantom. There was every kind of escapism into your own «free country». Through a lot of music, a lot of books. And a lot of alcohol. Like: a LOT of alcohol. There were peers to die from overdose, those who killed themselves; many passed away so young...

We are a generation of daydreamers.

Most of us aspired to no fame and no fortune, but devoted ourselves to things we love. Yes, we made no career, never gave up smoking and didn't change the political system. But we are at peace with ourselves and our conscience. That's why we are a truly new Belarusian narrative, a new breed. **Belarusians, who are not traditional «partisans»**; yes, we are composed, but rather tolerant that indulgent. We will respond to a dishonourable act, protect the weak and stand up for what we believe. We have our own opinion, and are aware of our worth. Right, we do not enter the fight that can't win, but we will not throng or mindlessly follow orders. Younger brothers and sisters followed in our footsteps, took our example. They left, they studied, came back or stayed away. The main thing is that they became individuals, free spirits, thinking people, patriots.

You can count us in for the evolution of Belarus and for the revolution. We are a great foundation, a solid basis for a free country for free people. Reliable, open, Belarusian. Generation of a special sort, «hatunak specialny».



Бісмарк. Антыглямурная фотасэсія. 2000-я

Bismark. Anti-glamour photo session. 2000s

Наталя Гарачая

# ЭСТЭТЫЧНЫ РЭЖЫМ НОВАЙ ГЕНЭРАЦЫІ, альбо «КАЛІ ГАРА НЕ ІДЗЕ ДА МАГАМЭДА»

Працэс эстэтычнага засваеньня сьвету, які спасьцігаюць вачыма як органамі зроку, працэс, што на працягу тысячагодзьдзяў быў асноваю мастацкай творчасьці, сёньня згасае. Недарэчна называць цяперашняе арт-функцыянаваньне пластычным мастацтвам — яно ажыцьцяўляецца ў формах і сытуацыях, гранічна аддаленых ад першавытворных. Малады беларускі мастак, які знаходзіцца ў жорнах між структурай адукацыйнай ды выхаваўчай сыстэмы й крытэрамі сусьветнага падыходу да арт-працэсаў, вымушаны ўвесь час шукаць шляхі, каб ня скочвацца ў кампраміс і сьляпое падпарадкаваньне.

Сёньня мы разблытваем правал у часе: і вытворца, і спажывец прыгожага, і пасярэднік паміж імі ўступаюць у XXI стагодзьдзе, не паварыўшыся ў катлах культурных працэсаў, якія ішлі ў цывілізаваным сьвеце ў XX. Таму цяпер відавочны моцны нахіл у бок высьвятленьня стасункаў з мастацтвам мінулага. Эстэтычны рэжым новай генэрацыі, які фармуецца такім чынам, адрозьніваецца скразной пераемнасьцю: маладое мастацтва захоплівае ўсе магчымасьці й актуалізацыі гэтага пэрыяду, пазбаўляючы іх прычынна-выніковага ціску лінейнай гісторыі й пераводзячы ў рэжым «тут і цяпер» — гэткае рызыкоўнае падарожжа да праблемы — чорнай дзіркі, якая ўтрымлівае ўсе народжаныя й мажлівыя маладыя зоркі беларускай мастацкай сыстэмы.

Нельга сказаць, што Менск — у якасьці сталіцы й з улікам прывязаных праз гэта абавязкаў культурнага апірышча — **надае вялікую ўвагу адкрыцьцю новых талентаў**. Горад, на жаль, зусім не асацыюецца з мастацтвам, таму ў большасьці выпадкаў маладое пакаленьне мае ў сваім арсэнале навучаньне ў замежных мастацкіх установах. Але й сучасныя арт-практыкі для маладых таксама не знаходзяцца ў сфэры дзяржаўных выстаўных пляцовак і інстытуцыяў. З штогадовай пэрыядычнасьцю праходзіць «Маладзёвая выстава», арганізаваная аднайменнай сэкцыяй Саюзу мастакоў, у часопісе «Мастацтва» год таму зьявілася рубрыка «Пакаленьне NEXT» з аглядам пэрспэктыўных талентаў, а Музэй сучаснага мастацтва намагаецца прыўнесьці актыўнасьць праз выставы з мэтанакіравана маладзёвай спэцыфікай і адпаведным складам удзельнікаў. Усё гэта зь вялікім намаганьнем можна залічыць да справы падтрымкі маладога мастацкага пакаленьня. Важна адзначыць, што ў партфоліё майстра-пачаткоўца зазвычай ёсьць чатыры-пяць «Маладзёвых выставаў», якія разглядаюцца ім і куратарамі ня як здабытак, а як неабходны досьвед прыніжэньня, пройдзены ў студэнцкія часы хаця б для таго, каб адчуць сувязь, узаемаўплыў твору й прасторы, якой у тым жа Палацы Мастацтва багата.

Прыватныя або недзяржаўныя ініцыятывы па падтрымцы маладога пакаленьня арт-дзеячаў куды больш разнастайныя й плённыя: конкурсныя й адукацыйныя праграмы, спарадычныя выставы й акцыі. Ня першы год заяўляе пра сваю дзейнасьць праект «На шляху да сучаснага музэю», час ад часу становіцца агульным здабыткам плён шматлікіх мерапрыемстваў для маладых ды таленавітых у галерэі «Ў», даволі актыўнай пазыцыі прытрымліваюцца мастацкія факультэты ЭГУ (напрыклад, школа LitPro). Але найбольш цікавымі падаюцца індывідуальныя пачынаньні: факультатыўныя закрытыя лекцыі **«Рамонт. УНОВИС. За шырмай трактарнага заводу» Сяргея Шабохіна**, яго ж супраца з мэдыячасопісам 34mag.net, вынікам якой стаў дыск «Сучарт», а таксама ягоная самая сьвежая ініцыятыва — **ФАК (Факультэт Акадэмічнай Крытыкі)**. Усе гэтыя дзеі адно толькі сваім існаваньнем крытыкуюць дзяржаўны прэсінг, але таксама адметныя тым фактам, што сам Сяргей Шабохін, які дэманстратыўна кінуў вучобу ў Беларускай акадэміі мастацтваў, цяпер зьяўляецца адным з самых зацікаўленых змагароў за якасную адукацыю маладога пакаленьня творцаў.

> Можна з упэўненасьцю сказаць, што ў Менску пачынае зьяўляцца аўдыторыя, і мастак становіцца публічнай фігурай, аб’ектам увагі ня толькі замоўцаў або прафэсіяналаў, але й максымальна шырокага й адначасова хоць бы мінімальна падрыхтаванага гледача.

Да катэгорыі назіральнікаў можна залічыць і беларускага крытыка, бо з большасьці пунктаў гледжаньня ён так і застаецца толькі канстатататарам. Крытык у беларускіх рэаліях — гэта зусім не санітар лесу: тут маладыя мастакі зьнішчаюцца маўчаньнем крытыкі, а ня ўласна крытыкай. А што тычыцца шматгадовых наведвальнікаў разнастайных тутэйшых выставаў, праблема распазнаваньня першаснага й другаснага мастацтва па-ранейшаму вырашаецца імі пераважна на пачуцьцёвым узроўні: бескарысьлівы глядач разам з аптымістычнай патэнцыяй нясе ў сабе й пэсымістычную інэрцыю, ягоная ўпэўненасьць, што мастацтва належыць і павінна належаць яму, спараджае розныя формы «я не разумею сучарт». Але, як і закладзена ў партнэрскіх, узаемавыгадных і ўзаемапаважлівых зносінах, кожны бок павінен прайсьці насустрач другому сваю частку шляху, нават калі маладому майстры й давядзецца чакаць маруднага гледача на мяжы ці гуляцца ў «калі гара не ідзе да Магамэда».

Працэс успрыманьня мастацтва спажыўцом становіцца магчымым толькі пасьля таго, як уводзіцца адмысловая оптыка, што дазваляе ўбачыць «эстэтычны рэжым» прэзэнтацыі. Дзьве выставы **Яўгена Шадко**, якія адбыліся ў галерэі «Ў», адлюстроўваюць першыя крокі ў публічнасьць для маладога творцы й выбудоўваньне мовы рэпрэзэнтаваньня. Тое, што ў малой залі галерэі было ледзь заўважаным на міні-выставе «Ў асьляпляльна белых калідорах» (сакавік 2013, праграма «СТАРТ»), раскрылася нават няўзброенаму воку праз сытуацыю, абыграную ў праекце «Escape» (сакавік 2015, галоўная заля галерэі «Ў»). Паколькі першаю мастак спасьцігнуў менавіта прастору эстэтычнага рэжыму, у якой творы выяўляюцца (Яўген працаваў зь белымі аб’ектамі ў першым выпадку й белай, амаль цнатлівай, заляй — у другім, мэтанакіравана пазьбягаў шматграннай інфарматыўнасьці), то відавочна, што ўсе акцэнты малады майстра перанёс на канцэптуальную

тэрыторыю ўспрыманьня мастацтва. Складаныя ўзаемадачыненьні мастака з публікай Яўген Шадко канстатаваў і ў сваёй прамежкавай працы «Глядач і ёсьць забойцам» у 2013 годзе. Гэта была спроба выказаць абурэньне супраць спрошчанага трансфармаваньня твораў на свой лад вонкавым назіральнікам, што ніяк не выпраўляецца ўмяшаньнем арт-крытыкаў або неабходнай базавай адукацыяй, якую павінна была б арганізаваць дзяржава.

Пэрыяд, калі мастак «носіць» эпітэт «малады», даволі кароткі. У пэўнай ступені ён пазбаўляе творцу наўпроставай адказнасьці й дае даверу на пару гадоў наперад, якія мастак можа выкарыстаць пажаданым яму спосабам — запоўніць запамінальнымі хуліганскімі акцыямі ці пасьлядоўна прасоўваць адназначныя пазыцыі. Асноўная асаблівасьць гэтага пэрыяду — ягоны экспэрымэнтальны, свабодны фармат, адкрыты для пошукаў новага й для «няправільных» хадоў. Сёньня маладая мастачка **Аліна Швядкова**, удзельнік калектыўных праектаў і пленэраў, адмаўляецца ад запрашэньняў да выстаўнай дзейнасьці, зьвяртаючыся да права перанакіравацца й зьмяніць погляды, адшукаць нешта радыкальна новае ва ўласнай мастацкай мове. Але нельга не адзначыць, што яна ўжо не аднойчы зарэкамэндавала сябе як творцу з тонкім адчуваньнем і ўменьнем прапрацоўваць неадназначныя тэмы. На выставе «SORAM», арганізаванай разам з студэнтамі-паплечнікамі ў 2013 годзе, Аліна выказала сваё бачаньне хісткай сытуацыі ў справе раскрыцьця патэнцыялу маладога мастака. Садовыя ржавыя нажніцы, падвешаныя над бялюткімі палотнамі — помнікамі ненапісаным творам, нясуць адназначны сымбалізм навіслай пагрозы й пэрманэнтнага адчуваньня далікатнасьці й хісткасьці свайго выбару быць мастаком. Гэты выбар Аліне давядзецца даказваць ня толькі сабе, але й свайму асяродзьдзю, цікаўнаму гледачу й нават усёй арт-супольнасьці.

Праз ініцыяцыю спадчыннай экспрэсіяністкай школы знайшоў свой шлях ад фатаграфіі да жывапісу малады мастак з Смаргоні **Анро (Андрэй Рогач)**. Зь іншага боку, радыкальна зьмяніўшы кірунак сваёй дзейнасьці, ён прадэманстраваў даволі актыўную мастацкую пазыцыю, за два гады стаўшы ўдзельнікам каля шасьці выставаў, што нямала для пачаткоўца. Праектам «LOST», над якім Анро працаваў амаль два гады, мастак пабудаваў сувязь між фотафіксаваньнем аблічча й утварэньнем самой тканіны чалавечай натуры, вольнай ад стэрэатыпных характарыстык, раскрыць якую магчыма толькі моваю мастацтва.

Відаць, ці ня самым самастойным маладым мастаком краіны можна назваць Bazinato, які не трывае ніякага ўмяшаньня ў сваю творчасьць і грэбуе правіламі куратарскай супрацы. Таму — пры ўдзеле ў шматлікіх групавых выставах — уласны праект на менскай пляцоўцы мастак правёў упершыню ў 2014-м і зрэжысаваў свой «акт у трох дзеях» выключна паводле сваіх правілаў. Ня трэба нават і казаць, што тлумачыць сваю дзейнасьць гледачу **Bazinato** ніколі ня меў патрэбы, аднак атракцыйнасьць кожнай ягонай акцыі не пакідае сумневу, што яны ўспрымаюцца аўдыторыяй даволі прыхільна й рэзанансна.

Калі мы ставім пытаньне пра аўтаномнасьць мастака ў краіне, мы вымушаныя скіроўвацца да сфэраў, што адказваюць за незалежнасьць тэрыторыі, на якой знаходзяцца мастацкія інстытуцыі, за цікаўнасьць магчымых пакупнікоў, эстэтычныя прыярытэты, а таксама крытэры запісу мастацкіх падзеяў у архіў. Усе гэтыя сэгмэнты павінны праяўляцца ў межах дзяржаўнай культурнай палітыкі. У праекце «Хатні палац» (адзін з выстаўных праектаў праграмы «Рэпліка», галерэя сучаснага мастацтва «Ў») мае месца рызыкоўны, але плённы зварот да самога панятку ўлады й да пытаньня яе цэнтралізацыі. Дзеля гэтых мэтаў мастак **Уладзімер Грамовіч** адмовіўся ад схемы супрацыву, маючы на ўвазе, што яна — праз імітацыю рэальнай праблемы — ня здольная адлюстраваць сапраўдныя супярэчнасьці паміж сеткай інстытуцыяў і чалавекам. Уладзімер склаў формулу суадносінаў «пустых» урадавых палацаў, якія дамінуюць праз памеры й маналітнасьць, і бясконцага арнамэнту спальных раёнаў, аднолькавых ува ўсе часы ў любым больш-менш буйным горадзе краіны. Злучальным зьвяном стаўся залаты мэтар бруканкі як сымбаль штучнага дабрабыту, даступнага кожнаму. Праз такую імітацыю зладжанасьці, быццам бы непарушнага ўзаемаўплыву Ўладзь закрануў пытаньне рамак, за якія складана выйсьці, не пахіснуўшы прывід сыстэмы, што нібыта працуе.

**Юра Шуст** у сваім пэрсанальным праекце «Рэквіем па Новым годзе» разглядаў прынцып паўтору як каляндарнай сеткі, трыюмфам якога на постсавецкай прасторы становіцца сьвяткаваньне Новага году, што, у сваю чаргу, ёсьць вяршыняю прышчэпленай нам культурнай дысцыпліны й структураванасьці ладу жыцьця. Мы жадаем уявіць сьвет, у якім няма месца сыстэмнаму, палітычнаму страху, імкнемся да сукупнасьці культурных і сацыяльных каштоўнасьцяў, адрозных ад тых, што бачым вакол сябе: ад тых, якія аддаюць перавагу калектыўным чалавечым памкненьням, а не асабістаму або нацыянальнаму дабрабыту. Сьвяткаваньне нашай свабоды мастак пахаваў пад мармуровым надмагільлем, падкрэсьліўшы тым самым, што ўяўны лібэралізм — усяго толькі назва сумесі фаталізму й кампрамісу.

«Самакантроль» **Аляксея Талстова,** праект, зладжаны на пляцоўцы галерэі сучаснага мастацтва «Ў» у кастрычніку 2013 году, адказаў на пытаньне пра наяўнасьць у беларускім маладым фронце творцаў, якія сучасна думаюць, гатовыя разважаць на глябальныя тэмы й пры гэтым не саромеюцца выказвацца плястычнай (ці, шырэй, — візуальнай) мовай і не адчуваюць патрэбы зьмяніць прыроду сваёй прафэсіі — імкнуцца толькі пашырыць традыцыйныя ўяўленьні пра ейныя задачы й магчымасьці. Гэта азначае зьяўленьне ў прафэсіі прадстаўнікоў эвалюцыйнай, а не рэвалюцыйнай сьвядомасьці.

Той жа эвалюцыйны шлях разьвіцьця моваў фэмінізму беларускага «крою» прыкметны ў пабудове экспазыцыі **Алесі Жыткевіч** на калектыўнай выставе «SORAM» і, зусім відавочна, у інтэрфэйсах невялікіх прэзэнтацыяў творчасьці мастачкі, якія суправаджалі праекты ў галерэі «Ў» ці ў выстаўнай прасторы «ЦЭХ». Оптыка й мова Алесі ўлучаюць у сябе рэпрэзэнтацыю сацыяльнага, палітычнага, ідэалягічнага лякальнага кантэксту раскрыцьця базавых фэміністычных тэзысаў. Такім чынам яна фармуе нейкую буфэрную зону рэпрэзэнтацыі мастацтва, зону між ідэяй і жыцьцём, адаптуе актуальную тэматыку для ленаватага гледача й для дзяржавы, якая стаіць на пазыцыях неўмяшаньня й ігнараваньня праблемаў, выносячы іх за мяжу сваёй адказнасьці й уласна за фізычную мяжу краіны.

Маладое пакаленьне творцаў у нераўназначнай ступені падзялілася: 80–90 адсоткаў складаюць стваральнікі кіч-салённага мастацтва, а нешматлікая рэшта, частку зь якой я паспрабавала акрэсьліць у гэтым артыкуле, сьвядома выбірае актуальнасьць. І, думаецца, такі падзел адбываецца ня толькі з прычыны рэцэптурнага характару

праектаў і стратэгіяў (як быццам яны ўсе ўзятыя з адной кулінарнай кнігі падгляданьня за сусьветнымі тэндэнцыямі). Можа, прычына яшчэ й у тым, што ў атмасфэры няма рызыкі: здаецца, выклік ёсьць, а гатоўнасьці прайграць — няма. А як можна сказаць яшчэ не сказанае, не рызыкуючы вымавіць «ня тое», раскрыцца, атрымаць за гэта па галаве?

Нягледзячы на тое, што тут апісаны збольшага сумны бок утварэньня маладой генэрацыі, — гэта карціна рэальнага ўнёску ў беларускае мастацтва.

Так, сапраўды, талент не прап'еш, рукапісы не гараць, а малады парастак праб'ецца й праз слой асфальту. Але канстатацыя й агучваньне праблемы калі ня стануць першым крокам для асабістага асэнсаваньня, то, можа, хаця б зьменшаць колькасьць пытаньняў пра маладую шпану, што павінна сьцерці з твару зямлі папярэднія пакаленьні, занесьці іх у сьпісы музэйных пінакатэкаў і ў артыкулы з школьных падручнікаў. Толькі праз сумесны культурны досьвед мы здольныя спазнаць сябе, сваю зьменлівую ідэнтычнасьць. Здаровы сэнс супольнасьці пакаленьняў ствараецца калектыўнымі намаганьнямі. Аднак паўстае пытаньне, падказанае нашым палітычным адчаем: ці зможам мы агучыць жаданьні, што ня маюць голасу пры сёньняшнім ладзе? Мне хочацца верыць, што зможам. Для гэтага трэба прыгледзецца да новых мадэляў культурных і сацыяльных паводзінаў, асабліва да іх існаваньня ў публічнай сфэры, адным зь нешматлікіх ацалелых элемэнтаў якой, магчыма, зьяўляюцца мастацтва й ягоныя інстытуцыі, падсілкаваныя несупыннай плыньню новых герояў.

**Анро** (Андрэй Рогач; нар. у 1989)

Скончыў вучэльню імя Красіна ў Маскве, займаўся мастацкай фатаграфіяй да 2013 году. Удзельнік групавых выставаў. Жыве й працуе ў Смаргоні (Беларусь).

**Bazinato** (Ігар Стахіевіч; нар. у 1984)

Навучаўся ў Беларускім дзяржаўным пэдагагічным унівэрсытэце імя Максіма Танка й Эўрапейскім Гуманітарным Унівэрсытэце. Жыве й працуе ў Маладзечне. Пэрсанальны праект «BAZINATO» (2014, Галерэя сучаснага мастацтва «Ў», Менск).

**Уладзімер Грамовіч** (нар. у 1989)

Скончыў Гімназію-коледж імя І. Ахрэмчыка. Працягвае навучаньне ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (Менск). Удзельнік групавых выставаў.

**Алеся Жыткевіч** (нар. у 1990)

Адукацыю атрымала ў гімназіі-коледжы мастацтваў імя І. Ахрэмчыка (Менск). Зьяўляецца студэнткай Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Удзельніца калектыўных выставаў.

**Аляксей Талстоў** (нар. у 1984 )

Жыве й працуе ў Менску. Ня мае мастацкай адукацыі. Пэрсанальны праект «Самакантроль» (2013, Галерэя сучаснага мастацтва «Ў», Менск).

**Яўген Шадко** (нар. у 1987)

Навучаўся ў вучэльні імя А. Глебава (Менск, Беларусь), ва Ўнівэрсытэце імя Мікалая Капэрніка (Торунь, Польшча). Пэрсанальны праект «Escape» (2015, Галерэя сучаснага мастацтва «Ў», Менск). Жыве й працуе ў Барысаве (Беларусь).

**Аліна Швядкова** (нар. у 1989)

Мастацкую адукацыю атрымала ў гімназіі-коледжы мастацтваў імя І. Ахрэмчыка. Працягвае навучаньне ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на факультэце манумэнтальна-дэкаратыўнага мастацтва. Удзельніца групавых выставаў.

**Юра Шуст** (нар. у 1983)

Адукацыю атрымаў у ЭГУ (Вільнюс, Літва), Каралеўскай акадэміі прыгожых мастацтваў (Гент, Бэльгія). Пэрсанальны праект «Рэквіем па Новым годзе» (2014, Галерэя сучаснага мастацтва «Ў», Менск). Цяпер жыве ў Брусэлі й працуе ў Генце (Бэльгія).



Аліна Швядкова. З інсталяцыі «Могілкі». Праект «Replika». 2014
Alina Šviadkova. Cemetery, installation. «Replika» project. 2014

Natalla Haračaja

# THE NEW GENERATION'S AESTHETIC REGIME, OR If the Mountain Won't Come to Mohammed

The process of the world's aesthetic assimilation, which for thousands of years has been evolving as the basis of artistic creation through one's sight as a sense and through one's eyes as human organs nowadays is disappearing. It is absurd to call the current art functioning as plastic art — it is carried out in the forms and situations very far from being primary. Young Belarusian artists who find themselves stuck between the structure of educational and training systems and the criteria that characterize the global approach to art processes have to be in a constant search for the options that would prevent them from falling into a compromise and blind obedience.

Today we unravel a gap in time: beauty producers and consumers, as well as their mediator, enter the XXI century without going through the mill of cultural processes that took place in the civilized world of the previous century. Thus, a strong bias towards clarification of the relationship with the art of the past is obvious now. The aesthetic mode of the new generation, which is formed in such a way, is marked with a clear succession: the young art grasps every opportunity to actualize this period, depriving it of the pressure of the cause-effect linear history and switching into the «here and now» mode — a sort of a risky journey towards the problem — a black hole which contains all the possible young stars of the Belarusian art system, those which have already appeared and might come up in future.

One cannot say that Minsk as the capital and consequently as a place which bears obligations of being a cultural stronghold, **pays great attention to the discovery of new talents**. Unfortunately, the city is not synonymous with art, therefore, in most cases, the younger generation has at its disposal studies at art institutions abroad. But contemporary art practices for the youth do not lie in the sphere of public exhibition venues and institutions, either. *Youth Exhibition* organized by the eponymous section of the Artists' Union is annually held, a year ago the Belarusian magazine «Mastactva» («Art») launched a section «Generation NEXT» featuring reviews of promising talents, and the Museum of Modern Fine Art tries to formulate its strategy through the organization of youth-specific exhibitions and the invitation of young participants. All these manipulations can loosely be considered as supporting the young artistic generation. It is important to note that the emerging artist's portfolio usually enlists four or five of such *Youth Exhibitions*, which are seen both by them and by curators not as an accomplishment but as a necessary experience of torture and humiliation artists have gone through when being students at least in order to feel the relationship and mutual impact a work of art and space have, especially taking into account how extremely rich in space the Palace of Arts is.

Private or non-governmental initiative is much more diverse and fruitful in granting support to the young generation of art-makers — there are competitive and educational programs, sporadic exhibitions and actions. It is not for the first time that the project «Towards a Modern Museum» has been active in this regard, numerous enterprises for the young and talented initiated by Ў Gallery of Contemporary Art sometimes bring results, a fairly active position has been characteristic of the Art Department of the EHU (for example, LitPro school). But individual initiatives seem to present the highest interest: Sergey Shabohin's optional lectures **«Repair. Unovis. Behind the Tractor Plant Screen»,** Sergey's cooperation with 34mag.net media magazine, which resulted in the appearance of Suchart CD, as well as his most recent initiative **FAC (the Faculty of Academic Criticism)**. All these actions only through their mere existence criticize the governmental pressure, but at the same time they present a certain interest by the fact that Sergey Shabohin who demonstratively abandoned his studies at the Belarusian Academy of Arts, is currently one of the most committed fighters for the quality of education of the young generation of artists.

> One can clearly note that the audience starts to appear in Minsk, too, and the artist becomes a public figure, the focus of attention of not only customers or professionals, but also of the widest and at least minimally prepared public.

Belarusian critics can also be placed into the category of observers, because in most cases they still remain only those who merely state facts. A critic in the Belarusian reality is not «a forest purger» at all: here young artists are destroyed by the critics' silence, not by the actual criticism. As for the perennial visitors of a variety of local shows, the problem of distinguishing real art from second hand replicas is still solved by them mainly at the sensory level — disinterested spectators together with their optimistic potential carry a pessimistic inertia: their belief that art belongs and must belong to them gives rise to various forms of *«I do not understand contemporary art»* statements. But, as partnership, mutually beneficial and mutually respectful relationships imply, each side has to step towards the other one, even if the young artist will have to wait for the slow spectator at the border or play the game of *«if the mountain will not come to Mohammed»*.

The process of art perception by the spectator becomes possible only after the introduction of special optics that would allow him/her to see its «aesthetic regime» of presentation. **Jaŭhien Šadko**'s (Jauhien Shadko) two exhibitions that took place at the Gallery Ў represent the young artist's first steps towards publicity and the formation of representation language. His mini-exhibition *In Dazzling White Corridors* (START program, March, 2013), hardly noticed in a small gallery hall, was revealed to the naked eye through the project Escape (Gallery Ў, March, 2015). Since the artist was first working with the space of aesthetic regime in which the works were shown (in the first case Jaŭhien made use of white objects and white, almost virginal, room, whereas in the second show he deliberately avoided the multi-faceted informativeness), it is obvious that the young artist put all the emphasis on the conceptual territory of art. Jaŭhien Šadko revealed complex relations between the artist and the audience in his interim work *The Viewer is the Killer* in 2013. It was an attempt to express his outrage against a simplified subjective transformation of works made by outside observers that in no way is corrected through the interference of art critics or the necessary basic education, which should have been provided by the state.

The period when the artist is defined as «young» is quite short. To a certain extent, it deprives the artist from direct responsibility and gives him/her unconditioned trust a couple of years ahead, which can be used in any way (s)he likes — through memorable hooligan actions or through consistent putting forward of one's firm positions. The main feature that characterizes this period is its experimental, free format, openness to the search for the new as well as for «wrong» movements. Today, the young artist **Alina Šviadkova** (Alina Shviadkova), a participant of collective projects and plain airs, refuses invitations to take part in exhibition activities, referring to the right to redirect and change her views, to find something radically new in her own artistic language. But it should be noted that not once she has stepped forward as a creator with a fine feeling and skill to work through ambiguous issues. At the exhibition SORAM, organized together with like-minded students in 2013, Alina spoke about her feeling of shaky situation in revealing the young artist's potential — rusty garden shears hanging above the snow-white paintings that stood for the monuments to unmade works of art, had a clearly distinctive symbolism of the impending threat and a permanent feeling of delicate and hesitant nature of one's choice of becoming an artist. This choice will have to be proved not only to herself, but to her environment, to curious spectators and even to the whole art community.




Алеся Жыткевіч. Ідэнтыфікацыя з агрэсарам. 2013
Alesia Žytkievič. Identification with the Aggressor. 2013

***што абсалютнае права на цела мае толькі ягоны ўладальнік, — бяз гэтага не атрымліваецца станаўленьне чалавека як сацыяльнага суб'екту. На жаль, у Беларусі, як і ўва ўсіх іншых постсавецкіх краінах, дагэтуль існуе скажонае ўспрыманьне цялеснасьці».***

Працы Алесі Жыткевіч выразна дэманструюць адсутнасьць прыхільнасьці да адной пэўнай формы выяўленчага мастацтва: яна сьмела й згодна з мастацкай канцэпцыяй зьвяртаецца да фатаграфіі, скульптуры, працуе з аб'ектамі й тканінамі. «***Праз усе мае праекты праходзіць лінія пратэсту супраць прыгнёту чалавека як асобы. Гэта таму, што мы жывем у асяродзьдзі, дзе тое лічыцца нормай. Але мне самой хочацца пазбавіцца ад гэтага, адчуць сябе свабодным чалавекам. Калі я кажу, што мне хочацца зьмяніць сьвет, многія з гэтага сьмяюцца. Але — так, мне хочацца яго зьмяніць, хочацца, каб у нас было па-іншаму, каб людзі адчувалі сябе вальнейшымі, не баяліся казаць пра тое, што іх прыгнятае, што ім не падабаецца. Чэхаўскае "трэба па кроплі выціскаць зь сябе раба", на жаль, застаецца для нас актуальным***», — камэнтуе Алеся Жыткевіч.

Аналізуючы новую генэрацыю беларускіх мастакоў, Вольга Шпарага адзначае, што «іншая рэальнасьць, зь якой працуе маладое пакаленьне… складаецца з шэрагу апазыцыяў: гэта шэраг "фізыкі" (цалкам традыцыйныя формы прымусу) і "мікрафізыкі" (нябачных і расьсеяных формаў кантролю й кіраваньня» ўлады, з аднаго боку, і набор стратэгіяў супраціву ім, з другога» [2]. Дадзеныя апазыцыі можна лёгка выявіць і ў працах Алесі Жыткевіч, якая наўпрост разглядае грамадзкія «нарывы», што, па сутнасьці, можна вызначыць як цэнтральную сэнсавую каляіну творчасьці мастачкі. Напрыклад, фізыка й мікрафізыка ўлады знаходзяць сымбалічнае ўвасабленьне ў сэрыях **«Па той бок прынцыпу асалоды» (2014)** і **«Ідэнтыфікацыя з агрэсарам» (2013)**. Апошні праект аб'ядноўвае шэраг аб'ектаў, наўпрост зьвязаных з дэманстрацыяй агрэсіі ў грамадзтве. Акрамя ўнівэрсальных аб'ектаў, якія раскрываюць праблему агрэсіі на глябальным узроўні, мастачка таксама зьмяшчае ў сэрыю знакі, якія характарызуюць непасрэдна Беларусь. Вялікае эмацыйнае ўзьдзеяньне робіць цытата зь вершу маленькага хлопчыка: «***Стаялі зьвяры каля дзьвярэй, у іх стралялі, яны паміралі***», — дзе дыскурс агрэсіі трывожна суседнічае зь непасрэднасьцю й гульнёй ва ўспрыманьні сьвету дзіцём. Другі кампанэнт апазыцыі ўлады, які ўяўляе сабою фіксацыю стратэгіяў супраціву, у творчасьці Алесі Жыткевіч можна прасачыць у сэрыі **«Свабода — гэта выбар сумленьня» (2014)**. Сэрыя аб'ядноўвае шэраг сьцягоў з нанесенымі на іх знакавымі для беларускага асяродзьдзя выявамі: пляскацьне ў далоні, жэст «мір», адбітак трафарэту-графіці з партрэтам вядомага беларускага змагара за свабоду Кастуся Каліноўскага. Зьмяняючы непасрэдны кантэкст іхнай прэзэнтацыі, мастачка разам з гледачамі рэфлексуе з нагоды зьяўленьня новых візуальных маркераў салідарнасьці — прыкметаў зараджэньня й разьвіцьця іншай, сацыяльна актыўнай, сьвядомай і неабыякавай Беларусі.

«***Калі б у нас не стаялі такія пытаньні, як, напрыклад, парушэньне правоў чалавека, мы б знаходзілі іншыя тэмы***, — разважае Алеся Жыткевіч. — ***Напэўна, тады б мы працавалі з больш глябальнымі пытаньнямі, а зараз нам усё ж такі даводзіцца пераадольваць тыя праблемы, якія ёсьць у нас. Мастакі — гэта як лякмусавая паперка, вельмі адчувальныя людзі. Яны рэагуюць на ўсё, што адбываецца ў грамадзтве. Не рэагаваць было б проста бессаромна з нашага боку. Я бачу Беларусь ужо не ізаляванай краінай, мне хочацца, каб і самі беларусы пачалі адчуваць, што яны зьяўляюцца часткай цэлага, што яны ўжо не "тутэйшыя". Хочацца, каб мы пераадолелі свае страхі й адчулі сябе цэласнай адзінкай сьвету. Мне здаецца, маё пакаленьне гэта ўжо ўсьведамляе, ад нашых папярэднікаў мы адрозьніваемся тым, што мы нашмат больш свабодныя й шмат чаго ўжо не баімся***».


[1] **Добровольский В.** Авторитарная власть и современное искусство: белорусский вариант // Художественный журнал. 2013. № 89 (http://morebo.ru/books-all/item/1381170851032).

[2] **Шпарага О.** Звуки молчания: белорусские художники в поисках новых арт-стратегий и тактик // Художественный журнал. 2012. № 84 (http://permm.ru/menu/xzh/arxiv/84/schparaga84.html).

[3] **Арцімовіч Т.** REPLIKA: беларуская арт-генерацыя Z (http://partisanmag.by/?p=10290).





Алеся Жыткевіч. Па той бок прынцыпу асалоды. 2014
Alesia Žytkievič. Beyond the Pleasure Principle. 2014

Volha Bubič




# ALESIA ŽYTKIEVIČ: OVERCOMING *THE LoCALS*



Now I do not remember exactly at which European museum and within what exposition I first faced contemporary art. But I do remember the feeling of the detached coldness of misunderstanding, that impenetrable sterility of boundaries between me and the objects I was observing. I should confess that at that time due to my poor visual literacy and the specificities of socio-cultural contexts not all the meanings were completely decoded, neither were all the terms I encountered in the descriptions in a foreign language put into one coherent idea. But what emotions and intellectual delight did I experience when the meanings successfully matched my understanding: for hours I had been browsing through a Carol Rama's anniversary exhibition in Turin, examining the objects made of cut tires and the collages of dolls' eyes. After returning from my first Venice Biennale I spent days in a careful examination of the brochures from the Asian pavilions seen with my own eyes. Meanwhile the place that the Belarusian artists' works cheerfully placed into a «contemporary art» category has always remained a mystery to me.

Large-scale exhibitions of contemporary Belarusian art in the Palace of Arts, which we, Linguistic University students, due to its proximity and natural curiosity characteristic of our age, used to attend in the 2000s quite often caused anything but intellectual delight. The exhibits of European artists were invariably associated with a puzzle that one badly desired to solve, and on doing this to enjoy the subtlety of metaphors, its unique simplicity or, on the contrary, complexity of the research allusions. In its turn, the Belarusian art accompanied by the epithet «contemporary» almost always evoked confusion and rather often — sympathy. I clearly remember, for example, those Zmicier Višnioŭ's paintings wandering from exhibition to exhibition in the late 1990s — early 2000s. Densely populated with phantasmagoric tasteless creatures — alarming hybrids of cockroaches — almost identical paintings were placed side by side, but nevertheless might have quite different titles Marching Left and Marijuana Smell. My brain failed to recognize them as contemporary, decoding exclusively «painter's personal torments» and not «painter's viewpoint» [1] that rather highlighted a significant lack of understanding of the term itself as well as the absence of the critical reflection and analysis of the Belarusian context.

However, in the last ten years the intellectual environment of the contemporary art exhibitions, in particular those held in Gallery Ў in Minsk, has been increasingly resembling the emotions obtained when attending similar art sites in Europe. Today, a number of critics speak about the activation of the Belarusian art environment and the emergence of a number of new figures whose intellectual activities allow them to trace a positive change in the depth of the analysis of the current situation and the beginning of an optimistic talk about the changes in the concept of Belarusian contemporary art. As the researcher Volha Šparaha (Olga Shparaga) noted in one of her critical texts, «the generation of the 20-years-old Belarusian artists seems to speak a slightly different language as well as to use different visual and symbolic tactics. In their interpretations Belarus gets transformed into a more complex political, social, economic and everyday reality, which requires a meticulous research aimed at the creation of something like a Michel Foucault's «critical ontology of ourselves». [2].

One of the authors who has been recently working on the creation of the works for a possible future Belarusian «critical ontology» is a young Minsk artist Alesia Žytkievič, whose works are regularly exhibited within the capital's art platforms at the expositions of various scales (REPLIKA and Becoming an Artist. Formation in Four Stories at Gallery Ў (2014, 2013), SORAM at CECH art-space (2013), Young Art at the Palace of Arts (2012, 2011, 2010) and at the Festival of Experimental Art DAH-2011). Alesia can be named as one of the representatives of Belarusian art-generation Y, which stands for the generation of young artists whose formation occurs within the current decade evolving as a continuation of the contemporary Belarusian art narration, a peculiar logical reaction to the «light partisan movement» of the 1990s and «a total zero» of the 2000s [3, 4].

When commenting on the specific features of the environment that contributed to her formation, this year's Academy of Arts graduate does not present among the inspiring factors the process of formal studies at this educational establishment. Alesia Žytkievič describes the Academy using only two precise concepts — «conservatism» and «tribalism». The latter refers to a feature due to which random people, who are often intellectually not ready for this, get involved into the world of art. The artist also notes that major changes in the classical art education in Belarus are possible only on the condition of the Academy's «complete destruction» and its subsequent conceptual reformation.

«Everything is very conservative at the Academy, but, oddly enough, it did not prevent me personally from entering the contemporary art domain. Now in Belarus it is still seen as an empty niche which is only beginning to be filled in. I see the 2000s as a starting point for these processes. Since that time we can already speak about a definite range of artists who work in this artistic field. But still, these people are very few. And that is why we, as contemporary human beings, cannot but feel that there are exactly these actions which are demanded.

Why is this type of art important for me? We live in the complicated world, I mean in Belarus, and that is why I do my best to reflect on what is happening in the world and in this country, in particular. Contemporary art possesses many more means and strategies of drawing people's attention to the sore spots of our society. Art makes use of slogans, actions, performances and other contemporary techniques which in a very lively way produce an immediate impact on the viewer and are able to raise a wave of public response».

Alesia recalls that one of the significant sources of information which managed to compensate the absence of topical courses

and disciplines at the Art Academy was the artist Sergey Shabohin, who delivered his own course of lectures to everyone willing to attend it.

«The main building of the Academy is under reconstruction now, and we moved into an abandoned school near the tractor factory. Formally, it is easy to access it, and it happened so that a certain underground environment began to develop there. About two years ago Sergey Shabohin came to us with a proposal to give us a course of lectures on contemporary art, which the Academy lack so much where so far there has been neither Experimental Department, nor the Department of Contemporary Art. With his lectures Sergey just made up for their lack, he told us about the world contemporary art, about various forms and strategies artists work with in the west, in America and other countries. I think it really inspired many of us and we realized that we should not be afraid to experiment and try to work in this area».

And if Sergey Shabohin, in fact, provided the young artists with the experimental and instrumental base, they could easily find their own contents components in a direct contact with the Belarusian reality. And indeed, in contrast to their predecessors of the late 1990s - early 2000s, Alesia Żytkievič, as well as other representatives of the «generation zero» move away from the phantasmagoria of space escapism, preferring to handle directly the Belarusian «here and now». As phenomenological «tags» of her work one can name «aggression», «freedom», «submission», «gender discrimination» and «sexism», but in each of the implemented projects Alesia always reveals their essence at the example of the world of her individual daily anxieties.

Despite being formally taught at the Department of Graphics, the artist keeps on experimenting with forms and stylistic devices, demonstrating permanence in showing her very brave and provocative rhetoric. The photographs from the series Personal is Political (2013) contain controversial visual codes, starting a game by means of a number of stylistic methods: from the metonymy traced in the replacement of a Lenin statue with a statue with a woman holding a paddle in front of the Government House in Minsk to the zero metaphor present in the picture with a woman covered by the Belarusian national flag. The device of synecdoche can be discerned in an object with the unicorn's horn in the project Beyond the Pleasure Principle (2014), whereas the combination of the original metaphor with the ruthless feminist hyperbole — in the object The Monument, where the symbol of a public political leader is replaced with a bare masculinity symbol.

«The project Beyond the Pleasure Principle reveals my reflections on people's gender and sexual sphere, a research on the relations between the public, the social and the political with the sphere of the exclusively personal. If people have an adequate relation to their body, the bigger importance is given to their self-identification and the feeling of freedom. It is enough to recall the Soviet past or George Orwell's «1984» where there is an obvious link between the suppression of sexuality and a resulting rise of oppression of the individual and his/her domination. Individual freedom cannot exist without the feeling of freedom towards one's own body and that of another person, without the feeling of the absolute right on one's body which only the person to whom it belongs has. Without this right there would be no formation of the human as a social subject. Unfortunately, in Belarus, just like in other post-soviet countries, there is still a wrong, distorted perception of physicality».

Alesia Żytkievič works also clearly demonstrate the absence of her adherence to one of the artistic genres: she makes a courageous use of photography, sculpture, objects and tissues making them correctly express her artistic concept. «Through all my projects there can be drawn a line of the topic of protest against the oppression of the human personality. It happens because we all live in the environment where it is considered to be a norm. But as far as I am concerned, I would like to get rid of these constraints and to become a free person. When I say that I want to change the world, many people start laughing at me. But I truly want to do it. I want to live in a different environment, to see people who feel freedom and who are not afraid of talking about something that oppresses them, something they do not like. «We need to drop by drop, squeeze the slave's blood out of ourselves,» — do you remember what Chekhov say?» — Alesia Żytkievič comments.

When analyzing the new generation of the Belarusian artists, the critic Volha Šparaha describes it as embracing a number of oppositions: a «physical» component represented by rather traditional forms of oppression and a «microphysical» component of power — «dispersed invisible forms of control and management», on the one hand, and «a set of resistance strategies — on the other». These oppositions can be easily traced in Alesia Żytkievič's works, who directly observes social «traumas», which generally can be defined as the central semantic direction of her creative life.

For instance, the physics and microphysics of power find their symbolic embodiment in the series *Beyond the Pleasure Principle* (2014) and *Identification with the Aggressor* (2013). The latter brings together a number of objects directly related to the demonstration of aggression in the society. Apart from the unique objects that point at the problem of aggression at the global level, the artist also places in her project some markers that directly characterize Belarus. A little boy's quotation given to accompany one of the objects produces a great emotional impact. It says: «here are the animals standing at the door, they are shot at and so they fall down and die». Thus the discourse of aggression is disturbingly put aside with the spontaneity and play in the child's perception of the world.

The second component of the opposition to power, representing the fixation of resistance strategies in Alesia Żytkievič's works can be traced in the series *Freedom is a Choice of Conscience* (2014). It combines a number of flags with the images significant for the Belarusian environment. Among them there are, for example, clapping hands, a gesture of peace, a print with a stencil portrait of Kastuś Kalinoŭski's — a freedom fighter famous in the history of Belarus. Changing their immediate context of presentation, the artist together with the audience reflects on the emergence of new visual markers of solidarity, which highlight the birth and development of another, socially active, thinking and caring Belarus.

«If there were no such issues, as for example, violation of human rights, we would find other topics, — Alesia Żytkievič assumes, — then we would be handling more global problems, and now we do have to overcome those problems which we are topical for us here. Artists are like a litmus test, they are extremely sensitive people. They produce a very deep response to everything that occurs in the society. Remaining indifferent would be just shameless on our part. The point is that I no longer see Belarus as an isolated country. I would like the Belarusians themselves to start feeling they are a part of the whole, that they are not «the locals» any more, I want them to overcome their fear and feel that they are a holistic unit of the world. It seems to me that our generation already realizes this fact and we do differ from our predecessors by being more free and fearless of many things».



Алеся Жыткевіч. Свабода — выбар сумленьня. 2014
Alesia Żytkievič. Freedom is choice's freedom. 2014

Аляксандра Салдатава. Канікулы ў горадзе
Aliaksandra Saldatava. Vacation in the city



Аляксандра Салдатава. Канікулы ў горадзе
Aliaksandra Saldatava. Vacation in the city



Вольга Сасноўская. Бяз назвы
Volha Sasnouskaja. Untitled

# ПРАЗ 20 ГАДОЎ, альбо ПРА ПЕРАЕМНАСЬЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ ФАТАГРАФІІ

***Вольга Бубіч***

*У дадзены момант я — нулявы ўзровень беларускай ідэнтычнасьці.*
***Аляксандар Веледзімовіч, беларускі фатограф, адзін зь фіналістаў праекту «BY NOW»***

Стан беларускай фатаграфіі сёньня — адна з тых тэмаў, якія найбольш актыўна абмяркоўваюцца ў культурным асяродзьдзі Беларусі. Пра неабходнасьць вывучэньня разьвіцьця й актуальных тэндэнцыяў фатаграфіі неаднаразова абвяшчалася падчас публічных абмеркаваньняў (напрыклад, на круглым стале «Рэканструюючы фатаграфічную гісторыю: ад “Менскай школы” да пакаленьня “By Now”»), гэтае пытаньне рэгулярна паўстае ў артыкулах, альбомах і кнігах. Важным для беларускай крытычнай супольнасьці стаўся выхад альбому «Новая хваля. Беларуская фатаграфія 1990-х» у «Калекцыі пАРТызана» й зборніку артыкулаў «Творчая фатаграфія ў Беларусі. Досьвед галерэі візуальных мастацтваў NOVA й беларускага фатаграфічнага вэб-альманаху PHOTOSCOPE.BY. 1996–2013».

Вывучэньне фатаграфіі й выяўленьне тэндэнцыяў пераемнасьці цесна зьвязаныя з балючай для нас тэмай культурнага самавызначэньня. Фатаграфія, асноўнымі функцыямі якой сярод іншых зьяўляюцца рэгістрацыя рэальнасьці й экзыстэнцыйны пошук аўтара-фатографа, дае ў гэтым аспэкце дасьледчыкам найбагацейшы матэрыял для аналізу. Яна валодае велізарным патэнцыялам у знаходжаньні адказаў на пытаньні пра традыцыі візуальных дасьледаваньняў, пра тэмы, якія дзесяцігодзьдзямі застаюцца ў аб’ектывах фотакамэраў, пра тое, якія рысы калектыўнага падсьвядомага могуць складаць аснову беларускага характару. Асаблівую цікавасьць у зьвязку з гэтымі пытаньнямі ўяўляе **праект «BY NOW»** — вынік амбіцыйнага конкурсу, праведзенага ў 2013 годзе нямецкімі куратарамі **Матыясам Хардэрам і Гансам Пілерам**. Беларускі фатограф **Андрэй Лянкевіч**, арт-мэнэджар праекту, называе асноўнаю мэтаю «BY NOW» стварэньне «простага праекту пра сучасную беларускую фатаграфію», які прэтэндаваў бы на фіксацыю прамежкавага «зрэзу» альбо «мазаікі» ўсяго таго, што адбываецца ў гэтай сфэры апошнія дзесяць гадоў.

Значнасьць «BY NOW» зьвязаная, перш за ўсё, з тым, што менавіта гэтыя 16 абраных куратарамі візуальных выказваньняў сёньня й у бліжэйшыя гады будуць фармаваць уяўленьне эўрапейца пра Беларусь. Апублікаваны па выніках конкурсу аднайменны альбом можна свабодна набыць у Эўропе, а выстава працаў удзельнікаў у кастрычніку 2014 году адкрылася ў сьценах бэрлінскай галерэі «ifa-Gallery Berlin», а ў лютым наступнага году была прэзэнтаваная ў «ifa-Gallery Stuttgart».

«BY NOW» у чымсьці стаўся сымбалем маладой беларускай фатаграфіі, тым, што здарылася з маркетынгавага пункту гледжаньня своечасова й у патрэбным месцы.

Сама назва хітрай ангельскай шматзначнасьцю амбіцыйна намякае на неабходнасьць асэнсаваньня ўсяго, што адбылося ў нашым візуальным полі «да цяперашняга моманту», адначасова прапаноўваючы нейкі новы актуальны погляд на краіну з геаграфічным скарачэньнем «BY». Не выпадковым супадзеньнем здаецца той факт, што роўна дваццаць гадоў таму, таксама ў кастрычніку, толькі 1994 году, «ifa-Gallery Berlin» ужо выступала ў якасьці пляцоўкі, на якой шырокай публіцы прэзэнтаваўся візуальны зрэз беларускай рэальнасьці. **Выстава «Fotografie aus Minsk»** сабрала працы маладых у тыя часы фатографаў, многія зь якіх знаходзілі стымул да творчасьці ў студыі Валерыя Лабко, легендарнай асобы, што зрабіла вялікі ўнёсак у фармаваньне й разьвіцьцё беларускай фатаграфіі ў 1980–1990-я. Калі гартаеш альбом «Fotografie aus Minsk» з працамі герояў зусім іншага пакаленьня, заканамерна ўзьнікае жаданьне зноў узьняць тэму пераемнасьці ў беларускай фатаграфіі, паспрабаваць параўнаць на прыкладзе матэрыялаў двух фотаальбомаў пытаньні, якімі задаваліся аўтары ў 1994 і 2014 гадах, а таксама адказы, якія яны сваімі фатаграфіямі фармулявалі.

Ці можам мы прасачыць нейкую заканамерную пераемнасьць у беларускай фатаграфіі апошніх дваццаці гадоў? Альбо й у візуальнай плоскасьці мы таксама асуджаныя на «абнуленьне» й вечны комплекс вынаходнікаў ровараў?

## БЕЗ АСОБЫ

У шырокім сэнсе да жанру партрэту ў жывапісе, фатаграфіі й літаратуры залічваюць малюнак альбо апісаньне мастацкімі сродкамі чалавека ці групы людзей, якія існуюць ці існавалі ў рэчаіснасьці. Культуролягі адзначаюць, што ў мастацтве партрэт уяўляе сабой ня толькі прайграваньне вонкавых асаблівасьцяў індывіда, але й выяўленьне ягоных унікальных складнікаў — раскрыцьцё асобы ўва ўсёй паўнаце ейнага ўнутранага сьвету. Параўноўваючы выявы людзей у альбомах «Fotografie aus Minsk» (1994) і «BY NOW» (2013), мы знаходзім у іх цікавую тэндэнцыю.

На ўсіх здымках з альбому 1994 году прысутнічаюць людзі, аднак амаль на ніводнай выяве гледачу не даецца магчымасьць цалкам разгледзець партрэтаванага. У сэрыях Ігара Саўчанкі, Сяргея Кажамякіна й Уладзімера Парфянка мы бачым толькі часткі чалавечых фігураў, зафіксаваныя ў нязвыклых ракурсах і / альбо з экстрэмальным кадраваньнем. У працах Галіны Маскалёвай і Ўладзімера Шахлевіча тэма партрэту рэалізуецца пры дапамозе тыражаваньня выявы, дзе суцэльная ідэнтычнасьць пэрсанажа ўяўляецца нібы сабранай з фрагмэнтаў ці паўтораў кадру. Акрамя таго, фізычная немагчымасьць убачыць твар чалавека абыгрываецца (напрыклад, Уладзімерам Парфянком) праз вобраз маскі: на здымках сэрыі «Persona Non Grata» адзін з герояў чытае газэту «Советская культура», закрываючы твар супрацьгазам, у той час як аголеная пара пазуе з галовамі, загорнутымі ў тканіну, цытуючы вядомы сюррэалістычны сюжэт Рэнэ Магрыта. Альбом беларускіх фатографаў «нулявых» працягвае традыцыю адыходу ад «клясычнага» партрэтаваньня. Фактычна ідэнтычныя здымкам з альбому «Fotografie aus Minsk» кадры з экстрэмальным кадраваньнем мы знаходзім у праектах **Вольгі Сасноўскай, Аляксея Навумчыка** й **Сяргея Гудзіліна.**

Партрэт у ягоным традыцыйным сэнсе дэманструе тэндэнцыю заставацца ў межах камэрцыйнага фармату. У альбоме «Fotografie aus Minsk» гэтую нішу займае сэрыя Сяргея Кажамякіна «Дзіцячы альбом», у «BY NOW» — здымкі **Яўгена Канаплёва-Лейдзіка** «Фата-Маргана». Камэнтуючы ідэю сэрыі, у інтэрвію для сайту ZNЯTA Кажамякін распавядае: «Фатограф-рамесьнік здымае дзяцей і стварае антураж. Нейкая дзіўная ўніформа, якая, паводле ягоных уяўленьняў, павінна быць прывабнай для кліента. Тут намяшана вельмі шмат чаго — фальклёр, эстрада, элемэнты вайсковай формы, савецкая эмблематыка. Па сутнасьці, тут выяўляюцца культурны багаж фатографа, ягоны густ, стэрэатыпы, уяўленьне пра прыгажосьць і шмат чаго яшчэ. І на гледачоў трансьлюецца ўвесь гэты кіч. Іншы пласт — калі глядзіш на ўсе працы разам, на "Дзіцячы альбом". Ёсьць зусім маленькія дзеці, ёсьць старэйшыя, ёсьць і дарослыя дзесьці побач. І разумееш, як чалавека ўбудоўваюць у грамадзтва».

У такім жа кічавым ключы, адыграным паводле законаў уяўленьня пра «смачнасьць», сэксуальнасьць і прывабнасьць для масавага гледача, выбудаваныя партрэты трыё «Топлес», якія адкрываюць альбом «BY NOW». Нягледзячы на відавочныя адрозьненьні ў падборы герояў, фатограф Яўген Канаплёў-Лейдзік працягвае традыцыю паказваць гледачу безаблічныя плоскія карцінкі. Ідэальныя ў тэхнічным выкананьні, яны не даюць ніводнага намёку на сапраўдны характар — індывідуальнасьці дзяўчат. Падобныя выявы маглі б быць зробленыя фактычна ў любой краіне сьвету, якая гуляе паводле законаў камэрцыйнай фатаграфіі. Але, акрамя камэрцыйнага складніку, яны па сутнасьці абсалютна нічым не адрозьніваюцца ад кадраваных здымкаў Сяргея Кажамякіна альбо Ігара Саўчанкі: глядач зноў застаецца сам-насам з пытаньнем пра ідэнтычнасьць пэрсанажаў.

Адным зь лягічных тлумачэньняў тэндэнцыі да выяўленьня ў беларускай фатаграфіі безаблічнага пэрсанажа можа стаць тэзыс культуроляга **Барыса Маркава,** які зьвязвае страту асобы са стратай ідэнтычнасьці — як на ўзроўні кожнай канкрэтнай індывідуальнасьці, так і ў дачыненьні да цэлага народу. *«Кожны чалавек, кожная група, народ павінны любіць і ўхваляць як свой вонкавы выгляд, так і культуру й звычаі, і ганарыцца імі, каб ня страціць сябе й не растварыцца ў іншых,* — піша Маркаў у кнізе «Культура штодзённасьці». — *Праблема страты й захаваньня ідэнтычнасьці па-сапраўднаму можа быць асэнсаваная на ўзроўні ня столькі ідэалёгіі, колькі псыхалёгіі й нават фізіялёгіі людзей. Ідэнтычнасьць — гэта псыхасаматычны стан; яна ўлучае ў сябе ня толькі веданьне пра тое, хто я, але й пачуцьцё ўпэўненасьці, гонару й павагі да сябе»*.

Як вядома, беларусы ў гэтым сэнсе — нацыя, для якой характэрныя «адсутнасьць выразных нацыянальна-культурных формаў» і нявызначанасьць у пабудове дыялёгу з уласным калектыўным «я», што выяўляецца ў сытуацыі дзьвюхмоўя, насьцярожаным стаўленьні як да гістарычнага мінулага, так і да наяўнай спадчыны, а таксама ў бесьперапынных спрэчках пра тое, да якога геапалітычнага лягеру далучыцца. Як бачым, падобныя мэнтальныя асаблівасьці знаходзяць сваё адлюстраваньне й у традыцыі фатаграфаваньня. Мы альбо высьлізгваем з-пад аб'ектываў фотакамэраў, альбо прытрымліваемся правілаў навязанай нам звонку гульні.

І як паэтычны рэфрэн тэндэнцыі прэзэнтацыі чалавека ў беларускай фатаграфіі гучыць формула беларускага філёзафа Валянціна Акудовіча: «Мяне няма».

## БЕЗЫМЕННАЯ ПРАСТОРА

Яшчэ адным цікаўным аспэктам пры параўнаньні альбомаў з прабелам у 20 гадоў зьяўляецца падыход беларускіх фатографаў да фіксаваньня навакольнай прасторы. У фатаграфіі пэйзажаў, як і ў партрэтах, ім дзіўным чынам удаецца прытрымлівацца абранай лініі безыменнасьці й сюррэалізму. Дастаткова супаставіць сэрыю Ўладзімера Парфянка «Дзівоснай мэлёдыі нестае нашым жаданьням (Арцюр Рэмбо)» з фотакнігі «Fotografie aus Minsk» і ўжо пазнавальны стыль маладых менскіх фатографаў **Максіма Шуміліна** й **Міхаіла Лешчанкі**: спакойны, але настойлівы адказ рэальнасьці, якая не задавальняе аўтараў, спроба ўцёкаў у сьвет на мяжы сну й адчуваньні моманту, стварэньне ўласнага, не падобнага да ўсяго навакольнага, сусьвету. Камэнтуючы выставу «Сад» тандэму Максіма Шуміліна й Міхаіла Лешчанкі, мастак **Сяргей Шабохін** піша: *«Гледзячы на фатаграфіі з сэрыі "Сад" і больш раньнія працы, усьведамляеш, што ў іх няма ніякіх адбіткаў сучаснай цывілізацыі, "капсулаў часу" — аб'ектаў, якія характарызуюць месца й час таго, што адбываецца ў кадры. Усе прадметы й вобразы простыя й пазнавальныя, яны як быццам існавалі вечна. Усё выяўлена й растворана, "міталёгія звычайнага", чыстая шчырасьць, прастата й гармонія. Фатографы, як яны самі лічаць, "зьяўляюцца праваднікамі нейкай іншай, вялікай ірацыянальнай сілы", таму інтуіцыя ў іхнай творчасьці займае значнае месца»*.

Сюррэалізм паўстаў у Эўропе на пачатку XX стагодзьдзя як рэакцыя мастацкіх розумаў на ўзрастаньне антыгуманізму й духоўную дысгармонію капіталістычнага сьвету. У пошуках «сапраўднай рэальнасьці», якая дазволіла б спасьцігнуць асобасна-пачуцьцёвую суб'ектыўнасьць і вызваліцца ад прыгнёту сацыяльнага ціску, мастакі абвяшчалі сваімі асноўнымі каштоўнасьцямі свабоду й ірацыянальнасьць. Аднак калі па меры станаўленьня сюррэалізм паступова адыйшоў ад паляваньня за некрытычным падсьвядомым, саступіўшы месца прадуманым разумным экспэрымэнтам, накіраваным на правакацыю звыклых уяўленьняў, то ў выпадку зь беларускай фатаграфіяй ён застаецца, на мой погляд, цесна зьвязаным з самалюбаваньнем, захапленьнем унікальнасьцю ўласнага ціхамірнага сьвету. Уцёкі ў сябе, якія былі задуманыя сюррэалістамі як першы крок да рэвалюцыі, завялі аўтараў ва ўтульны тупік, населены сырэнамі, што заспакойваюць іх. *«Тут час спыняецца,* — кажа **Максім Шумілін**, — *увесь наш творчы працэс — гэта нібы ўцёкі ў рай ад навакольнай рэальнасьці»*. Так, да безасобаснага прадстаўленьня чалавека ў беларускай фатаграфіі дадаецца такі ж безасабовы паказ навакольнай прасторы, фармуючы агульную карціну татальнага мэнтальнага вакууму — унікальнай значнай нулявой марфэмы, якой паўстае Беларусь на эўрапейскай сцэне.

Але ці так гэта насамрэч? Калі разгледзець фатаграфіі на старонках альбому «BY NOW» і параўнаць падыходы маладых фатографаў са стратэгіямі іхных папярэднікаў, выявіць новыя тоны ўсё ж магчыма.

## НОВЫ ПОГЛЯД

Калі ня новую, то, безумоўна, іншую візуальную мову можна выявіць у сэрыі **Аляксандры Салдатавай** «Канікулы ў горадзе», калі параўноўваць кантэнт «BY NOW» з альбомам «Fotografie aus Minsk». Аляксандра аказваецца практычна адзінай аўтаркай з 16 удзельнікаў праекту, якая займаецца вывучэньнем беларускай штодзённасьці па-за зонай кухоннага камфорту. Ейныя працы раскрываюць тэму ўрбаністычных будняў звычайнага месьціча, паказваючы яго непатрабавальным павольным назіральнікам жыцьця краіны ў рэжыме «stand by».

Іншым неардынарным прыкладам ёсьць сэрыя **Сяргея Гудзіліна** «Прыватны Прэзыдэнт», у якой праваакцыйны рэпартэр «Нашай Нівы» працуе з тэмай прыватнага й публічнага. Карыстаючыся візуальным прыёмам дэканструкцыі, папулярным яшчэ ў 1990-х сярод беларускіх фатографаў (згадайма, напрыклад, Уладзімера Шахлевіча, Вадзіма Качана), Гудзілін, тым ня менш, дазваляе па-новаму зірнуць на межы дыстанцыі й іхную вымушаную трансфармацыю ў сучасным мэдыйным грамадзтве. Сяргей падае партрэт прэзыдэнта Беларусі сэрыяй фрагмэнтаў здымкаў, зробленых з экрану тэлевізару. Фармуецца парадокс: лідэр, які неаднаразова заяўляе падчас сваіх выступаў пра блізкасьць да народу, сапраўды фармальна аказваецца на «прыватнай» ад нас адлегласьці. Аднак той факт, што мы ня можам зьведаць яго, убачыць ягоны партрэт у традыцыйным разуменьні, фармуе размыты, безаблічны вобраз з фрагмэнтаў твару, рухаў, атрыбутаў адзеньня.

Яшчэ адзін прыклад іншага погляду на традыцыйную тэму — фатаграфіі **Андрэя Лянкевіча**, прысьвечаныя тэме ваеннага мінулага беларусаў. Аўтар уключае ў свой маштабны праект пра калектыўную памяць адважнае спалучэньне разнастайных новых для візуальнага поля беларускай фатаграфіі прыёмаў, сярод якіх, напрыклад, архіўны здымак і ягонае пераасэнсаваньне ў сёньняшніх рэаліях, псэўдадакумэнтальная пастаноўка, гугл-тэхналёгіі. Асаблівай увагі заслугоўваюць дыптыхі, якія ўлучаюць гугл-здымку беларускіх вуліцаў, названых у гонар герояў Вялікай Айчыннай вайны, і наўмысна недакладныя архіўныя партрэты гэтых самых герояў. Разьмяшчаючы выявы падобным чынам, фатограф задаецца пытаньнем пра іх рэальнасьць, значэньне ў калектыўнай сьвядомасьці народу, пра фэномэн гістарычнай памяці. Якое значэньне маюць для беларусаў назвы вуліцаў Марыі Мельнікайтэ, Ліліі Карастаянавай, Пятра Машэрава? Звыклыя для слыху імёны даўно перасталі асацыявацца з подзьвігамі герояў, якія абаранялі Радзіму, іхныя фатаграфіі не выклікаюць у нашай памяці ніякіх зачэпак. Больш «рэальнымі» нам здаюцца кампутарныя малюнкі гугл-мэпс, якія шэрымі лініямі асфальту й бэтону перасякаюць беласьнежную старонку.

Названыя аўтары выводзяць маладую беларускую фатаграфію на новы віток разьвіцьця, прапануючы іншы погляд на вядомыя тэмы, якія маюць дачыненьне да таго, што можна было б назваць «беларускай рэчаіснасьцю». Такім чынам, адказваючы на пытаньне пра пераемнасьць у фатаграфіі апошніх дваццаці гадоў, я хацела б запярэчыць думцы фатографа **Аляксандра Веледзімовіча**, сфармуляванай у эпіграфе да артыкулу. У фільме Максіма Багдановіча, зьнятым пра ўдзельнікаў праекту «BY NOW», на пытаньне пра пераемнасьць Веледзімовіч вызначае сябе «нулявым узроўнем ідэнтычнасьці», заўважаючы, што ён сам толькі пачынае пачувацца «чалавекам, які хоць якім чынам можа асацыяваць сябе з гэтай краінай».

Абмінаючы тое, што «нулявой чалавечай ідэнтычнасьцю» культуролягі называюць гендэрную ідэнтычнасьць, адзначым, што існаваньне любой культуры немагчымае без традыцыі, незалежна ад таго, ці прытрымліваемся мы яе сьвядома, чэрпаючы інфармацыю з фармальных, структураваных крыніцаў, прадстаўленых, напрыклад, адукацыйнымі праграмамі, публікацыямі альбо выставамі, ці схопліваем стыхійна, часта несьвядома. **Нараджэньне новага прадугледжвае засваеньне вынікаў папярэдняй дзейнасьці** — гэты агульны закон разьвіцьця працуе й у сфэры культуры. На пустым месцы, «вымеценым» ад культуры, стварыць новую культуру немагчыма. На нуль, як вядома, дзяліць нельга, а безасабовасьць у выяўленьні людзей і сьвядомыя ўцёкі ад рэчаіснасьці здаюцца такімі ж паўнавартаснымі характарыстыкамі, якія сьведчаць пра пераемнасьць у беларускай фатаграфічнай традыцыі, як і сталая ўвага да тэмы даўно мінулых войнаў і жаданьне пагуляць з рэжымам.

Нельга кожны раз пачынаць з нуля, зь якімі б асобаснымі духоўнымі пошукамі мы ў дадзены момант сябе ні асацыявалі.



Аляксандар Веледзімовіч. Праект «Месца»
Aliaksandar Vieliedzimovič. «Space» project

# 20 YEARS LATER, or ON CONTINUITY IN BELARUSIAN PHOTOGRAPHY

***Volha Bubič***

*«At the moment I represent the zero level of Belarussian identity».*
Alaksandr Vieledzimovič, Belarusian photographer,
one of BY NOW project finalists

The state in which Belarusian photography finds itself nowadays is one of the most debated issues in the country's cultural environment. The need to study the development and topical photographical trends has been repeatedly articulated in public discussions (for example, at the roundtable discussion «Reconstructing photographical history: from Minsk school to By Now generation»). Moreover, this problem is regularly dealt with in articles, albums and books. In this regard the publications of the album «New Wave. Belarusian photography of the 1990s» in the «pARTisan collection» and the collection of essays «Creative Photography in Belarus. The Experience of Gallery of Visual Arts NOVA of the Belarusian Photographic Web Almanac PHOTOSCOPE. BY. 1996-2013» became significant events for the Belarusian critical community.

**Exploring photography and establishing continuity trends are closely associated with the topic of cultural identity — the issue which still remains painful for us.**

Photography has always been characteristic of such main functions as reality registration and the photographer's existential search, and in this aspect it provides researchers with rich data for analysis. Certainly, it possesses a huge potential in finding answers to the questions about visual research traditions, as well as topics that remain in focus for decades and some features of collective unconscious which in their turn can form the basis of the Belarusian identity.

In regard to these questions **BY NOW** is a project of a particular interest. It was the result of the ambitious contest held in 2013 by the German curators **Matthias Harder** and **Hans Pieler**. Its main goal, articulated by the Belarusian photographer **Andrei Liankievič** who had a role of the project's art manager, was in creating «a simple project on contemporary Belarusian photography», which would claim to reflect an intermediate «selection» or «a mosaic» of all that has been happening in Belarusian photography for the last decade. The significance of BY NOW is primarily linked with the fact that there are these 16 visual statements chosen by the curators that today and in the upcoming years would form in the minds of the Europeans an image about Belarus. The self-titled album which contains the contest's photographic results can be freely purchased in Europe, whereas the exhibition of the participants' works opened at ifa-Gallery Berlin in October, 2014.

To some extend BY NOW has become a symbol of young Belarusian photography having occurred from the point of view of marketing in time and in the right place. The name itself through its cunning multiple interpretations encoded in its English title ambitiously drives us to the need to reflect on everything that occurred within our visual field «by now», simultaneously suggesting a new topical perspective on the country with the geographical abbreviation of «BY».

It seems to be a sort of logical coincidence that **exactly twenty years ago**, in October of 1994, ifa-Gallery Berlin already acted as a platform for the presentation to the general public a visual selection of the Belarusian reality. The exhibition brought together the works of young photographers, whereas the stimulus for those photographs to appear was largely provided by Valera Lobko's studio with this figure's being a legendary personality, who had made an enormous contribution to the formation and development of the Belarusian photography of the 1980-1990s. Looking through the **album «Fotografie aus Minsk»** which puts together the works of the heroes of the entirely different generation, a desire to raise once again a painful problem of the continuity in Belarusian photography which still makes many people dwell on it naturally appears. Thus, there comes a desire to compare through the materials provided by the two albums the questions the photographers in 1994 and 2014 were addressing, as well as the answers they formulated in their own creative projects.

**Can we trace a certain continuity in Belarusian photography within the last twenty years? Or actually in the visual sphere we are also doomed to keep «resetting» everything over and over again, doomed to suffer from the eternal complex of those who reinvent the wheel?**

## FACELESS

In a broad sense an image or a description by artistic means of a person or a group of people who exist or existed in reality refer to the portrait genre in painting, photography and literature. Specialists in Culture Studies point out that in art the portrait assumes not only the reproduction of some external characteristics of an individual, but also revealing his/her unique components — a complete disclosure of the personality's inner world. Comparing the photographs with people depicted in them in the albums «Fotografie aus Minsk» (1994) and BY NOW (2013) we can trace an interesting tendency.

In all the photographs of the 1994's album there are people present, however in almost none of them the viewer is given a chance to give a closer look at a person portrayed. In the series made by **Ihar Saŭčanka** (Igor Savchenko), **Siarhiej Kažamiakin** (Sergey Kozhemyakin) and **Uladzimir Parfianok** we see only some parts of human figures, captured in unusual angles and/or extreme cropping. In **Halina Maskalova**'s (Galina Moskoleva) and **Uladzimir Šachlevič**'s (Vladimir Shachlevich) works the topic of the portrait is realized by means of duplicating the image, where the character's integral identity is presented as if being assembled from pieces or through the repetition of the same shot. In addition, physical inability to see a person's face makes play with the image of a mask (for example, by Uladzimir Parfianok): in the shots from the series *Persona Non Grata* one of the characters reads an issue of «The Soviet Culture» newspaper having his face covered by a gas mask, whereas a naked couple poses with their heads wrapped in a tissue which somehow seems to refer to a famous surrealistic plot of Rene Magritte's. The young Belarusian photographers' album continues the tradition of distancing themselves from «classical» portraiture. In **Volha Sasnoŭskaja**'s, **Alaksiej Navumčyk**'s and **Siarhiej Hudzilin**'s projects we find shots which are virtually identical with the abruptly cropped

The portrait in its traditional sense tends to remain in commercial photography. In the album «Fotografie aus Minsk» this niche is taken by Siarhiej Kažamiakin's series *Children's Album*, while BY NOW — by the photographs by **Jaŭhienij Kanaploŭ-Lejdzik** *Fata-Morgana*. Commenting on the idea that underlies the series in his interview for the site ZNЯTA Kažamiakin said:

*«A professional for whom photography is a craft takes pictures of children and creates entourage. I is some sort of a strange uniform that, to his own mind, must seem attractive to the client. Here very many things are mixed up — folklore, estrade, military uniform elements, Soviet emblems. In fact, his cultural background, tastes, stereotypes, ideas about beauty and many other things are revealed. All this kitsch is directed at the spectators. Another layer is revealed when you look at all the pictures together, at the Children's Album. There are some very little kids, there are those who a little bit older, there are the bigger ones, somewhere around. And you realize how a person is made to fit the society».*

The portraits of the trio «Topless» band, which appear on the first pages of the BY NOW album are made in the same kitsch way, staged according to the ideas about what is tasty, sexy and attractive in the mass audience's eyes. Despite the visible diversity in selecting his

*Арт-праект «XXY»*

*#Ідэнтычнасьць фармуецца праз узаемныя зносіны паміж суб'ектам і супольнасьцю й вызначаецца ў гарызонце той уяўнай структуры, зь якой індывід сябе асацыюе, — #гендэр, нацыя, сацыяльная кляса й г. д.*

Пачынаць з моцных сьцьверджаньняў небясьпечна: мы яшчэ не пасьпелі спытаць, а правільны адказ нам ужо прапанавалі. Але раптам у нас узьнікне іншае пытаньне? Ці раптам у адказе хаваецца памылка? То бок ужо прэс-рэліз дапамагае выявіць у канструкцы выставы амаль усе ейныя праблемныя, спрэчныя зоны — зьвязка ідэнтычнасьці й гендэру, апазыцыя «мы / квір» і пастуляваньне аўтаномнага індывіда, а таксама злоўжываньне хэштэгамі. Таму, мне падаецца, ёсьць сэнс і патрэба старанна прааналізаваць гэты дакумэнт. Дык што мы бачым напачатку? Ня ўсё адразу зразумела, але ўжо шчыльна загермэтызавана, асабліва калі перапісаць першае сьцьверджаньне ў больш простым і схематычным выглядзе:

### XXY = #ідэнтычнасьць + #гендэр

Гэтая схема задае замкнёныя межы, унутры якіх усё й будзе адбывацца далей. Хоць цалкам відавочна, што гэта павінна быць гісторыя пра непарыўную сувязь ідэнтычнасьці й гендэру, пакуль незразумела, навошта # і чаму XXY?

Далей у тэксьце прэс-рэлізу выкладаюцца тэарэтычныя перадумовы арт-праекту, якія зьмяшчаюцца ў два кароткія абзацы з вылучанымі паўтлустым шрыфтам у кожным зь іх другімі сказамі. Складана сказаць, наколькі гэта заплянаваны эфэкт, але адзначаныя выказваньні супрацьстаяць адно аднаму й утвараюць паміж сабой структурнае напружаньне, пашыраючы, магчыма, гэтае напружаньне на навакольны тэкст:

*Мы можам крытыкаваць гэтыя зададзеныя вобразы й мадэлі, але мы ня можам іх ігнараваць.*

*Яны разумеюць сваю ідэнтычнасьць як дынамічную, перарывістую, пазабінарную...*

Немагчыма не заўважыць апазыцыю «іх» і «нас» — мы можам крытыкаваць сваю ідэнтычнасьць і ня можам яе ігнараваць, а яны разумеюць сваю ідэнтычнасьць — мы нічога ня робім са сваёй ідэнтычнасьцю, а яны робяць. «Яны» — гэта маладыя людзі, якія называюць сябе амэрыканскім размоўным словам «квір», пра «нас» жа нічога пэўнага не гаворыцца. Калі ўвесь абзац пра «іх» прысьвечаны квірам, то ў «нашым» абзацы пра «нас» гаворыцца толькі ў палове тэксту, а іншая палова распавядае пра ідэальнага «індывіда», які трапляе ў калектыўныя сеткі ідэнтычнасьці. Падобна да таго, што мы — гэта любы індывід. (Ёсьць іншы варыянт, але ён спрацуе толькі ў пазытыўнай візіі праекту «XXY», а зараз, нагадаю, пакуль адмоўнае тлумачэньне.)

На што яшчэ варта зьвярнуць увагу, дык гэта на тое, што й «мы», і «яны» складаюцца з асобных індывідаў, кожны



зь якіх сам па сабе належыць да розных групаў і прымае рашэньні (сьвядома ці не) пра гэтую прыналежнасьць. То бок фігура аўтаномнага індывіда ня ставіцца пад сумнеў, а наадварот, становіцца краевугольным каменем усёй канцэпцыі. Напрыканцы атрымліваецца, што й «мы», і «яны» — гэта адны й тыя ж аўтаномныя індывіды. Гэта значыць, «яны», можа, трохі больш аўтаномныя, але «мы» таксама можам стаць такімі ж.

У фінале прэс-рэлізу знаходзіцца даволі дзіўны фрагмэнт. Ён слаба зьвязаны з усім астатнім тэкстам і амаль цалкам вылучаны паўтлустым шрыфтам. Гэта так званая «вобласьць хэштэгаў праекту». Праз коску пералічваюцца асноўныя тэмы праекту ў выглядзе хэштэгаў, але — гэта не хэштэгі (!). Нават у электронным выглядзе (а прэс-рэліз быў апублікаваны на сайтах-партнэрах праекту) словы, вылучаныя знакам #, не становяцца спасылкамі на разнастайныя паведамленьні, якія зьмяшчаюць такія ж словы, пазначаныя такім жа сымбалем, а застаюцца ўсяго толькі словамі, пазначанымі сымбалем #, усяго толькі спасылкай да ідэі хэштэгу. Куратарскае тлумачэньне таго, навошта патрэбныя хэштэгі, можна знайсьці ў апісаньні гукавой экспілкацыі: «*Працэс працы з хэштэгамі адкрывае новыя вымярэньні саміх сябе й прасторы, у якой мы жывем... назва [ж] выставы адсылае да немагчымага набору храмасомаў (XY — мужчынскі набор, XX — жаночы набор) і зонаў нераспазнавальнасьці, дзе адно датычыцца, перасякаецца, накладаецца й перацякае ў іншае*».

Такім чынам, правільны адказ, які й павінен стаць эфэктам выставы, можна сфармуляваць, напрыклад, так: праца з новымі вымярэньнямі гендэрнай ідэнтычнасьці адкрывае дзьверы ў прастору нераспазнавальнасьці. Вельмі добра, але давайце паглядзім, як куратарскае рашэньне насамрэч прыводзіцца да такога адказу.

Паколькі ў апісаньнях выстаўленых працаў некаторыя словы вылучаныя знакам #, можна было б выказаць здагадку, што вобласьць хэштэгаў праекту сабраная з самых папулярных словаў, выкарыстаных у гэтых апісаньнях. Тыя з нас, каму такі ход думкі здаецца натуральным, напэўна, зьдзівяцца, калі ўбачаць вынік параўнаньня двух сьпісаў словаў (вылучаныя хэштэгі, якія супадаюць):

***Вобласьць хэштэгаў праекту:*** *#норма,* ***#ідэнтычнасьць,*** *#індывід,* ***#іншы, #табу, #квір,*** *#гендэр,* ***#сэксуальнасьць,*** *#памяркоўнасьць, #гвалт, #соцыюм,* ***#каханьне,*** *#чужы,* ***#страх,*** *#давер,* ***#цялеснасьць***

***Хэштэгі, выкарыстаныя ў апісаньнях асобных працаў:*** *#шчырасьць, #пачуцьцёвасьць, #трывога,* ***#табу, #сэксуальнасьць, #ідэнтычнасьць,*** *#рэлігія, #палітыка, #мова_варожасьці, #цэнзура, #ананімнасьць, #вэб_публічнасьць, #queer, #belarus, #геі, #лесьбіянкі, #улада, #сэксуальны, #гігіенічны, #кантроль, #клішэ, #супярэчлівасьць, #канфліктнасьць, #цела, #мацярынства, #грэх, #грамадзтва, #гамафобія, #досьвед, #сэкс, #разуменьне, #суперажываньне,* ***#каханьне,*** *#публічнасьць,* ***#квір,*** *#правакатыўнасьць, #агрэсіўнасьць, #адмаўленьне,* ***#іншы,*** *#жанчына, #супольнасьць,* ***#страх,*** *#зьдзіўленьне, #абурэньне, #супрацьстаяньне,* ***#цялеснасьць***

Толькі палова катэгорыяў з «вобласьці хэштэгаў праекту» ў прэс-рэлізе супадае з выкарыстанымі ў экспазыцыі «хэштэгамі». (Ці іншымі словамі: толькі пятая частка сапраўды выкарыстаных «хэштэгаў» трапіла ў «вобласьць хэштэгаў праекту».) Што асабліва цікава, дык гэта тое, што зьвязка *ідэнтычнасьць + гендэр*, закладзеная ў канцэпцыю праекту, у практычнай рэалізацыі праекту развалілася: #гендэр у апісаньні экспанатаў не сустракаецца.

Такім чынам, падазрэньне, якое зьявілася раней, умацоўваецца: а ці не займаюцца куратары ў гэтым арт-праекце падгонкай атрыманага рашэньня пад загадзя зададзены адказ?

месцах, напрыклад), выключэньнем аказаўся толькі фотаздымак з Тыльдай, зь якога ўсё й пачалося. Такая занядбанасьць самага пачатку — вельмі пашыраная гісторыя. Таму, што гэтае новае зьвяно (выкарыстаньне значка #) у канцэптуальным ланцугу зьяўляецца цалкам неабавязковым й шмат у чым выпадковым, яно — слабае зьвяно. І, вядома ж, увесь ланцуг рассыпаецца на асобныя, ужо не зьвязаныя, фрагмэнты, якія так і існуюць паасобку. Рассыпаецца ўся сыстэма сувязяў, то бок ня толькі хэштэгі, але й адсылкі да квіру, да фэміністычнай крытыкі, да міжнароднага ўзроўню й жэстаў салідарнасьці.

Так, у акадэмічным тэксьце да выставы выразна сьцьвярджаецца, што нельга зводзіць катэгорыю квір да ЛГБТ-руху, і тут жа побач — відэа групы «Бергамот» пра гісторыю беларускіх ЛГБТ з назвай «#Queer Belarus» — але мы





Можна нават прыдумаць тэорыю, якая б патлумачыла настырнасьць хэштэгаў. Хутчэй за ўсё, гэта зьвязана з фотаздымкам «Тыльда Суінтан: На знак салідарнасьці. З Расеі зь любоўю». Фатаграфія была выкладзеная ў твітэры 4 ліпеня 2014 году й, як пішуць куратары, «за 24 гадзіны абляцела ўвесь інтэрнэт», але ў галерэйнай прасторы выстаўлялася ўпершыню. Пры гэтым: **1)** у апісаньні працы — адзіны выпадак у межах усёй выставы — няма ніводнага хэштэгу; **2)** куратары хацелі паказаць іншую працу Тыльды, але тая прапанавала менавіта гэтую, з твітэру.

Вось тады, напэўна, і зьявілася ідэя хэштэгаў — яны сталіся такімі пашыранымі ў масавай культуры дзякуючы масавай папулярнасьці твітэру. Ды й наогул, графічны знак # адсылае да спэцыфікі распаўсюду інфармацыі ў новых мэдыя як з пункту гледжаньня прыёму альбо тэхналёгіі (дадаў сымбаль — зьмяніў усё паведамленьне), так і з пункту гледжаньня паведамленьня пра сродак паведамленьня (эфэкт хэштэгу зводзіцца да таго, што асобныя элемэнты паведамленьня ўтрымліваюцца на мяжы паміж тэкстам і кантэкстам). А яшчэ хэштэг — гэта проста яркі візуальны ход, ідэя якога лунае ў менскім паветры (дастаткова прыгадаць выкарыстаньне падобнага прыёму падчас ЧС па хакеі ў Менску, калі абыгрывалася дваістасьць значка # — аднačасова й хэштэг, які паскарае распаўсюд інфармацыі, і рашотка, за якой знаходзяцца палітвязьні). Прыблізна так можа выглядаць ход хуткай і выпадковай думкі, якая раптам здаецца ўдалай. Далей у апісаньні працаў уносяцца неабходныя зьмены (дадаюцца значкі # — у напружаных

ўжо ведаем цану гэтаму #Queer. Фотаздымкі Жанны Гладко й Вольгі Сасноўскай, зробленыя ў розных тэхніках з розных пэрспэктываў, апісваюцца адной і той жа спасылкай на фэміністскую крытыку ў вакууме, якая нешта там сьцьвярджае. Яшчэ два праекты задаюцца адным і тым жа пытаньнем: «Гэта хлопчык ці дзяўчынка?» — з прадмовы падручнікаў па гендэрных дасьледаваньнях. І тут жа пара працаў мастакоў «міжнароднага ўзроўню», дзе важны сам факт іхнага ўдзелу ў лякальным менскім арт-праекце, важны іхны «жэст салідарнасьці», а ёсьць тут квір ці няма, ня так і важна. (Згадкі ў дужках, мне здаецца, заслугоўвае той цікаўны факт, што ў першыя дні выставы фотаздымкі, напрыклад, Вольфганга Тыльманса з тэхнічных прычынаў нельга было ўбачыць.)

У выніку, на маю думку, у галерэі паўсталі асобныя працы, кожная сама па сабе. У нейкім сэнсе сапраўды атрымалася прастора нераспазнавальнасьці, праўда, тут увогуле нічога не распазнаць. Напэўна, нераспазнавальнасьці самой па сабе недастаткова. Але ёсьць і іншае тлумачэньне.

## ПАЗЫТЫЎНАЯ ВІЗІЯ:

*вось менавіта таму, што ўсё ня так, атрымалася, у рэшце рэшт, крута, вельмі крута, хоць магло й не атрымацца.*

***2. Магчымасьць адмаўленьня й вызваленьне (паміж Эвангельлем і Катэхонам)***

Міхаіл Гулін. Я — ня гей. Відэа 13'48. Менск, 2008

Michail Hulin. I'm not a gay. Video 13'48. Minsk, 2008

Убачыць пазытыў можна ўжо там, дзе спыняецца нэгатыўнае тлумачэньне. Сапраўды, у экспазыцыі няма ніводнай канкрэтнай прыкметы, якая б сталася агульнай для ўсіх працаў. Гэта, вядома, няўдача, калі камусьці хочацца ўбачыць выразнае сьцьверджаньне, — але й адначасова сур'ёзны посьпех у справе вызваленьня думкі ад улады канчатковых рашэньняў.

Напрыклад, некаторыя (а магчыма, і ўсе) працы зьяўляюцца часткаю пэўных адкрытых праектаў («Duty Free» Аляксея Лунёва, «Практыкі падпарадкаваньня» Сяргея Шабохіна, «Inciting Force» Жанны Гладко) альбо патэнцыйна бясконцых сэрыяў («Я не...» Міхаіла Гуліна, «З такіх, як ты, растуць наркаманы» Тацяны Рэўт). Акрамя таго, асобныя й самастойныя працы часта закальцаваныя — аўдыёэксплікацыя, відэа групы «Бергамот», «Самая парнаграфічная кніга II» Анатоля Бялова, нават у статычную выяву Тыльды Суїнтан дададзеная анімацыя. Гэтыя незавершанасьць, няпэўнасьць, нявыказанасьць, вядома, не распавядаюць нам нічога канкрэтнага, але ўсё-ткі паказваюць, што аднаго-адзінага адказу раз і назаўжды тут няма, а значыць, варта задумацца: можа, чаканьне выразнага сьцьверджаньня — гэта памылковая пазыцыя?

Тут жа можна задумацца пра адзін амаль няўлоўны намёк, які нам дае, магчыма, незапланаванае, але непазьбежна перадукладзенае: ува ўсякай прыкметнай і добра зробленай выставе (да якіх, відавочна, належыць «XXY») самаадвольна ўзьнікае й працуе сыстэма загадкавых і нечаканых каапэрацыяў — узаемадзеяньне некалькіх выказваньняў. Так, правакацыйны колер на постэры арт-праекту, паводле словаў куратараў у суправаджальным тэксьце да гукавой эксплікацыі выставы, адмыслова «рэжа вока» — а на другой сьцяне сярод «антыаўтапартрэтаў» Жанны Гладко вісіць вобраз-цытата знакамітай сцэны зь фільму Луіса Буньюэля й Сальвадора Далі «Андалускі сабака» з разразаньнем брытвай жаночага вока. Гэта ня ўсё: куратары прапануюць сумясьціць колер постэру з чорна-белым фільтрам, і тады адценьні стануць нераспазнавальнымі й перастануць рэзаць вока. Аднак, мяркуючы па чорна-белай працы Жанны — не, не перастануць. Такім чынам, беражыце свае вочы, — падказвае нам выстава, не куратары, не мастакі, а ўсё разам, — ні на што не глядзіце.

І вось тут мы можам занэрвавацца (і вярнуцца да ранейшай адмоўнай візіі) альбо запытацца: а што нам тады рабіць?



Напачатку я крыху спрабаваў інтрыгаваць магчымасьцю іншага разуменьня таго, хто такія «мы» ў межах арт-праекту, сьцьвярджаючы, што «нас» можна разумець ня толькі як любых індывідаў. Справа ў тым, што хоць «мы» — гэта сапраўды любыя індывіды, усё-ткі «мы» — гэта й сукупнасьць тых любых індывідаў, якія задаюцца пытаньнямі пра сябе альбо пра што-небудзь яшчэ. (Доказам прапанаванай інтэрпрэтацыі на матэрыяле прэс-рэлізу служыць той дзіўны факт, што ў трох пытаньнях з чатырох, сфармуляваных у тэксьце, гаворка ідзе пра «нас»). Як толькі «мы» задаліся пытаньнем: «А што нам тады рабіць?» — у гэты ж момант «мы» й зьявіліся, і тады ж «мы» й атрымалі адказ на сваё пытаньне: «Нам трэба задавацца пытаньнямі!» Гэткім чынам вельмі пасьлядоўным было тое, што ў межах праекту куратары арганізавалі пашыраную адукацыйна-дыскусійную праграму, не абмежаваўшыся адной толькі выставай.

Але вернемся да той самай праблемы арт-праекту, зь якой і пачыналіся развагі — усё ня так, — і зьвернем увагу на тое, што вельмі многія **працы грунтуюцца на адкрытай магчымасьці адмаўленьня саміх сябе**. Напрыклад, «аўтапартрэты» Жанны Гладко, якія сама мастачка называе антыаўтапартрэтамі; акцыя «Я ня гей» Міхаіла Гуліна, дзе мастак апранаецца так, каб звычайныя грамадзяне не маглі б назваць яго інакш, як геем (альбо сынонімамі); надзейна захоўваюцца пасланьні на швах паміж пліткай мужчынскіх прыбіральняў з працы Сяргея Шабохіна, якія ў рэчаіснасьці даволі проста закрэсьліваюцца чорным маркерам; схаваныя ігральныя карты Аляксея Лунёва не схаваныя насамрэч; праца Тыльды Суїнтан і Сандра Копа замяняе зусім іншую працу Тыльды Суїнтан — і гэтак далей. Варта нагадаць і пра хэштэгі, якія ў прынцыпе не працуюць як хэштэгі, ці пра ключавы зь іх — #гендэр, які не патрапіў у апісаньне ніводнай з прадстаўленых на выставе працаў.

Магчымасьць адмаўленьня тут пад рукой, і скарыстацца ёю вельмі проста. Але менавіта таму больш цікава задумацца й зразумець, што над відавочнымі адмаўленьнямі выбудоўваюцца ненадакучлівыя сьцьверджаньні (камунікацыі, салідарнасьці, супраціву, нявыказанасьці, пяшчотнасьці). Такім чынам, перад намі раскрываецца амбівалентнасьць, якая палягае ў аснове ўсякага зацьвярджэньня — нават (і асабліва) калі яно паўстае ясным і адназначным.

## ***

Каб зрабіць проціпастаўленьне пазытыўнай і нэгатыўнай візіі яшчэ больш выразным, хачу скарыстацца мэтафарычнай апазыцыяй Эвангельле / Катэхон (запазычанай мною ў італьянскага філёзафа Паола Вірна). Сьвет Эвангельля — гэта стан добрай весткі пра прыход мэсіі, які ўсіх выратуе, запануе дабро, а зло назаўжды зьнікне. Сьвет Катэхону — гэта стан да прыходу мэсіі, калі зло пастаянна вакол нас і мы спрабуем яму супраціўляцца, часам пасьпяхова, часам — не. У якасьці парадыгматычнага прыкладу Катэхону Вірна прапануе зыход яўрэяў з Эгіпту й іхныя саракагадовыя блуканьні й абурэньні ў пустыні.

У які з двух сьветаў трапляе арт-праект «XXY»? Калі мы глядзім на яго як на няўдачу (адмоўная візія), — то ўсё адбываецца ў сьвеце Эвангельля, дзе аказваецца, што добрая вестка гендэрнай тэорыі, што разносіцца квір-апосталамі, самаразбураецца з прычынаў занадта дробных альбо выпадковых, каб ставіцца й да гэтых прычынаў, і да самога пасланьня сур'ёзна. Калі ж, у рэшце рэшт, мы бачым у арт-праекце посьпех (пазытыўная візія), — то ўсё адбываецца ў сьвеце Катэхону, дзе значна вышэй за добрую вестку й апошняе рашэньне цэніцца бясконцае супрацьстаяньне вечным небясьпекам і пастаянная магчымасьць нязгоды. На маю ж думку, «XXY» трапляе якраз у прастору паміж двума сьветамі — са сваімі, хутчэй, эвангельскай канцэпцыяй і, хутчэй, катэханічным увасабленьнем.



Сяргей Шабохін. Зоны выцясьненьня. Інсталяцыя.
З праекту «Практыкі падпарадкаваньня». 2014

Sergey Shabohin. Installation «Zone of Repression».
From a project «Practice of Subordination». 2014

# ЮЛІЯ ЦІМАФЕЕВА

# Выбранае з «КНІГІ ПАМЫЛАК»

Каму належыць маё імя?
Ня мне дакладна.

Напэўна, маім бацькам,
якія аднойчы вырашылі,
што я гэта яно,
і пераканалі астатніх.
Напэўна, тым, хто мае права
пісаць яго ў дакумэнтах
і побач клеіць
мой фотаздымак без усьмешкі,
злучаючы тое, што я атрымала
на ўсё жыцьцё, і сэкундную слабасьць.
Канечне, яно належыць табе,
хаця ты ня часта ім карыстаесься.
Яно належыць маім сябрам і знаёмым,
якія, пабачыўшы ў натоўпе,
насаджваюць мяне на кручок імені
і падцягваюць бліжэй.
Маё імя належыць кожнаму,
хто яго ведае,
і будзе належаць кожнаму,
хто пра яго дазнаецца.

Але мне ніколі...

У дзяцінстве я спрабавала яго
на язык, як новую цацку.
Я рабіла над ім досьледы,
дзелячы на склады,
мяняючы месцамі літары,
шукаючы, якая зь іх лішняя,
а якую я люблю больш за ўсё.
І я любіла першую,
і другую, і трэцюю,
а яны мяне не.

Маё імя слухалася іншых,
а я слухалася яго.

Я належу свайму імені,
а не яно мне.
Я ва ўладзе гэтых маленькіх
учэпістых літараў,
гэтых пранізьлівых гукаў,
што прамаўляюцца чужымі ртамі.

Дзякуй табе, мая гаспадыня,
дзякуй табе, мой гаспадар Імя,
за тое, што не паміраю
ад голаду і самоты,
за тое, што ў чалавечым сусьвеце
маю сваё найменьне,
а значыць, сваё законнае месца,
строга абмежаванае
слоўнікавым артыкулам.

Не адрачыся, ня скінуць,
Ня зьнішчыць,
На месцы памерлага імені
На маім цемені
Нехта абавязкова пасадзіць новае —
Ня вырваць і
Ня вырвацца.

Каму належыць маё імя?
Ня мне.

...

## *Альгерду Б.*

Паміж намі слова.
Я маю ў роце яго пачатак,
а ты — яго канец.
Слова — гэта паветраная рыба.
Мы зубамі ўчапіліся ў яе
і адпускаць ня хочам.

Слова лёгкае
і робіць лёгкімі нас.
Вецер падымае рыбіну слова
і нясе, як па цячэньні,
у чужыя сказы,
у чужыя тэксты.
Слова віхляе хвастом
у цябе ў роце,
глядзіць не міргаючы
сьлізкімі вачыма ў маю глотку
і паддаецца парывам.

Нашы целы не адарваць ад слова,
не расхінаючы вуснаў,
не расьціскаючы сківіцаў,
ня бачачы языка адно аднаго,
мы спрабуем гаварыць паміж сабой,
а паміж намі рыбіна,
якую мы ня можам выпусьціць,
слова, якое мы баімся вымавіць,
вобраз, які мы ня хочам
цалкам асэнсаваць.
Але, калі мы адпусьцім
рыбіну на волю, ці выжыве яна
і ці паразумеемся мы?

## Вуліца

Вуліца мусіць
служыць машынам і пешаходам.
Вуліца мусіць
ад скрыжаваньня да скрыжаваньня
быць роўнай і падатлівай.
Вуліца, названая ад нараджэньня
ў гонар вусатага генэрала,
мусіць па-дзявочы прыязна ўсьміхацца
сваёй белазубай падзяляльнай паласой,
пакуль вірлавокія сьветлафоры
і шыракаплечыя хрушчоўкі
будуць сачыць безь перадыху
за чысьцінёй яе пляскатага цела.

Але ніхто зь іх ня ведае,
што вуліца прарастае ўнутр,
што вуліца выхавала пад сабой горы,
якія цягнуцца пахілымі вяршынямі
да самага цэнтру зямлі;
што вуліца выпусьціла зь сябе рэкі,
яны, сьмеючыся, вольна сьцякаюць,
пазьбягаючы грэбляў і мастоў.
Вуліца легла тварам уніз,
і пакуль топчуцца па ёй пешаходы
і коламі прыціскаюць яе машыны,
вуліца ціха й пяшчотна сьпявае
недзе там у душы,
пад асфальтам.

## Адмоўнасьць

Тая мова, на якой я магу гаварыць,
Гэта не мая мова.
А тая, на якой хачу гаварыць,
Не ўкладаецца ў словы,
Якія я ведаю,
Не зьмяшчае вобразы,
Якія я бачу.
Для маёй мовы няма слоўнікаў,
Для яе не сфармавана правілаў.
Гэта мова для чытаньня пра сябе,
Для чытаньня з памылкамі,
Бо праверыць няма каму.
Пісаць на ёй я не змагу ніколі.

Калі ты чытаеш гэты верш,
ты ня мой чытач.

# РАЗБУРЫЦЬ СТЭРЭАТЫПЫ, КАБ ЗАСТАЦЦА ЖАНЧЫНАЮ

## Гутарка зь Юляй Цімафеевай

З вокладкі ейнага першага паэтычнага зборніку «Кніга памылак» на мяне глядзіць дзяўчына з вогненнымі валасамі й букецікам кветак у руцэ (карціна «Цень каханьня» Энтані Санціса). За вобразам крохкага стварэньня дакладна прачытваюцца моц, энэргія і — роўнасьць. Дзяўчына-драпежніца, дзяўчына, якая ўмее падаць у каханьне, пражываючы кожным мілімэтрам сваёй істоты ягоныя жарсьці. Але, падаючы, магчыма, ведаючы пра боль, які спасьцігне ў фінале, яна застаецца ў першую чаргу самой сабою. Бо каханьне — усяго толькі нагода, магчымасьць адчуць, што жывы, прастора, у якой жыцьцё можна спасьцігнуць у поўнай ступені.

Вершы паэткі Юліі Цімафеевай напоўненыя гэтымі ж адчуваньнямі. Радкі, вострыя, часам па-драпежніцку небясьпечныя, прасякнуты бязьмежнай шчырасьцю: аўтарка бы агаляецца, але гэта робіць яе яшчэ больш моцнай і упэўненай у сваёй унікальнай аўтаномнай прасторы, дзе Іншы — усяго толькі люстра, каб убачыць само жыцьцё.

**— Юля, ты паэтка й перакладчыца. Ці разьдзяляеш асабіста для сябе гэтыя дзьве іпастасі? Ці ёсьць прыярытэты? Хто першы: Юля Цімафеева-паэтка альбо перакладчыца?**

**Юля Цімафеева:** Гэтых іпастасяў у мяне больш, а цяпер да таго ж я навучаюся ў магістратуры й займаюся вывучэньнем творчасьці яшчэ адной паэткі — амэрыканкі Эдрыен Рыч. Так што я яшчэ й дасьледчык — у нейкай пачатковай форме. Але, калі разважаць пра паэзію й перакладчыцкую дзейнасьць, я б не сказала, што разьдзяляю гэтыя дзьве сфэры, таму што ў паэзію мяне прывялі менавіта пераклады. Гэта ў любым выпадку ўзаемадзеяньне зь літаратурай, для сябе асабіста я тут не магу правесьці вельмі выразную мяжу.

**— Але, калі ты перакладаеш чые-небудзь вершы, наколькі ўплывае твой асабісты творчы пачатак?**

**Ю. Ц.:** Падчас перакладаў я стараюся не дадаваць сваё асабістае. Мне важна ня столькі ўкласьці ў пераклад сябе, колькі выявіць, перадаць голас паэта ці паэткі. Зразумела, я там таксама ёсьць, але імкнуся мінімалізаваць гэтую прысутнасьць.

**— Напрыканцы мінулага году выйшаў твой першы зборнік паэзіі «Кніга памылак», у анатацыі да якога пазначана, што гэтыя твае вершы кідаюць «выклік звыклым уяўленьням пра жанчыну». Што гэта за выклік, і што ёсьць у нашым кантэксьце «звыклымі ўяўленьнямі пра жанчыну»?**

**Ю. Ц.:** Я ня тое каб кідаю выклік, і я б не сказала, што гэта мая мэта, яно, можа, так само атрымліваецца. Справа ў тым, што некаторыя дасьледчыцы лічаць, быццам жаночая паэзія — гэта такая асобная літаратурная плынь, кірунак, які мае свой голас, пэўны набор тэмаў, традыцыяў і г. д. Таму, калі я кажу пра выклік, гэта, хутчэй, жаданьне не адпавядаць таму вобразу паэткі, які прыняты ў грамадзтве — маю на ўвазе патрыярхальнае грамадзтва. А гэта вобраз жанчыны паслухмянай, эмацыйнай, увесь час закаханай — і прычым закаханай менавіта няшчасна, — слабой і рамантычнай. І словы, эпітэты, мэтафары, што яна падбірае, — гэта такі пэўны набор, якім гэтыя жанчыны павінны карыстацца, калі яны хочуць, каб іх успрымалі як паэтак. Што тычыцца жанру, то гэта ў асноўным любоўная ці прыродная лірыка, зразумела. Калі я чытаю зборнікі беларускіх паэтак XX стагодзьдзя, напрыклад, то адзначаю, што амаль усе пішуць пра каханьне, прыроду альбо любоў да роднага краю.

У сваёй жа паэзіі я сьвядома зьвяртаюся да цялеснасьці. У нас усё яшчэ прынята лічыць, што жанчына ня мусіць пісаць пра сэксуальнасьць, паэтка павінна быць сьціплай. Але мне падабаецца пісаць пра цела, разумець яго, адчуваць яго часткаю сябе. Зразумела, згаданыя асаблівасьці тычацца найперш нашага кантэксту, таму што ў заходнеэўрапейскай ці амэрыканскай літаратурнай традыцыі гэты выбух адбыўся яшчэ ў 1960–70-я.

**— То бок нашая сэксуальная рэвалюцыя яшчэ будзе?**

**Ю. Ц.:** Думаю, так, яна яшчэ не адбылася, асабліва ў жаночай літаратуры.

**— Ты называеш сябе фэміністкай і ў адным з інтэрвію кажаш, што *«была б радая, калі б мае вершы атаясамліваліся з фэмінізмам»*, але *«спадзяюся, гэта ня ўсё, што ў іх можна знайсьці»*. То бок фэмінізм для цябе як для аўтаркі пэўным чынам ёсьць абмежаваньнем, так? Як увогуле ты акрэсьліваеш для сябе фэмінізм?**

**Ю. Ц.:** У першую чаргу фэмінізм для мяне — гэта роўныя магчымасьці для рэалізацыі сваёй асобы, — незалежна ад таго, жанчына ты ці мужчына, — то бок для ажыцьцяўленьня сваіх інтэлектуальных і прыродных памкненьняў без ціску з боку патрыярхальнага грамадзтва. А гэты ўціск адчуваецца вельмі моцна, у тым ліку й у мове. Калі ты маладая, ды яшчэ й жанчына, часта гэта становіцца падставаю не ўспрымаць цябе як самадастатковую асобу з уласным меркаваньнем. То бок калі мае вершы атаясамліваюць з фэмінізмам, для мяне гэта не абмежаваньне, а прызнаньне.

Калі ж я кажу, што, спадзяюся, мае вершы фэмінізмам не вычэрпваюцца, я маю на ўвазе, што я разважаю з гэтым сьветам, з аднаго боку, як жанчына, а з другога боку — я таксама імкнуся да пэўнай унівэрсальнасьці, да інтэлектуальных адкрыцьцяў, але іду да іх сваім шляхам, са сваім, менавіта жаночым, досьведам.

**— На прэзэнтацыі каталёгу Людмілы Русавай Адам Глобус, які добра ведаў яе, адзначыў, што яна ўвесь час была супраць таго, каб называцца мастаЧКАЙ, а не мастаком, і ўвогуле марыла быць мужчынам. Прытым дасьледчыкі зараз сьмела залічваюць яе да першых фэміністак у Беларусі...**

**Ю. Ц.:** Я б сказала, што ейная пазыцыя — гэта трохі іншае. Гэта таксама яе пратэст, таму што да апошняга часу на постсавецкай прасторы жаночае мастацтва, літаратура ў тым ліку, лічылася ніжэйшым па якасьці за «мужчынскае» й абмежаваным у сваёй унівэрсальнасьці. Мне хацелася б якраз разбурыць такі стэрэатып і пры гэтым застацца жанчынаю. Я не хачу быць мужчынам, каб мяне, напрыклад, называлі паэтам, не. Трэба сваю жаноцкасьць несьці годна.

**— Ці можна ўжо казаць пра існаваньне фэмінісцкай плыні ў беларускай паэзіі?**

**Ю. Ц.:** Не магу дакладна сказаць. Можа, мы б хацелі так думаць, маю на ўвазе, мы — тыя паэткі, якія дэкляруюць сваю фэмінісцкую пазыцыю. Але мне падаецца, нас пакуль адзінкі. Хаця тут, вядома, нестае дасьледчыкаў, якія б гэта прааналізавалі, бо мы знаходзімся кожная на сваёй выспачцы, нешта робім і думаем, што нас вобмаль. Нядаўна я прачытала кнігу «Скрадаючы мову» пра зьяўленьне жаночай паэзіі ў Амэрыцы й падумала, што, магчыма, калі прааналізаваць тыя працэсы, якія адбываюцца ў нас цяпер, высьветліцца, што фэмінісцкая плынь ужо існуе, што ёсьць пэўнае кола тэмаў, уласная мова й г. д. То бок, мне падаецца, гэта, хутчэй, пытаньне літаратурных дасьледаваньняў, якіх нам відавочна бракуе, асабліва з пункту гледжаньня фэмінісцкай крытыкі.

**— Што ўвогуле адбываецца ў сучасным беларускім літаратурным полі з пункту гледжаньня сутыкненьня пакаленьняў? Бо я так разумею, што твой «выклік» супраць пэўных уяўленьняў пра жаночую паэзію тычыцца ў першую чаргу старэйшай літаратурнай генэрацыі, якая, як правіла, вельмі кансэрватыўная й традыцыйная па сваім сьветапоглядзе.**

**Ю. Ц.:** Магчыма, я не зусім магу адказаць на пытаньне пра сутыкненьне пакаленьняў, бо пакуль, мне падаецца, сучасная паэзія нашых 25–30-гадовых аўтараў яшчэ не прачытаная. Я маю на ўвазе, што няма дасьледаваньняў, якія б аб'ядналі аўтараў у пэўныя плыні, прааналізавалі тэмы, паэтыку й г. д. Увогуле гэтая паэзія пакуль, на жаль, не ўпісаная ў кантэкст, не прадстаўленая як зьява. Ня выяўлена, пра што пішуць гэтыя аўтары, чаго хочуць, што ў іх новага ў параўнаньні з папярэднікамі. Мне асабіста гэтага вельмі бракуе. У прозе, на маю думку, сытуацыя лепшая: зьявіліся прэміі, якія сталі стымулам для творцаў, пішуцца рэцэнзіі. А вось паэзія — па маім адчуваньні — пачала сыходзіць у цень. Пра яе ня так шмат пішуць і гавораць, у лепшым выпадку пасьля пэўнай падзеі — фэстывалю, прэзэнтацыі кніжкі — застаецца толькі фота- ці відэадакумэнтацыя, але рэцэнзіяў, нейкай крытычнай рэфлексіі мала.

**— Але, калі на тэарэтычным узроўні гэтае сутыкненьне пакаленьняў не зразумелае пакуль, на энэргетычным узроўні яно адчуваецца? Ці сутыкалася ты асабіста з камэнтарамі накшталт: гэта не мастацтва, бо не занадта, напрыклад, духоўнае?**

**Ю. Ц.:** Бывае. Але гэтае стаўленьне, хутчэй, зьвязанае з «дазволеным» вобразам паэткі, пра які я казала раней. Таму што калі ты жанчына, хай нават і творца, то павінна быць сьціплай, прыстойнай... Паэт можа быць хуліганам, але ці можа быць хуліганкай паэтка? Наколькі яна будзе прынятая? Наколькі ёй дазваляецца гаварыць пра сваю сэксуальнасьць і цела? У нас і цяпер гэтыя пытаньні застаюцца спрэчнымі.

**— Аднойчы ты адзначыла, што ты цалкам задаволеная жыць у сучасную эпоху. Што для цябе азначае сучаснасьць?**

**Ю. Ц.:** Я іду ад адваротнага. Усе эпохі мы можам адно ўяўляць сабе, мы ведаем толькі тое, што прачыталі пра іх, сапраўдны, прынамсі, больш-менш сапраўдны, цяперашні момант. Я хачу жыць проста тут і цяпер, жыць у сабе. А гэта для мяне й ёсьць жыць у сучаснасьці.

**— Цікавая гульня словаў атрымліваецца — жыць у сабе. Гэта значыць захоўваць аўтаномію ад таго, што адбываецца навокал, альбо быць максымальна адкрытым?**

**Ю. Ц.:** Гэта, хутчэй, і тое, і другое. З аднаго боку, ты жывеш у сваёй прасторы, ты сам сабе час, але, зь іншага — ты таксама ўплываеш на тое, што адбываецца навокал, таксама творыш гэтую сучаснасьць. Калі ўвогуле казаць пра рэальнасьць, гэта ж таксама адносны панятак. Ты сам творыш гэтую рэальнасьць, ты яе выбіраеш у большай ступені, чым яна цябе.

**— Але ёсьць тэмы, пра якія ты б сказала, што яны ня зробяцца аб'ектам тваёй творчасьці, таму што гэта занадта натуральна ці банальна?**

**Ю. Ц.:** Я не магу ацаніць будучыню, я жыву ў сучаснасьці. Мною напісана ня так шмат, я не ахапіла яшчэ велізарную колькасьць тэмаў, таму не магу сказаць, што вось пра гэта я б не пісала. Такіх выпадкаў, каб я вельмі хацела пра нешта напісаць, але ўстрымалася б зь нейкіх прычынаў, яшчэ не было. Магчыма, у будучым такія тэмы зьявяцца, а, магчыма, і не.

**— Твае вершы шчырыя й адкрытыя, але якая мяжа гэтай адкрытасьці?**

**Ю. Ц.:** Пэўная мяжа ёсьць, зразумела. Нейкія інтымныя рэчы я абмінаю, таму што, калі ты пішаш, ты ствараеш пэўны сьвет, гэта не зусім ты. Гэта ўжо іншая матэрыя, гэта не зусім твае эмоцыі ці думкі, гэта складаны сплаў.

**— Чым ці кім ты апошнім часам натхняесься?**

**Ю. Ц.:** Цяпер мы з Альгердам Бахарэвічам, маім мужам, чытаем лекцыі Мераба Мамардашвілі, вельмі натхняе. Мне падабаецца тое, што я чытаю пра амэрыканскую жаночую літаратуру, пра фэмінісцкую крытыку, творы Эдрыен Рыч, — гэта адкрывае мне новы сьвет.

***Гутарыла Таня Арцімовіч***

# BREAKING THE STEREOTYPES TO REMAIN A WOMAN

## A talk with Jula Cimafiejeva

A girl with fire hair and a bunch of flowers in her hand looks at me from this poetess' first collection of poems *The Book of Mistakes* (Anthony Sandys' painting *Love's Shadow*). Power and energy are clearly identified in this image, as well as equality. A predator-girl, a girl who can fall in love and feel the passion with each millimeter of her personality. But when falling and probably being aware of pain she can experience at the end, she first of all remains herself. Since love is just an excuse, an opportunity to feel you are alive, a space where life can be grasped in its full extent.

Jula Cimafiejeva's poems are filled in with the same emotions. The endless sincerity is heard in abrupt, sometimes dangerously predatory lines: the author seems to be getting naked, but this makes her even stronger and more confident in their unique autonomous space where the Other is just a mirror to see life itself.

— Jula, you are a poet and an translator. Do you personally draw a clear line between these two faces? Or there are some priorities? Who takes the first place: Jula Cimafiejeva as a poet or as an translator?

Jula Cimafiejeva: I have many more than just two roles to perform, now I am also doing my Master's being engaged into the study of one more poet's creative way — an American Adrienne Rich. Thus, I am also a researcher, at some emerging stage. But if to speak about poetic and translating activities, I would not say that I divide these spheres, because it was translation which brought me into poetry. In any case it is interaction with literature, and personally for myself I cannot draw a clear distinction.

— And when you translate someone's poems, to what extent does your own creativity influence it?

**J.C.:** When translating I try not to add anything personal. For me it is important not to bring myself into translation, but to reveal and express the voice of the poet. I am undoubtedly present there, but I do my best to minimaze this presence.

— At the end of the last year, your first collection of poems *The Book of Mistakes* was published, and in its annotation one can read that these poems *«challenge conventional ideas about a woman»*. What challenge is meant and what does the phrase «conventional ideas about a woman» imply in our context?

**J.C.:** I do not really challenge, and I would not claim it to be my purpose, it might happen on its own. The thing is that some researchers believe that women's poetry is such a separate literary movement, a direction that has its own voice, a certain set of topics, traditions, etc. So when I speak about challenges, it is rather a desire not to conform to the image of the poetess, which has been adopted in the society, I mean patriarchal society. This image draws a picture of an obedient emotional woman who is constantly in love and being in love she still feels unhappy, weak and romantic. The words, epithets, metaphors she chooses represent a typical set these women should use if they want to be perceived as poetesses. As for the genre, it is basically love or nature lyrics, of course. When I read the collections of Belarusian poetesses of the XX century, for example, I notice that almost all of them write about love, nature, and love for their land.

In my own poetry I consciously appeal to physicality. We still have a wide-spread assumption that a woman should not write about sexuality, the poetess should be modest. But I enjoy writing about body, to understand it, to feel it as a part of myself. Of course, these features relate primarily to our context, because in Western European or American literary tradition this explosion took place back in the 1960-70's.

— So, do you think that sexual revolution is still to come?

**J.C.:** Yes, I think so, it has not happened yet here, especially in women's writing.

— You claim to be a feminist, and in one of the interviews you said that you would be glad if your *«poems were associated with feminism»*, but at the same time *«hope that it is not all that can be found in them»*. Thus, feminism presents a certain limitation for you as an author, doesn't it? What is your personal definition of feminism?

[redacted] regardless of the fact whether you are a male or a female. That is the realization of one's intellectual and natural aspirations without any pressure from the patriarchal society. And this pressure is felt very much, in language, too. If you are young and you are a woman, too, these things become a reason for other to perceive you not as a self-sufficient person with your own viewpoint. That is, if my poetry is identified with feminism, for me it is not a limitation, but recognition.

When I say that I hope that my poems are not limited by feminism, I mean that I speak to this world, on the one hand, as a woman, and on the other hand, I aspire to a certain universality, to intellectual discoveries, but I move towards them in my own way, with my own experience of being a woman.

[redacted] her well said that she always objected to being called a «woman-painter», and was actually dreaming of being a man. At the same time contemporary researchers now bravely put her into the category of the first feminists in Belarus ...

[redacted] protest because, until recently, in the former Soviet Union women's art, including literature, had been considered as a low quality imitation of «men's» art, being also limited in its universality. I would like to destroy this stereotype and at the same time to remain a woman. I do not want to be a man, for example, to be called a male poet, no way. One should proudly bear her status of being a woman.

— Can we assert that a feminist trend in Belarusian poetry does exist?

**J.C.:** I cannot say exactly. Maybe we would like to think so, I mean, we, women poets, who declare their feminist position. But I think we are still not numerous. Although there are certainly not enough researchers who have analyzed it, as we each find ourselves on our own little islands, we do something and we think they almost totally miss. I have recently read a book entitled *Stealing the Language* by Alicia Ostriker about the emergence of women's poetry in America, and I thought that maybe, if we analyze the processes that are currently evolving in this country, we would find out that feminist movement does already exist, that there is a certain range of topics, their own language, etc. That is, I think it is more a question of literary studies, which we clearly lack, particularly in terms of feminist criticism.

— What is going on in the contemporary Belarusian literary field in terms of the clash of generations, in general? After all, as I understand it, your «challenge» was aiming at certain ideas about women's poetry which are, first of all, characteristic of the elder literary generation, which tends to be very conservative and traditional in their outlook.

**J.C.:** Well, I cannot really answer the question about the clash of generations, as long as the contemporary poetry of our 25-30 year olds seems not have been read yet. I mean, there are no studies that would group the authors in certain directions, analyze the themes, poetics, etc. In general, this poetry, unfortunately, has not been inserted into the context, not represented as a phenomenon. It has not been found out what these authors write about, what they want, what new things they have in comparison with their predecessors. I personally really lack this. In prose, in my opinion, the situation is better: prizes have appeared becoming an incentive for authors, reviews are written. Whereas poetry, as it seems to me, has started to move into the background. Not so much is written about it and said, in the best case, only when a specific event — a festival, a presentation of the book — is over. So only photo and video documentation remains, whereas some critical reflection is missing.

— But when at the theoretical level this clash of generations is still not clear, is it felt at the energetic level? Have you ever faced any comments claiming that, for example, your poetry is not art, since it lacks, say, spirituality?

**J.C.:** It happens. But this attitude is more connected with the established image of the poetess I have mentioned before. Since when you are a woman, even a woman in art, you have to be modest and decent... A male poet is allowed to be a hooligan, but can a female poet be such? To what extent will she be accepted? How much is she allowed to speak about her sexuality and her body? Even now these issues remain controversial.

— Once you said that you were completely happy that you were living in the given period of time. What does «now» mean for you?

**J.C.:** I part from the opposite premise. We can only imagine all the previous epoches, we form our ideas about them from what we have read about those times, and only our «now», our present moment seems to be the only true reality. I just want to live here and now, to live inside myself. And this is what it means for me to live at present.

— It turns out to be a peculiar play on words — to live inside oneself. Does it mean to keep one's autonomy from what is going on around you, or to be as open as possible?

**J.C.:** It is likely to be both. On the one hand, you live in your space, you are your own time, but again you also influence what happens around you, you create this present time. If in general to speak about reality, it is also a relative issue. You make this reality, you choose it to a greater extent than it chooses you.

— Are there any topics about which you would say that they would never become a subject-matter of your creative acts, due to their being too natural or too trivial?

**J.C.:** I cannot predict future, I live at present. I have not written so much, I have not embraced a huge number of topics so far, thus I cannot say that I would never write about this or that. I have never found myself in situations when I was really eager to write about something but I did not do it because of some reasons. Such topics might come up in future as well as they might not.

— Your poems are sincere and open, but what is the limit of this openness?

when writing you create a certain world, it is not fully you. It is already a different matter, not purely your own emotions or thoughts, it is a complex mix.

— What or who have you recenly been inspired by?

**J.C.:** Together with my husband Alhierd Bacharevič we read book of lectures by Merab Mamardashvili, it inspires a lot. I enjoy what I read about American women's writing, about feminist critics, Adrienne Rich's works — it reveals a brand new world to me.

***Interviewed by Tania Arcimovič***

# ПАКАЛЕНЬНЕ, (НЕ) ТРАЎМАВАНАЕ «САЎКОМ»

Літаратурная кар'ера маладога празаіка АНДРЭЯ ЛАЗУТКІНА распачалася ў 2014 годзе. Спачатку ён скончыў Школу маладога пісьменьніка, а потым трапіў у літаратурную рэзыдэнцыю ў Вільню, дзе напісаў сваю дэбютную кнігу «Палігон», якую пісьменьніца Людміла Рублеўская назвала «***прозай дваццацігадовых***». Кніга адразу была заўважаная й справакавала вострыя спрэчкі: абмяркоўвалі як трэшавы правакацыйны стыль аўтара, так і ягоную адкрытую камуністычную прыхільнасьць. «***Вядома, Лазуткін для сусьветнай літаратуры не такі ўжо наватар,*** — напісаў у сваім блозе празаік Павал Анціпаў. — ***Я б сказаў, што ён насьледуе Сэліну й Лімонаву, ды й стаўленьне нашых суайчыньнікаў да яго такое ж, як і да Сэліна й Лімонава у французаў і расейцаў. Забаўнае супадзеньне. Суайчыньнікі судзяць пісьменьніка па партыйнай прыналежнасьці й палітычных поглядах, а не па якасьці напісанага тэксту***». Да такой «цікаўнасьці» Лазуткін быў не гатовы, таму, каб захаваць прыватнасьць і аўтаномнасьць, у сацсетках ён схаваўся пад імем сусьветна вядомага літаратурнага пэрсанажу, то бок знайсьці яго амаль немагчыма.

У красавіку гэтага году выйшла ўжо другая кніга Андрэя — «Паліталегія», якую Анціпаў называе кнігай «***пра Героя нашага часу. Пра чалавека, які нарадзіўся паміж развалам "саўку" й выбраньнем Лукашэнкі. Пра чалавека, які спазьніўся стаць акцябронкам і не пасьпеў стаць чальцом БРСМ***». Хто ён — герой нашага часу? Ці ёсьць ён увогуле й у якой сыстэме каардынатаў існуе? Думае пра будучыню альбо кідаецца ў прорву бясьпечнасьці, цынічна спажываючы тое, што засталося ў спадчыну? Разважае Андрэй Лазуткін.

# АЎТАРЫТЭТЫ

Калі я вучыўся ў школе, а потым у Ліцэі БДУ, беларускую літаратуру там выкладалі вельмі якасна. Цьвёрда засвоіў савецкі канон прозы: хочаш — жні, хочаш — куй, ёсьць партызанская проза, ёсьць калгасная. Старанна чытаў хлам з паліцаў раённай дзіцячай бібліятэкі й добра разумеў ягоную якасьць, але да белліту ў мяне заўжды была такая хваравітая любоў. Заўсёды паважаў Быкава й асабліва Алеся Адамовіча, які — так сталася, можа, праз тое, што пісаў па-руску, — хутчэй, выпадае зь сёньняшняга пантэону. Але не для мяне: ягоны раман «Карнікі», здаецца, увогуле натхніў на «Палігон». Але нейкіх аўтарытэтаў у мяне няма: увогуле, слоўца гэтае бандыцкае й больш пасуе «братве», чым літаратару. А натхняюся я блізкімі й сябрамі, тымі людзьмі, што атачаюць у рэальнасьці.

Што тычыцца досьведу Школы маладога пісьменьніка, мне было цікава там патусавацца. Ня думаю, што можна навучыць пісаць, даць стыль. Але камунікацыя вельмі важная. Цікава было паглядзець на жывых аўтараў — Бахарэвіча, Алексіевіч, Казько, Арлова, якія прыходзілі й травілі нам байкі. Але я не адчуваю сябе пераемнікам — за імі было проста цікава назіраць. А аўтарытэты, пераемнік — для мяне гэта вельмі гучныя словы.



# ГЕРОЙ. ПЫТАНЬНЕ ПАЛІТТЭХНАЛЁГІЯЎ

Вызначэньне «героя» гучыць для мяне дзіўна. З рыторыкай «геройства» працуюць, хутчэй, паліттэхнолягі, ствараючы пэўныя канструкты, на якія звычайныя людзі павінны раўняцца, — накшталт вобразаў Паўкі Карчагіна альбо Стаханава ў савецкія часы. Пра пакаленьне, якое бачу вакол сябе, пра дваццацігадовых, магу сказаць, што яно лянівае, п'е й абсалютна абыякавае да таго, што адбываецца навокал. Я б сказаў, што ў «Паліталёгіі» ў мяне ня тое што нармальных людзей няма, там увогуле пазьбіраліся адныя выродкі. Але, шчыра кажучы, у мяне няма ілюзіяў ні наконт сябе, ні наконт сваіх аднагодкаў. Як слушна заўважыў Павал Анціпаў, так, гэта генэрацыя, якая нарадзілася ў пэрыяд з 1985 па 1994-ы, то бок у такой нявызначанай краіне — гэта была ўжо быццам не *Белоруссия*, але яшчэ й не *Беларусь*. Таму, на маю думку, і казаць пра пэўныя каштоўнасьці альбо арыентыры складана: ня думаю, што іх можна неяк адмыслова прывіць.

Мы бачылі дзьве розныя карцінкі: з аднаго боку — БТ, зь іншага — Народны фронт. Усё гэта неяк хранова спалучаецца, і таму ў школьніка атрымліваецца такі гібрыд у галаве — здаровы цынізм. У «Паліталёгіі» я якраз паспрабаваў апісаць гэта: пакаленьне на зломе, такое гарматнае мяса без аніякага крытычнага мысьленьня. Збольшага, зразумела, «назіраў» за сабой і сваім колам, а гэта шмат чарнухі й гразі. Іншыя прататыпы мне не трапляліся, нават такога прапагандысцкага тыпу — накшталт «як загартоўвалася сталь», альбо па-сучаснаму — як гартаваўся МАЗ. Быццам бы ёсьць актывісты БРСМ, побач — актывісты апазыцыйных групаў. Але я думаю, што гэта таксама канструкт палітолягаў, бо моладзь сёньня збольшага ў прынцыпе апалітычная, ім гэтыя разборкі не патрэбныя й не цікавыя.

Мне ж гэта вельмі цікава назіраць, дасьледаваць, запісваць. У сьвеце зараз шмат літаратуры на тэму палітычнай карціны сьвету, але ў нас амаль нічога няма. На жаль. Але мая пазыцыя не сузіральніцкая, я спрабую ўключацца ў грамадзкія працэсы. Так, у 2014 годзе я, напрыклад, удзельнічаў у выбарах у Гарадзкі савет, балятаваўся па Ангарскай акрузе, адным з самых цёмных раёнаў Менску. Досьвед быў цікавы, шмат чаго нагледзеўся, і гэта таксама ўсё кладзецца на паперу. Поле палітыкі ў Беларусі маргінальнае, і такім яно будзе яшчэ пяцігодку дакладна. Потым, магчыма, зьявіцца іншая расстаноўка сілаў: будуць левыя, правыя. Але зараз гэта проста маргінальныя групы, ці, як кажуць на Ангарскай, «абрыганы». Тым ня менш мне цікава ўдзельнічаць у гэтых працэсах, але я рэальна ацэньваю свае сілы: сёньня ніхто ні на што амаль не ўплывае. І асабліва апазыцыйныя актывісты — нешта на Ангарскай падчас выбараў я іх ня бачыў.





# ТУГА ПА «САЎКУ»

Ужо вырасла цэлае пакаленьне, якое Савецкага Саюзу ня бачыла, таму, натуральна, гэта ўсё пераўтвараецца ў міт. Існуюць у галаве ўяўленьні, набор карцінак і штампаў — гарматы, партызаны, шапкі-вушанкі — такі набор міталегіі, і ён, як мы бачым, працягвае эксплёатавацца. І ў Заходняй Эўропе, і ва Ўсходняй, і асабліва ў Расеі. Увогуле, зараз у Румыніі ёсьць кола людзей, якое настальгуе па Чаўшэску, праз гадоў 20 у нас будуць людзі, якія будуць настальгаваць па Лукашэнку. А левы спэктар паўстае яшчэ й таму, што афармляецца пакаленьне, не траўмаванае «саўком», — бачым гэта, напрыклад, у Расеі, дзе зараз шмат лявацкіх маладзёвых груповак. Але ў нас пакуль гэтая ніша абсалютна не закрытая.

Зразумела, ёсьць меркаваньні, што гэта такая мода на левізну. Але я б так не сказаў, бо левыя — гэта натуральная частка палітычнага поля. Гэта ў нас пакуль і левыя, і правыя аднолькава маргінальныя, нягледзячы на тое, што шмат у чым нашая ўлада абапіраецца менавіта на палітычныя традыцыі БССР. Але ў будычыні сытуацыя зьменіцца, і зьявіцца попыт на левую філязофію. Вядома, ёсьць і адваротны бок сацыялізму — ГУЛАГ, напрыклад. Але тут пытаньне да тых партыяў, напрыклад, КПРФ, якія актыўна эксплёатуюць вобраз Сталіна, робяць зь яго сымбаль. Няхай гэтыя людзі й бяруць на сябе адказнасьць за ГУЛАГ, «тройкі», ОСО й усё іншае. У нас жа ёсьць свае савецкія лідэры, напрыклад, Чарвякоў, Мазураў альбо Машэраў, пра якіх ня скажаш благога, на іх можна нават раўнавацца.



# НАЦЫЯНАЛЬНЫ МІТ

Маці ў свой час добра ведала Вінцука Вячорку й Ірыну Поўзік, зь якімі разам вучылася ў «блатной» цэкоўскай чацьвертай школе, удзельнічала ў беларускай «Майстроўні» з самага пачатку. Вядома, калі я вырас, гэта ўжо прайшло міма мяне, я ня ведаў, хто гэтыя людзі, рос такім звычайным беларускім школьнікам без аніякага міту. У 18 гадоў, пэўна, каб падкалоць, сябры мне падаравалі «Код адсутнасьці» барадатага Акудовіча, я пачаў чытаць і нічога не зразумеў, акрамя таго, што нейкі блытаны набор тэкстаў маскуецца пад філязофію. Маці яшчэ добра ведала Дубаўца, але я, зразумела, асабіста знаёмы зь ім ня быў. Ды, калі шчыра, думаю, для грамадзтва за сьценкай «гета» імя Дубаўца мала што скажа. Калі ён натхняе кола зь 10–20 чалавек — у нашых абставінах гэта ўжо заслуга. Няма ў «моўнай» тусоўцы, я б сказаў, маштабнай фігуры: ёсьць тусоўкі, яны самі сябе чытаюць, крытыкуюць. Але існуюць аўтаномна ад іншага грамадзтва. Мая пазыцыя тут — назіральніка, магчыма, калісьці я гэта апішу.

# ПАРТЫЗАНКА?

Нядаўна на букстэры зьявілася маё новае апавяданьне пра тое, як мы зь сябрам выжывалі ў Італіі, і адразу вылезла партызанка — паліцыя, хованкі ў лесе й г. д. Ня ведаю, па маім адчуваньні, беларусы — нацыя няўдачнікаў: мы прайгралі ўсе апошнія войны, прыходзілі акупанты і, так, натуральна, трэба было прыстасоўвацца. Хтосьці так і зрабіў, а хтосьці пайшоў у партызаны.

Ці прыстасаваўся я, ня ведаю — яшчэ малады. Патрэбна спачатку хоць нешта зрабіць, каб было што сказаць. Але, па маім адчуваньні, я не асабліва прыстасаваўся, бо ў такім выпадку матэрыяльна знаходзіўся б у іншым статусе. А так заканчваю зараз юрфак, пайду, напэўна, у пракуратуру. Хацеў бы паспрабаваць пабачыць сыстэму знутры, магчыма, апішу са свайго ракурсу, а праз гадоў дваццаць хтосьці прачытае. Мне падаецца, там ня так усё плоска, ёсьць свае падводныя камяні.







## ЦЭНЗУРА

«Палігон» быў спачатку такой самай суцэльнай плыняй мату, як і «Паліталёгія», але ўсе мацюгі адтуль выкінулі па просьбе СБП. Але гэта такі павярхоўны пласт цэнзуры, ён зразумелы. А калі казаць глыбей, ня толькі пра мацерныя словы, то, так, пэўнага кшталту самацэнзура ёсьць. Вось гэтая чырвоная павязка, якая засталася толькі на вокладцы, для мяне зразумелая: нікому не патрэбныя суды. Але спачатку я ўсё ж пішу тое, што хочацца, і толькі потым кваліфікую, што напісаў: вось гэта пойдзе пад артыкул КаАП, а гэта можна і пад КК падагнаць. Тут, напэўна, і спатрэбілася юрыдычная адукацыя.

Але тэксты пішуцца спантанна — так і павінна быць. Бо гэта жудасна, калі чалавек нават самому сабе баіцца выказаць свае думкі на паперы.





## ЧАС, ЯКІМ ЗАДАВОЛЕНЫ

Нашыя часы дзікія й дзіўныя, але тым ня менш пры ўсіх іхных недахопах я задаволены. Калі мне было 16, я шкадаваў пра тое, што нічога не пабачыў з палітычных падзеяў 90-х. Але сёньня свае інтрыгі. Цікава будзе паглядзець, як нашае грамадзтва будзе праходзіць працэсы трансфармацыі пасьля цяперашняй улады, і цікава, як маё пакаленьне будзе вырашаць будучыя праблемы. Сытуацыя ва Ўкраіне паказала, што моладзь не спраўляецца, атрымліваецца поўны развал, і наш выпадак будзе аналягічным. Будуць, напэўна, людзі, якія зьявяцца й скажуць, што гатовыя ўзяць на сябе адказнасьць. Але я пакуль такіх ня ведаю. Дай бог, каб яны зьявіліся.

*Гутарыла Таня Арцімовіч*





# ДОТЫК

Выстава «Больш за ЯГО». Менск, 2015
«More that HE» exhibition. Minsk, 2015

# «Больш за ЯГО» як крок у эклектыку

Дар’я Трайдэн

Культура й соцыюм бачаць толькі два гендэры, фэміннасьць супрацьпастаўляецца маскуліннасьці бяз права на ўзаемапранікненьне. Фатаграфіі мужчын у сукенках — гэта поўха грамадзкаму густу, канфрантацыя ў дачыненьні да кансэрватыўных манапалістаў ад мастацтва. Выстава «Больш за ЯГО» ў межах квір-фэстывалю «Дотык» зьяўляецца тым доўгачаканым альтэрнатыўным меркаваньнем, якое было трэба выказаць пра табу беларускага маскульту.

***Экспазыцыя:***

*Юлія Канаплёва-Лейдзік — «Дыфузія» (2005), «ПП» (2010–2013)*

*Тася Жыўкава — «Drag and Drop»*

*Анатоль Бялоў — «Эскізы 2002–2010»*

*Шура Канончанка — «Таіс» (2011) — праект «Eastern Europe in Drag»*

*Дзьмітры Суслаў, Ганна Бабіцкая — відэа «Drag Activism» (2011), «Drag Show» (2011) — праект «Eastern Europe in Drag»*

*Куратары — Ганна Лок, Дзьмітры Суслаў*

**Ганна Лок, сукуратар выставы:** «На выставе мы праз квір-лінзы паглядзелі на маскуліннасьць, якая ў традыцыйным грамадстве валодае такімі характарыстыкамі, як цьвёрдасьць, жорсткасьць, у процівагу фэміннасьці як сьвятла, мяккасьці, лёгкасьці. Жанчыны — гэта традыцыйна музы, жанчыны — мадэлі, яны на палатне, а мужчыны выступалі ў якасьці творцы, за мальбэртам. Хто ж яны — героі нашай выставы? "Больш за ЯГО" — пэрсанальны пункт адліку, тэма для абмеркаваньня, яе неабходна працягваць і дапаўняць — якімі будуць наступныя экспанаты?»

Выстава «Больш за ЯГО» — адзін з самых важных праектаў квір-кінафэсту «Дотык». Мэтаю фэстывалю зьяўляецца стварэньне бясьпечных прастораў для свабоднага абмеркаваньня пытаньняў, зьвязаных з ідэнтычнасьцю ў розных кантэкстах і часавых пэрспэктывах. Калі фільмы, якія дэманстраваліся ў межах рэтраспэктыўнай праграмы фэстывалю, ужо сталі часткаю клясычнага кінэматографу й уступілі ў дыялёг зь некалькімі пакаленьнямі гледачоў, то выстава — гэта голас сучаснасьці, які гучыць у гэтай сацыякультурнай прасторы, які зьвяртаецца да постсавецкіх рэаліяў. Фэстываль плянуецца ня як разавае мерапрыемства, таму можна казаць пра будучыню квір-культуры ў Беларусі. Сама назва выставы арыентуе гледача на пытаньні пэўнага характару: што там, за межамі канцэпту маскуліннасьці? Больш за тое, — гэта багата, разнастайна, гэта дэканструкцыя табу, гэта рэвалюцыйная эклектыка элемэнтаў, якія традыцыя прыпісвае двум розных полюсам жыцьця — мужчынскаму й жаночаму, брутальнаму й пяшчотнаму. Чаму ж аб’ектам у дадзеным выпадку выступіў ён, а не яна? Як кожны з нас зьвязаны з квір-праблематыкай? Як рэагаваць на выклік нашым уяўленьням пра норму патэрну паводзінаў і вонкавага выгляду?

«Больш за ЯГО» прэтэндуе на пашырэньне межаў, якія жорстка кантралююць нашую культуру й паўсядзённае жыцьцё. Гаворка ідзе ў першую чаргу пра пераадоленьне мяжы, якую праводзяць вакол мужчынскага й жаночага ў грамадстве з гендэрнай бінарнасьцю. Пытаньні ідэнтычнасьці, сэксуальнасьці й гендэру прынята залічваць да сфэры інтымнага, выстава ж выносіць іх у публічную прастору, артыкулюе на ўзроўні шырокай аўдыторыі. Тое, што звычайна хавалі сярод шкілетаў у шафе, стала бачным. І сэрыя фатаграфіяў Юліі Канаплёвай-Лейдзік «Дыфузія» паказвае, як гэта можа распачаць рэакцыю: успрыманьне гендэру як спэктру размывае клішэ й дае магчымасьць дзеля ўзаемапранікненьня двух сьветаў, якія прынята лічыць чужымі, разьвязвае рукі для мноства камбінацыяў з элемэнтаў. Квір — гэта апантаны маналёг пасьля стагодзьдзяў маўчаньня, пунсовая памада й вострыя абцасы, на якія глядзіць увесь горад, — у процівагу былой нябачнасьці.

«Больш за ЯГО» — гэта сацыякультурная зьява, якая прэтэндуе на ўмяшаньне ў штодзённасьць, у побытавыя практыкі. Героі фатаграфіяў на пэўны прамежак часу сабатавалі гендэрную бінарнасьць у прыватным жыцьці, і гэта было задакумэнтавана й прапанавана грамадзтву як пытаньне, як хадайніцтва аб пераглядзе нормаў і традыцыяў. Самавызначэньне як пэрформанс, жыцьцё як мастацтва, адкрытасьць новаму як найвышэйшая каштоўнасьць. Азначэньне фэстывалю як квір-праекту ўжо артыкулюе вымушаную адчужанасьць гэтага сьветаадчуваньня ад гегемоніі гетэранарматыўнасьці.

Аднак варта адзначыць, што па сваёй сутнасьці квір-культура не варожая традыцыям і законам, якія склаліся ў мастацтве, — яна толькі абвяшчае свае права існаваць, робячы жыцьцё «забытых» людзей бачным.

Квір-культура — гэта не добраахвотна сэпаратысцкія сфэры, а тое, што такімі зручна лічыць у гетэранарматыўным грамадзтве: калі прадмет мастацтва так ці інакш зьвязаны зь іншымі ідэнтычнасьцямі, да яго лепяць ярлык таго, што арыентавана толькі на квір-людзей, выключаючы магчымасьць дыялёгу. А мастацтва ж вельмі рэсурснае ў якасьці перагаворнай пляцоўкі, яно можа выконваць міратворчую функцыю, пазбаўляць ад ксэнафобіі, калі творца й глядач настроеныя на ўзаемадзеяньне. Такім чынам, выстава «Больш за ЯГО» накіраваная на шырокую аўдыторыю, а ня толькі на квір-супольнасьць. Выстава праходзіла ў галерэі «Ў», і гэта мае на ўвазе выхад «з шафы», арыентацыю на любога гледача: як на таго, што прыйшоў мэтанакіравана, так і на ўсіх тых, хто апынуўся там без папярэдняга абдумваньня квір-сьветаадчуваньня.

«Больш за ЯГО» — гэта своеасаблівы тэст на ксэнафобію й рэфлексійнасьць, які многія беларусы правалілі пасьля перамогі Канчыты Вурст на «Эўрабачаньні». У дадзеным выпадку гаворка пра лякальную культурную падзею, што толькі падкрэсьлівае адрасную накіраванасьць: калі «Эўрабачаньне» не адрасуецца канкрэтна беларускаму гледачу, то выстава «Больш за ЯГО» — гэта дотык квір-культуры да пляча кожнага, гэта пытаньне, ад якога немагчыма ўхіліцца.



Выстава «Больш за ЯГО». Менск, 2015

«More that HE» exhibition. Minsk, 2015

Тэксты, якімі суправаджалася выстава, падкрэсліваюць ейную сувязь з часам і прасторай, даюць уяўленьне пра тое, наколькі моцныя рэакцыянэры ад мастацтва:

*«Дзяўчынка Юля вучылася ў Акадэміі Мастацтваў адной зь Вялікіх Стабільных Дзяржаваў сусьвету. І вось аднойчы ёй далі заданьне — паказаць "дыфузію" канцэптуальна, выбраць мадэлі, прыдумаць актуальны імідж. Юля справілася з заданьнем. Ейная праца так шакавала выкладчыкаў, што сэрыя "Дыфузія" была схаваная за зачыненымі дзьвярыма, і нават ня ўсе мадэлі змаглі ўбачыць вынік. Страх».*

*Ганна Лок, «Казка пра Юлю, дыфузію й страх», урывак*

Тася Жыўкава й Юлія Канаплёва-Лейдзік дадаюць да гэтага, што гендэрная бінарнасьць — гэта турма, якую неабходна пераадолець спачатку ўсярэдзіне сябе, сьцьвердзіць свабоду ў асабістай прасторы — і потым знайсьці дарогу ў публічнае:

*«Свабода мае на ўвазе асабістую адказнасьць. Даўно вядома, што многія людзі, якія правялі гады ў месцах зьняволеньня, пачынаюць панічна баяцца выходзіць на волю — яны ня ведаюць і не разумеюць, што ім там рабіць».*

*Юлія Канаплёва-Лейдзік*

*«Апынацца па-за дапушчальным стандартам незвычайна й нязручна. Намацваньне сябе выклікае ў лепшым выпадку козыт, часьцей — млоснасьць, галавакружэньне й удушша. Адказнасьць за чужое ўспрыманьне збоку ўключае ахоўныя мэханізмы».*

*Тася Жыўкава*

У артыкуле Антона Барысенкі «Больш за выставу»[1] ўжо ўздымалася пытаньне пра куратарскі тэкст і іншыя тэксты, якія суправаджаюць экспазыцыю. І пытаньне гэтае немалаважнае: тэкст на выставах такога кшталту выконвае тлумачальна-арыентавальную функцыю, што дазваляе пры неабходнасьці «падцягнуць» гледача на належны ўзровень разуменьня. Аднак адзінкавы тэкст ня можа замяніць той комплекс узьдзеяньня, які выхоўвае талерантнае грамадзтва. Экспрэс-лікбез не спрацуе супраць шматгадовай звычкі прадузятасьці й адмаўленьня, і адзінкавае лякальнае ўзьдзеяньне ня стане панацэяй — хутчэй, трыпутнікам, які дзеці прыкладаюць да ранкі на каленцы. Выстава адрасаваная шырокай аўдыторыі, ейная мэта якраз у тым, каб ня быць сэпаратысцкім, субкультурным мерапрыемствам «для сваіх», але гэта ня значыць, што ў межах аднаго дзеяньня можна вырашыць праблему постсавецкай гетэранарматыўнасьці як ладу жыцьця й як закону мастацтва.

Пустая прастора сьценаў у дадзеным кантэксьце — гэта таксама своеасаблівая інсталяцыя. Калі глядзіш на месца, якое магло быць занятае праектамі іншых фатографаў і мастакоў, міжволі задумваесься пра тое, чаму ж гэтага не адбылося, адкуль у нас гэтыя культурныя прабелы, ці будуць яны запоўненыя ў будучыні.

## Наколькі страшна выйсьці з турмы, зь бясьпечнай сфэры «ўхваленых» тэмаў, ці кранае мастакоў тое, што адбываецца там, дзе людзі, — больш, чым ён або яна?

Як паказвае практыка, праблемы рэпрэзэнтацыі квір-супольнасьцяў, групаў, людзей у мастацтве й мэдыя хвалююць ня толькі арганізатараў і ўдзельнікаў фэсту «Дотык»: у 2014 і 2015 гадах адбыліся выставы «ХХY» (верасень-кастрычнік 2014, 34mag.net, pARTisan) і «Камін Аўт» (верасень 2014, Makeout), у верасьні будзе МЕТА-квірфэст (Makeout). Прычым арганізатары ўсьведамляюць патрэбу публікі ў інфармацыі, і мерапрыемствы не праходзяць у фармаце простай дэманстрацыі выставачнага матэрыялу або кіно — гэта адбываецца разам зь лекцыямі, дыскусіямі на аснове дакумэнтальных фільмаў. У сукупнасьці гэта сапраўды можа працаваць як адукацыйная, асьветніцкая сіла. Пашырэньне аўдыторыі — тэндэнцыя квір-культуры. Калі ў прэс-рэлізе да выставы «ХХY» сказана, што яна «не рэкамэндуецца да прагляду асобам, якія прытрымліваюцца кансэрватыўных поглядаў на сэксуальныя ўзаемадачыненьні», то арганізатары «Камін Аўт» сьцьвярджаюць: *«Важна разумець, што гаворка не ідзе выключна пра "гомасэксуальныя" камін-аўты, і сам фотапраект — больш, чым для і пра ЛГБТК-камʼюніці. З дапамогай праекту мы спрабуем распачаць дыялёг, які мог бы дапамагчы пераадолець мяжу паміж "мы" й "яны". "Дотык" і выстава "Больш за ЯГО" як ягоная частка падтрымлівае рыторыку, заснаваную на ўзаемадзеяньні, а не правядзеньні межаў: "усе мы ў нейкай ступені гуляем у мужчын і жанчын, у тым ліку з дапамогай нашага адзеньня, макіяжу, рухаў і плястыкі"».*

Квір-культура ў Беларусі ўжо складаецца ў нешта пэўнае, намацвае сваю дарогу да розумаў і сэрцаў, выбудоўвае дыялёг з прасторай і людзьмі. Зьяўляюцца пэрсаналіі й культурна-адукацыйныя праекты, якія прэзэнтуюць і папулярызуюць квір-тэорыю. І тое, што гэта некалькі праектаў і імёнаў, зьяўляецца своеасаблівай страхоўкай ад элітарнай замкнёнасьці на сабе, гарантуе адсутнасьць аўтарытарнасьці й манапалісцкага падыходу да мастацтва, калі самотны голас становіцца праўдзівым проста праз адсутнасьць альтэрнатываў. Плюралізм падыходаў і меркаваньняў, частотнасьць і разнастайнасьць мерапрыемстваў вырашаюць таксама праблему нечытабельнасьці знакаў і недастатковасьці, незразумеласьці куратарскіх тэкстаў для шырокай аўдыторыі: калі тэму абмяркоўваюць і аналізуюць, зьнікае патрэба ў разгорнутых тлумачэньнях. Тое, што цяпер клясыфікуецца як фрык-шоў, эпатаж, можа стаць паўсядзённай рэаліяй, і нонканформныя людзі (гаворка ня толькі пра гендэр, але й пра сэксуальнасьць) перастануць адчуваць сябе ізаляванымі й адчужанымі ад культурных працэсаў і рэпрэзэнтацыі ў мэдыясфэры.

Калі разгледзець выставу як мазаіку, дзе кожны элемэнт мае самастойнае значэньне, але пры гэтым працуе на агульную карціну, то можна заўважыць, як матыў эклектычнасьці зьяўляецца й у складзе экспазыцыі. Эклектыка, прыведзеная да гармоніі. Малюнкі **Анатоля Бялова** паказваюць іншасьць рознага кшталту: гомаэратычныя матывы пераплятаюцца з гендэрнай субвэрсіяй, тэмы фізычнага гвалту й самазадавальненьня стаяць побач. У галіне гуманітарных навукаў квір-тэорыя й тэорыя перасячэньняў набліжаюцца адна да адной, і гэта можна прыкласьці да дадзенай выставы, «падоўжыць» ейную тэму, забясьпечыць гледача дадатковымі інструмэнтамі аналізу рэчаіснасьці, больш адчувальнай да дыскрымінацыі оптыкай. «Eastern Europe in Drag» — куратарскі праект **Дзьмітрыя Суслава** — быў прадстаўлены фотасэрыяй «Taic» **Шуры Канончанка**, «Drag Activism», «Drag Show» — як прапанова выйсьці за межы, сугучная тэме як выставы, так і фэстывалю ў цэлым. І калі выстава правакуе крок за гендэрную бінарнасьць, то «Taic», «Drag Activism», «Drag Show» — гэта пашырэньне геаграфічных і этнакультурных межаў, параўнаньне досьведу іншых краінаў зь беларускім, убудоўваньне нашай культурнай прасторы ў агульнасусьветную. «Drag Activism», «Drag Show» Суслава й Бабіцкай — яскравае дзейства, якое па форме нагадвае карнавал, але па сутнасьці наўпрост процілеглае яму: людзі не прымяраюць іншы вобраз у выглядзе

[1] Антон Барысенка. Больш чым выстава. pARTisan web-часопіс. Адрас доступу: http://partisanmag.by/?p=11411

кароткатэрміновага экспэрымэнту — праз пэрформанс, праз трансфармацыю свайго вонкавага выгляду яны сьцьвярджаюць сваю самасьць, сваю адрознасьць ад тых, хто прыкладае да жыцьця толькі чорнае й белае як меркі абсалютнай праўдзівасьці. Пераапранаючыся, героі фота становяцца сабой — тымі, хто змагаецца за ўсеагульнае права на разнастайнасьць; тымі, хто кажа пра сваю прысутнасьць ня словамі, але кожнай клетачкай цела. «Drag Activism» і «Drag Show» — узаемадапаўняльныя элемэнты, якія паказваюць квір жывым, дынамічным, з пэўным месцам у прасторы. Гэта й рух — і замерлі імгненьні жыцьця, якія маюць права быць задакумэнтаванымі й захаванымі.

Пакуль Пеця, герой сэрыі «Дыфузія» (**Юлія Канаплёва-Лейдзік**), задае сабе й гледачу пытаньні пра тое, што такое ідэнтычнасьць і як яе знайсьці, экспазыцыя становіцца тым самым адказам, дакладней, яго варыянтам, і гэта вяртае да ўспрыманьня выставы як эклектыкі элемэнтаў, магчымасьцяў, спосабаў. Сэрыя Тасі Жыўкавай ёсьць сэмантычным фіналам выставы, і гэты фінал адкрыты. Інсталяцыя з бранзалетам, прэзэрватывам і трэнажорам-эспандэрам адсылае нас да ўспрыманьня гендэру як спэктру, дзе няма выразных межаў, але ёсьць узаемаабумоўленасьць, узаемасувязь і ўзаемапранікненьне.

Гендэр як акружнасьць, а ня як кропка. Гендэр як дынаміка, а ня як вядомы ад нараджэньня адказ.

Фотаздымкі, зробленыя на вуліцы, кажуць гледачу пра тое, што з турмы выходзіць неабходна, што паветра й прастора патрэбныя чалавеку, каб ня стрымліваць сьмелы крок. Але куды накіраваць гэты крок? Quo vadis? І кожны вырашае сам. І кожны спалучае й зьмешвае. Адказы варыятыўныя.

Я никогда
никому
не была
нужна
ни будучи
мужчиной
или ...женщиной

КТО ТЫ, Я?

Петя

Выстава «Больш за ЛГО». Менск, 2015
«More that HE» exhibition. Minsk, 2015

# Тэрарыст

Адзін ідзе на сьвята, каб паглядзець, другі ідзе на тое ж сьвята, каб сябе паказаць.

Я не зьбіраўся паказваць сябе, і не было ў мяне настрою разам з паўмільёнам беларусаў глядзець на тых, хто вырашыў паказаць сябе на Дзень незалежнасьці. Карацей, на сьвята я не хадзіў і ня бачыў той, зладжаны тэрарыстам, выбух, ад якога пацярпела больш як пяцьдзясят чалавек.

За незалежнасьць трэба плаціць! Крывёю! Усе народы плацяць крывёю за сваю незалежнасьць. Беларусы — не выключэньне. Плацілі, плацім і будзем плаціць за сваю свабоду жыцьцямі й крывёю.

Нікому незалежнасьць Беларусі, акром саміх беларусаў, не патрэбная. Ніякіх ілюзіяў на гэты конт у нас даўно няма. Прынамсі, у тых, хто мысьліць цьвяроза. Адстойваць нашую незалежнасьць давядзецца не адзін раз. Ці падрыхтаваныя мы да змаганьня, да барацьбы й да вайны, калі тое спатрэбіцца? Скажу шчыра, не падрыхтаваныя.

Нават тэрарыстычную атаку, што адбылася на Дзень незалежнасьці, шмат хто ўспрыняў як выпадковасьць і хуліганства. Няўжо паўсотні параненых яшчэ замала, каб задумацца над бясьпекаю беларускай дзяржавы?

Адкінуўшы патас, я распавяду сваю гісторыю пра знаёмства з тэрарыстам. Мой асабісты вопыт у стасунках з тэрорам досыць малы, але ён ёсьць.

Я ведаў толькі аднаго праўдзівага чылійскага тэрарыста. Звалі яго Карляс. У свае пятнаццаць гадоў ён падклаў бомбу ў аўтобус. Загінула чатыры чалавекі.

Карляс уцёк з Чылі, жыў у Парыжы, пакуль тагачасныя пінаэтаўскія ўлады не абвясьцілі яго ў міжнародны розшук. З Францыі Карляс перабраўся ва Ўсходні Бэрлін, адтуль прыехаў у Маскву, а з Масквы перахаваўся ў Менск. У Беларусі Карляс працягнуў вучобу ў мэдыцынскім інстытуце.

Да нас, у майстэрню акадэміі мастацтваў, яго прывёў мой аднакурсьнік Гена. Ён паабяцаў Карлясу напісаць ягоны парадны партрэт сапраўднага змагара й рэвалюцыянэра. Карляс даволі сур’ёзна паставіўся да пазіраваньня й гадзінамі сядзеў у майстэрні. Пра што мы толькі зь ім не перагаварылі...

Свае погляды Карляс не хаваў. Ён быў перакананым камуністам, ён верыў у перманэнтную рэвалюцыю, верыў у перамогу камуністычнай ідэалёгіі ўва ўсім сьвеце. Спрачацца зь ім было цяжка, бо адна справа — чытаць працы Леніна ці слухаць пра іх на занудлівых занятках па навуковым камунізьме, а іншая рэч — чытаць іх, як Карляс, хаваючыся й перахоўваючыся на явачных кватэрах. Усіх, хто крытычна выказваўся пра дыктатуру пралетарыяту, Карляс адразу залічваў у фашысты.

«Ты не прымаеш дыктатуру пралетарыяту, значыць ты — фашыст, і можаш ісьці да Пінача й пачысьціць яму боты...» Ісьці да Пінача ў мяне жаданьня не было, і чысьціць боты дыктатару я не зьбіраўся. Але й пагаджацца на дыктатуру пралетарыяту жаданьня не ўзьнікала. Калі ўжо й разглядаць гісторыю з клясавым падыходам, дык сялянка зь сярпом мяне больш вабіла, чым пралетар са сваім малатком.

Карляс, чыё дзяцінства прайшло ў аўтарамонтнай майстэрні, не хацеў нават чуць пра роўнасьць пралетарыяў зь сялянамі. Непахіснасьць Карляса засмучала. Я ня мог зразумець чалавека, які прынёс бомбу ў сваю аўтарамонтную майстэрню, у свой аўтапарк.

«Яны не павінны былі выходзіць на працу! Мы дамовіліся на забастоўку! А яны — штрэйкбрэхеры — здрадзілі й выйшлі! Яны прадалі нас, яны прадалі свой народ, яны заслужылі сьмерць. Я паклаў бомбу ў аўтобус, якім кіраваў штрэйкбрэхер, у аўтобусе ехалі штрэйкбрэхеры, здраднікі. Я іх узарваў, і я не шкадую пра зробленае. Мы яшчэ вернемся ў Чылі! Ты пагледзіш, як мы вернемся ў Чылі й будзем судзіць Пінача!»

Я ня веры, што Карляс вернецца на радзіму й што Пінача, які аддаваў загады аб катаваньнях людзей на стадыёнах, нехта некалі будзе судзіць. Тады Карляс, каб разьвеяць маё нявер’е, запрасіў мяне на чылійскае сьвята.

На тое сьвята я мусіў прыйсьці з карцінамі, і ня проста з карцінамі, а з карцінамі рэвалюцыйнымі. Я панамалёўваў рэвалюцыянэраў з паходнямі, панамалёўваў іх у экспрэсіўнай стылістыцы Давіда Сікейраса, таго самага Сікейраса, які зьдзяйсьняў тэрарыстычную акцыю забойства Троцкага. Ён страляў у Троцкага празь сьцяну з буйнакалібэрнага кулямёту. Страляў, але не пацэліў, тым разам Давід Троцкі застаўся жыць, а Давід Сікейрас вярнуўся да сваіх рэвалюцыйных сьценапісаў. Зь ягоных сьценапісаў, дарэчы, і пачалася хваля татальнага графітызму.

Карляс замовіў мне вялізныя рэвалюцыйныя малюнкі, і я іх зрабіў, за што атрымаў дзьве бутэлькі сухога чырвонага віна й магчымасьць папрысутнічаць на сьвяце ў чылійскай грамадзе. Мы танчылі, сьпявалі, весяліліся...

Ува ўсёй гэтай карнавальнай, але вельмі змрочнай, гісторыі пра маё знаёмства з тэрарыстам Карлясам ёсьць толькі адна пазытыўная дэталь: Карляс вывучыўся на доктара й стаў працаваць генікологам.

# Хітрадушнік

Чаму ўва ўсіх хітрадушнікаў, якіх я ведаў і ведаю, жыцьцё склалася кепска? Здавалася б, усё мусіла быць роўна наадварот. Хітрасьць так блізка ляжыць каля розуму, што большасьць людзей і адрозьніць іх ня можа. Дзе тая хітрасьць, а дзе той розум? Хітрадушнік пра тое цудоўна ведае й гуляе на гэтым. Ён так захапляецца гульнёю з розумам, што ў рэшце рэшт сам сябе й абдурвае. У хітрадушніка нестае духу прызнацца ў паразе, ён працягвае хітраваць, працягвае дурыць галаву іншым і сабе. Яго ніхто ўжо не ўспрымае ўсур’ёз, да ягоных словаў не прыслухоўваюцца, яго тэксты не чытаюць, а ён усё яшчэ поўны надзеяў абдурыць увесь вялікі сьвет.

Стары хітрадушнік — мярзотнае відовішча. Яму б спыніцца, яму б азірнуцца. Не! Ён мітусіцца ў няспынным працэсе. Ён ня можа прызнацца самому сабе, што шлях ягоны быў і застаецца памылковы.

Хітрадушнік ня можа быць простым, а таму й свабодным ён быць ня ў стане. Ён залежны ад абставінаў, варункі заўсёды мацнейшыя за яго. Ён раб азарту, ён захоплены гульнёю. Ты яго спыняеш, кажаш, што жыцьцё простае, а ён табе ня верыць! Ён думае, што ўсе хітруны, што ўсе ілгуць і ў гулі гуляюць.



Мак Разанаў. Глёбус'7І. 2005. Самаразмаляваны здымак
Mack Ryazanov. Globus'7I. 2005. Selfpainted photo

# ФРЫКІ-2

## Адам Глобус

Хітрадушнік верыць у фарт! Простаму чалавеку ня трэба верыць у фартуну, у выпадак, у цуд. Для простага й так усё ясна й зразумела. А для хітрадушніка ўсё жыцьцё — складаны лябірынт. Нават у выпрастаным сюжэце ён бачыць заблытаную інтрыгу. Ён спрабуе яе разгадаць — і заблытваецца канчаткова. Тады хітрадушнік пачынае лгаць. Ён ілжэ, ілжэ, ілжэ... Ён нагрувашчвае гурбы лжывых дробязяў. Ён тоне ў непатрэбнай драбязе побач з простым шляхам. Ён тоне, захлынаецца й працягвае верыць у фарт, які яго ўратуе. Менавіта на гэта й цяжка глядзець. Ты бачыш, як хітрадушнік тоне, бачыш, як блізка ляжыць выратаваньне, але дапамагчы ня можаш. Свой розум у чужую галаву не ўкладзеш.

Вось просты прыклад... Ты малады й закахаўся, цябе кахаюць, ты ажаніўся, і ў вас зьявіліся дзеці. Проста. У хітрадушніка так ня будзе. Ён і ў стасунках з жанчынамі шукае выгодаў. Ён ажэніцца не на каханай, ён выкарыстае каханьне, каб прысваячыцца да цешчы, якая зможа яму падараваць кватэру. Хітрадушнік ня бачыць таго, што ягоная цешча купляе кватэру не яму, а для дачкі. І на пасаду цешча ўладкоўвае хітрадушніка, каб у доме дачкі вяліся грошы, а хітрадушнік гэтага ня бачыць, бо верыць у сваю вялікую хітрасьць.

Ці другі прыклад... Табе захацелася выпіць гарэлкі, ты пайшоў да сяброў і выпіў гарэлкі проста так, дзеля весялосьці й задавальненьня. Хітрадушніку калі й заманецца выпіць гарэлкі, дык ён набудзе пляшку й пойдзе да вядомага чалавека. Ён скажа таму чалавеку, што прынёс пачастунак ад шчырага сэрца. Нават простае п'янства хітрадушнік спрабуе перахітраваць.

Хітрадушнік ніколі ня зробіць нічога малапатрэбнага, нічога ня зробіць для душы.

Хітрадушнік верыць у таямніцу, ён верыць, што можна даведацца таямніцу й, дзякуючы гэтай таямніцы, зможа ўзвысіцца над астатнімі, менш хітрымі, чалавечкамі. Таму для хітрадушніка вельмі важныя чыны й пасады, розныя допускі і ступені гэтых допускаў. Ён можа нават пакутаваць праз тое, што ў яго допуск ня шостай, а толькі трэцяй ступені. Але, нават займеўшы допуск шостай ступені, хітрадушнік не ўзрадуецца й не супакоіцца. Ён усім навокал будзе лгаць, што мае допуск сёмай ступені, а з пляшкай дарагога каньяку будзе лезьці да людзей з допускам дзявятай ступені. У рэшце рэшт людзі зразумеюць, што хітрадушнік ня вельмі разумны й зусім ня шчыры чалавечак, і кар'ера ягоная скончыцца, і допускі яму не дапамогуць, ды й забяруць у яго тыя допускі, што разумна.

# Пустабрэх

Прагледаю сайты, адным вокам касавуруся на тэлевізар, гартаю газэты й паўсюль, за невялікім выняткам, бачу й чую татальнае пустабрэхства.

Кожнае, нават самае малазначнае, здарэньне абрастае такой колькасьцю апавядальнікаў, што ўявіць тое здарэньне, абапіраючыся на стракатыя карцінкі й шматслоўныя апісаньні, немагчыма.

Абвяшчаць вайну шматгаловым, шматаблічным і шматмоўным пустабрэхам не выпадае. Бо ісьці ваяваць, загадзя ведаючы пра паразу, не разумна. Але паказаць пустабрэха й паразважаць пра ягоную нікчэмнасьць, лічу, варта.

Задумацца пра пустабрэхства мяне змусіў кінарэжысэр Міхалкоў. У нашым тэатральна-мастацкім інстытуце ладзіліся сустрэчы зь вядомымі людзьмі. Прыходзіў на такую сустрэчу галоўны кінаіндзеец — Гойка Міціч, прыходзіў і Мікіта Міхалкоў. Тыя сустрэчы радавалі простасьцю ўзаемадачыненьняў і адсутнасьцю лжы, якая нават у вядомых і сьмелых людзей зазвычай зьяўляецца перад камэрай і мікрафонам.

На падобныя сустрэчы мастакоў прыходзіла заўсёды болей, чым актораў і рэжысэраў. Таму й гаворка зь Міхалковым пайшла пра жывапіс...

З усёй вялікай сям'і Міхалковых асабіста мне падабаецца жывапіс дзеда Мікіты — Пятра Канчалоўскага, які разам з Ларыёнавым і Машковым стварыў гурт зь дзёрзкай назваю «Званковы валет». Гэты «Валет» пабіў змрочны псэўдарэалізм і інфантыльнае «міріскусьніцтва». «Валет» стварыў рускі кубізм, за што й павага яму, і пашана. Міхалкоў нават выбачаўся, што ня вельмі захапляецца жывапісам свайго дзеда Канчалоўскага й свайго прадзеда Сурыкава, бо знаходзіцца ў эстэтычным полі Фядотава, дзякуючы якому стварае візуальны вобраз кінастужкі пра Абломава. Не магу не сказаць: экранізацыя рамана Івана Ганчарова — на мой розум, найлепшая кінапраца Мікіты Міхалкова.

Падчас той сустрэчы Міхалкоў толькі аднойчы зьбіўся ў размове з роўнай танальнасьці. Зьбіўка была зьнітаваная зь фільмам «У чацьвер, і больш ніколі». Міхалкоў назваў той фільм «шыфраваньнем пустаты», маўляў, калі людзям няма чаго сказаць, яны пачынаюць з разумным выглядам распавядаць пра розную непатрэбшчыну. Пагадзіцца зь Міхалковым было цяжка, бо ў фільме расказвалася гісторыя каханьня. Малады мужчына, сыграны Алегам Далем, на адзін дзень зьяжджае са сваёй каханкаю з гораду ў вёску, а наступным днём ён вяртаецца ў горад, вяртаецца да сваёй жонкі. На тле манумэнтальна-прапагандысцкіх фільмаў лірычная гісторыя пра няспраўджанае каханьне глядзелася вельмі сьвежа й эратычна. Ня дзіва, што майстру прапаганды Міхалкову яна не спадабалася, і ня проста не спадабалася, а выклікала абурэньне.

Словазлучэньне «шыфраваньне пустаты» запомнілася. З таго часу я шматкроць прыгадваў яго, калі бачыў халтурны фільм ці чытаў бяздарны тэкст.

Шыфравальнік пустаты й ёсьць пустабрэх.

Сам па сабе пустабрэх — бяскрыўдная нікчэмнасьць, але шкоду ўяўляе неверагодная колькасьць гэтых пустабрэхаў. Сваім несупынным шумам-звонам-балбатаньнем яны запаўняюць этэр так, што пачуць голас разумнага чалавека амаль немагчыма.

Пустабрэх згодны разважаць на любую тэму, абмяркоўваць любое пытаньне. Для пустабрэха не існуе ніякіх нормаў і абмежаваньняў. Ён працуе, як люстэрка; і, як у люстэрку, у ім няма ні глыбіні, ні цяпла, ні фактуры. Затое ў ім ёсьць гладкасьць, глянцавітая глямурнасьць і відавочнасьць аб'ектыўнасьці.

Пустабрэх-мужчына зазвычай адпускае дагледжаныя вусікі, каб надаць свайму абліччу нейкую перакanaўчасьць. Жанчына-пустабрэх любіць запакоўвацца ў жакет або пінжак шэра-стальнога колеру — дзеля ўяўнай саліднасьці.

Твары пустабрэхаў падобныя да тэатральных масак з намаляванай добразычлівай усьмешачкаю.

Здавалася б, што трэба ўзяць важкі малаток і разьбіць пуставокую маску пустабрэха, але такое памкненьне памылковае, бо пустабрэх і так мёртвы.

# Палітвар'яты

Мастакоўскае вока заўжды прываблівала адметная зьнешнасьць. Яно й зразумела, бо, ствараючы зьнешняе — форму, мастак увадначасьсе стварае й зьмест.

Часам замоўцы ставяць перад мастаком амаль невырашальную задачу. Напрыклад, просяць намаляваць прарока, якога мастак ніколі ня бачыў і бачыць ня мог. Задача пастаўленая й патрабуе вырашэньня. Мастак пачынае шукаць выразныя твары, адметныя постаці. Шукае ён паўсюль і заўжды. Нічога дзіўнага няма й у тым, што падобныя пошукі прыводзілі мастака ў месцы, схаваныя ад звычайных вачэй. Мастак мог маляваць і ў анатамічных тэатрах, і ў турмах, і ў вар'ятнях. Таму ў мастакоўскім асяродку выглядам вар'ята нікога ня зьдзівіш.

Мастакі навучыліся спакойна ўспрымаць зьнешнюю выродлівасьць, як і зьнешнюю прыгажосьць, дарэчы. А яшчэ яны навучыліся ня горш за дактароў адрозьніваць хворага чалавека ад здаровага.

Асабіста мяне ня моцна прываблівалі паходы ў анатамічку й маляваньне пазелянелых і зафармаліненых трупаў. Але я, як і ўсе прафэсійныя мастакі, хадзіў у сьмярдзючы анатамічны тэатар і вывучаў плястычную анатомію ня толькі тэарэтычна, а й практычна — са скальпэлем у руцэ. На маёй кніжнай паліцы доўгі час стаяў сапраўдны, а не муляжны, чалавечы чэрап, уласнаручна выкапаны на менскіх могілках. Адукацыйны працэс вымагаў доўгага маляваньня чалавечага шкілета, ну а чэрап ува ўсім шкілеце — дэталь найгалоўнейшая.

Экскурс у мінулае мне спатрэбіўся для таго, каб напісаць адзін сказ... Зь вялікай верагоднасьцю праўды я магу адрозьніць чалавека нармальнага ад вар'ята.

Я маляваў і апісваў самых розных вар'ятаў шмат разоў. У гэтым эсэ я паспрабую зрабіць накід да партрэту найноўшага беларускага палітвар'ята. Прашчура гэтага дурня толькі аднойчы ў нашай літаратуры паказаў Янка Купала, напісаўшы трагікамэдыю «Тутэйшыя». Мікітка Зносак са сваімі гарлапанствам і ўскрыкамі «далоў-далоў», безумоўна, прашчур сучаснага палітвар'ята.

Вар'яты-палітыкі на нашых вуліцах зьявіліся ня так і даўно. Доўгі час у палітыку нельга было прыйсьці з вуліцы, і з той вялікай палітыкі нельга было на вуліцу выйсьці. Цяпер палітычнае жыцьцё так спрасьцілася, што шмат людзей проста з вуліцы трапілі ў палітыку, а потым іх з той палітыкі на тую ж вуліцу й выкінулі. Ня дзіва, што шмат хто з экс-палітыкаў ня вытрымаў прыніжэньня й звар'яцеў.

Замест таго каб пачаць новае беспалітычнае жыцьцё, палітвар'яты спрабуюць граць ролю сапраўдных палітыкаў. У людных месцах яны разгульваюць з прыціснутым да вуха сотавым тэлефонам і робяць выгляд, што даюць інтэрвію. Твары іх пасінелі ад п'янства. Вопратка паабношвалася. Рухі зрабіліся нэрвовымі, а галасы — хрыпатымі. Вочкі іх мітусяцца...

Палітвар'ятаў не шкадую. Яны ў мяне выклікаюць агіду. Чаму? А таму, што ўласна палітыкамі яны ніколі й не былі. Ніякіх палітычных поглядаў ня мелі. Калі б яны мелі палітычныя погляды, яны б працавалі аналітыкамі, аглядальнікамі, распрацоўвалі й удасканальвалі б партыйную працу, чыталі б лекцыі й кансультавалі б моладзь. А гэтыя праглі адно ўлады, а калі яе страцілі, пачалі нудзіцца, сьпівацца й вар'яцець.




У вар'ятні, што месьціцца ў мястэчку Слабодка, пра падобных людзей казалі, што яны размаўляюць з Космасам. Па вялікім рахунку, яны й размаўляюць з Космасам, і месца ім у той жа ж Слабодцы. Толькі наша публіка яшчэ не прызвычаілася да простай думкі, што й сярод палітыкаў могуць быць сапраўдныя вар'яты.

Да таго, што вар'яты трапляюцца сярод мастакоў і паэтаў, усе даўно прывыклі. Нават прывыклі да такой дурасьці: быццам бы сярод паэтаў і мастакоў вар'ятаў значна больш, чым сярод рабочых ды сялян. Мой вопыт і мае досьледы паказалі цалкам супрацьлеглыя дадзеныя. Якраз большасьць хворых на галаву — людзі простыя й да творцаў аніякага дачыненьня ня маюць. Адпаведна, вялікай шкоды просты вар'ят зрабіць ня можа. А вось звар'яцелы палітык можа нарабіць шмат шкоды. Таму да ўсіх вар'ятаў трэба прыглядацца пільна, асабліва цяпер, калі сярод іх зьявіліся новабеларускія гарадзкія палітвар'яты.

# Актор-рэжысэр

Кепскі той актор, які ня марыць стаць рэжысэрам... Праўда? Паглядзім-пагледзім...

Асабіста я не люблю падвоеныя прозьвішчы. Усе гэтыя Пшыкавы-Дуплетавы ды Струмені-Баршчавікі патыхаюць магільнай пазамінуласьцю дзевятнаццатага стагодзьдзя. Яшчэ меней я паважаю падвоеныя прафэсіі кшталту гэтага самага актора-рэжысэра. Але я люблю словы, напісаныя праз дэфіс, таму зь непрытоеным захапленьнем напішу пра актора-рэжысэра.

Сучасныя акторы спрабуюць рэжысаваць сцэнкі на тэлебачаньні. Чаму не? Тэлевізія цяпер складаецца зь бясконцых ананістычных підарачак «сам сабе актор-

рэжысэр-сцэнарыст-фінансіст». Усё яшчэ апэратары вылучаюцца ў асобную касту, але гэта ня доўга будзе цягнуцца. Калі цяперака фотаапаратаў на зямлі больш за людзей, дых хутка ўсе гэтыя апараты ператворацца ў камэры. Працэс ідзе. Неўзабаве наш актор-рэжысэр паставіць пару камэр на штатывы — і пайшло-паехала без апэратара.

Але вернемся да расповедаў пра актора-рэжысэра. Пусты чалавек. Зусім пусты, чым больш у ім пустаты, тым лепей. Бо ў гэтую пустату можна напампоўваць ролі з жэстамі, з думкамі, з характарамі.

Ёсьць, канешне, і характарныя акторы-рэжысэры: барадатая жанчына, мужчына-гігант, ліліпуцікі, выразныя прадстаўнікі заняпалых нацменшасьцяў, карыкатурнатварыя й карыкатурнацелыя прадстаўнікі нацбольшасьцяў, мужчына-баба-яга, жанчына-зьмяюка... Ты разумееш? Вядома, разумееш! Але гэта больш цырк, чым тэатар, больш арэна, чым сцэна. Ад такіх выступоўцаў адзін крок да спартанцаў-спартоўцаў, а там чалавечае пачынае зьнікаць і пачынае праяўляцца жывёльна-прыроднае. Таму вернемся да пустаты актора-рэжысэра, у якую заганяецца роля.

Разумны актор-рэжысэр — паслухмяны актор-рэжысэр. Ён слухае прадзюсэра-грашадаўцу, ён завучвае слова ў слова тэкст п'есы, ён апранае тое, што раіць мастак, ён глядзіць туды, куды скажа апэратар. Геніяльны актор-рэжысэр можа дагадзіць адразу ўсёй здымачнай групе. Ён можа дагадзіць яшчэ й мільёнам сваіх гледачоў-слухачоў.

Наш актор-рэжысэр зазвычай выводзіцца з проста-актора. Калі слава прыходзіць да актора, ён і пачынае задумвацца пра рэжысэрскую кар'еру, пра ролю лялькавода... Ну што тут цяжкага? Я тысячы разоў бачыў, як гэта робіцца? Змагу!

Актор пачынае пераймаць паводзіны рэжысэра, зьнешняе перайманьне ў яго атрымліваецца выдатна. Жэсты, крыкі, камандныя інтанацыі, спапяляльныя погляды — рэжысэр самы сапраўдны! Але ж словы, у якіх павінен быць яшчэ й сэнс, не ідуць, не ліецца песенька, песенька ня йдзе. Словы ёсьць, а сэнсаў у іх брак. Абракадабрычная тарабаршчына сыплецца з актора. Калі разумны, даводзіцца адступаць, даводзіцца заставацца акторам. Шмат хто з актораў у такія моманты пачынае піць. Няўдача заганяе актора ў дэпрэсію, і ён пачынае заліваць сваю пустату гарэлкай. Тэатральныя буфэты памятаюць тысячы актораў-п'яніц. Але ёсьць тупыя й нахабныя, упартыя й настырныя, і яны ня п'юць і не адступаюць, яны трансфармуюцца ў актора-рэжысэра.

Нешта я ўсё пра адмоўныя бакі з жыцьця актора-рэжысэра распавядаю, а ёсьць жа сярод іх выдатныя майстры сваёй справы, ёсьць геніі. Актор-рэжысэр гаворыць — і ты яму верыш! Верыш, што ён і ёсьць кароль Лір. Ты ведаеш, што тут — тэатар, што на сцэне актор-рэжысэр, што ўсе словы некалі даўно-даўно паэт Уільям Шэкспір напісаў, што наш паэт-жаўрук Гаўрук пераклаў, што... Верыш! І разам з гэтым не зьнікае мяжа паміж табою й сцэнаю, нават паміж акторам-рэжысэрам і каралём Лірам застаецца непарушаная мяжа, але яна не замінае атрымліваць асалоду ад відовішча.

Насамрэч у акторска-рэжысэрскім майстэрстве найскладанейшы элемэнт — гэта якраз захоўваньне мяжы паміж рэальным сьветам і сьветам рукатворным, паміж прыроднымі зьявамі й зьявамі мастацкімі. Каб мае развагі выглядалі больш пераканаўча, я згадаю аднаго рэальнага актора-рэжысэра, якога тут назаву — Ігар Міровіч-Крывенка.

Вучыўся ў беларускай Акадэміі мастацтваў такі ўвесь відны зь сябе самец Ігар Міровіч-Крывенка. Зь першага курсу ён пачаў падпрацоўваць на тэлебачаньні. Выштукоўваў Ігарок пошлыя, нібыта сьмешныя, сюжэцікі для самых розных підарачак. Аднойчы гэты мэгасамец Міровіч-Крывенка вырашыў давесьці ўсяму сьвету, што ў нашай дарагой сталіцы жывуць жорсткія, хцівыя й абыякавыя людзі. На аўтобусным прыпынку, якраз побач з роднай Акадэміяй мастацтваў, Ігар мусіў зрэжысаваць і сыграць ролю злодзея. Ён павінен быў на прыпынку выхапіць з рук выпадковай жанчыны сумку й уцячы ў двор. Схаваная камэра мусіла тое засьняць. Потым Ігар зьбіраўся вярнуць сумку й трагічным голасам паведаміць, што ніводная дзьвюхногая скаціна нават ня рыпнулася, каб дапамагчы абрабаванай жанчыне. Актор-рэжысэр Ігар Міровіч-Крывенка зьнішчыў, як вандалы Рым, мяжу паміж мастацкім і сапраўдным сьветам. Сапраўдны сьвет нечакана паўстаў, як у тым жа ж Рыме паўсталі рабы пад кіраўніцтвам нязломнага Спартака; сьвет паўстаў і на аўтобусным прыпынку нарадзіў героя. Той дагнаў актора-рэжысэра, паставіў яму падножку й зламаў няўдаламу імправізатару нагу й тры рабрыны. Герой біў актора-рэжысэра нагамі. Ён лупіў рабаўніка, ён ня ведаў ні пра тэлекамэру, ні пра здымачную групу дзяржаўнага тэлебачаньня. Герой ня ведаў пра мяжу, якая аддзяляе рэальны сьвет ад прыдуманага. А наш актор-рэжысэр ведаў пра тую мяжу. Я яму некалькі разоў тлумачыў пра яе. Марна. Ня змог я пераканаць Ігара ў заганнасьці ягоных намераў. Каюся. Не дацiснуў.

Герой нанёс бы зусім страшныя пашкоджаньні злодзею-актору-рэжысэру, каб яго не адцягнулі апэратар з рэдактарам. Герой мог бы нават забіць... Дзякуй Богу, абыйшося бяз трупаў. Нават абрабаваная жанчына хутка вярнулася ў нармальны стан.

Я быў перакананы, што здарэньне на аўтобусным прыпынку навучыць Ігара Міровіча-Крывенку паважаць нябачную мяжу, якая аддзяляе рэальнасьць ад мастацкага сьвету. Не! Ігар так і застаўся ненавучаным акторам-рэжысэрам з прагаю парушэньня ўсялякіх нормаў і межаў.

Актор-рэжысэр не разумее простыя словы: «Кесару кесарава, а Богу Богава». Такая бяда.



№ 28

# ГЕНЕРАЦЫЯ НУЛЬ

## GENERATION ZERO

Падпісана ў друк 15.05.2015. Фармат 70х100 1/8. Папера мелаваная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 12,5. Ул.-выд. арк. 12,55. Наклад 250 ас. Замова № 2520.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Галіяфы».
Запіс №1/48 у Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў
і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў
Вул. Брылеўская, 11-44, 220039, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru, www.galiafy.by

ТДА «НоваПрынт». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ 25.02.2014 за № 2/54.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.